Human Rights Center «Viasna»

# FOR RIGHT TO ELECT

## Portraits of Convicts

## Square-2010

Vilnius

Publishing House «GUDAS»

2011

**За права на выбар: Партрэты асуджаных. Плошча-2010 / Фотаальбом. — Вільнюс: «Gudas», 2011 — 142 с., 89 іл.**

Вынікам 2010-га года і чарговых выбараў Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі на чацвёрты тэрмін стала неверагодная дагэтуль наяўнасць у краіне палітвязняў — агулам каля 60-ці чалавек. Чаму гэтая лічба недакладная? Таму што большасць з іх усё ж выйшлі на волю, некаторым нават удалося пазбегнуць крымінальнага «судзілішча», і за кратамі засталіся толькі самыя-самыя. Судовыя працэсы ішлі на працягу ўсяго 2011-га года і не толькі за Плошчу. Сярод пакараных — незалежны журналіст і актывіст апазіцыйнага Саюза палякаў на Беларусі Андрэй Пачобут, прадстаўнікі анархісцкага моладзевага руху, праваабаронца Алесь Бяляцкі. Да таго ж за кратамі працягвае знаходзіцца прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч.

Маштабны наступ на грамадзянскую супольнасць краіны і масавая зачыстка пачалася менавіта 19 снежня — сілавым разгонам мірнай пратэстнай акцыі. Людзей не толькі напалохалі, збілі, пасадзілі на суткі ці аштрафавалі. Па абвінавачванні ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках за кратамі апынуліся шасцёра з дзесяці кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі, а таксама іх давераныя асобы і кіраўнікі штабоў, актывісты і прыхільнікі дэмакратычнага сцэнару развіцця краіны. Закруцілася чорнае кола помсты.

У кнізе змешчаны фотапартрэты фігурантаў Плошчы-2010, якія пасля 19 снежня трапілі пад крымінальны пераслед. Гэта трагічная старонка гісторыі нашай краіны ў асобах, за кожным з кадраў — канкрэтны лёс, выпрабаванне і... перамога. Але, на жаль, не адна на ўсіх.

У альбоме выкарыстаны здымкі фотажурналістаў Уладзя Грыдзіна, Юліі Дарашкевіч, Сяргея Балая, Вадзіма Заміроўскага, Ксеніі Авімавай, Алеся Пілецкага, Сяргея Гудзіліна, Леаніда Варламава, Аляксандра Карсакова, а таксама інтэрнэт-рэсурса photo.bymedia.net.

Для шырокага кола чытачоў.

**For Right to Elect: Portraits of Convicts. Square-2010/ Photo album. — Vilnius: “Gudas”, 2011 — 142 p., 89 il.**

Year 2010 and the election of Aliaksandr Lukashenka for the fourth consecutive presidential term resulted in an incredible number of political prisoners in the country — about 60 people. Why is this number imprecise? Because most of them were released, some even managed to avoid the criminal “mock trials”, while some others were still kept in custody. The trials lasted for the whole of 2011 and concerned not only the Square. Among those punished there is Andrei Pachobut, independent journalist and activist of opposition Union of Poles in Belarus, representatives of anarchist youth movement and human rights activist Ales Bialiatski. Entrepreneur Mikalai Autukhovich is still kept in jail, too.

A large-scale attack on the country’s civil society and a massive cleanup began exactly on 19 December — with a violent dispersal of the peaceful protest rally. People were not only intimidated, beaten, imprisoned or fined. Six out of ten candidates for President of Belarus, their electioneering agents, heads of their electoral headquarters, activists and adherents of democratic development of the country were imprisoned on charges of organizing and participating in a mass riot. The black wheel of vengeance started spinning.

The book features photographs of the participants of Square-2010 who were subject to criminal prosecution after 19 December. This is a tragic chapter in the history of our country shown in faces. There is a concrete fate, challenge and... victory behind every shot. But, alas, this is not one victory for all.

Photos by photo correspondents Uladz Hrydzin, Yuliya Darashkevich, Siarhei Balai, Vadzim Zamirouski, Kseniya Avimava, Ales Piletski, Siarhei Hudzilin, Leonid Varlamov, Alexander Korsakov and from the web resource photo.bymedia.net were used in the album.

The book is designed for a wide range of readers.

# Плошча–2010

Менавіта пад такой назвай драматычныя падзеі на плошчы Незалежнасці 19 снежня 2010 года ўжо ўвайшлі ў гісторыю. Але не адышлі ў мінулае. Не адбалелі, не забыліся, не сцішыліся. Яны застаюцца жывой, пульсуючай з'явай сучаснасці, якая ўплывае на стан грамадства, на лёсы людзей і лёс краіны.

На заснежанай, марознай плошчы сышліся ўсе асноватворныя, але ўнутрана неаднародныя, нашпігаваныя дынамітам непрымірымых супярэчнасцей, працэсы сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця Беларусі ад пачатку 1990-х. Ад перабудовы, ад распаду Савецкай імперыі, і на гэтым тле — набыцця Беларуссю незалежнасці, дзяржаўнага суверэнітэту ў цесным звязку са спробамі дэмантажу таталітарнай палітычнай сістэмы і заменай яе сістэмай дэмакратычнай.

Не атрымалася. Суверэнітэт здабылі. Дэмакратызацыю ж спынілі рэакцыйныя сілы здавалася зрынутай савецкай бюракратыі, каб на сколку былой таталітарнай сістэмы ўтварыць яе лакальны варыянт — так званую «вертыкаль». Прычым не ў брэжнеўскім, адносна мяккім яе варыянце, а з рэанімацыяй элементаў сталінскай канструкцыі.

Уладныя структуры інстынктам самазахавання зразумелі ўсю небяспечную для іх існавання хісткасць сітуацыі, рост градуса незадавальнення ў грамадстве пры аслабленні градуса страха.

Хапіла літаральна пару месяцаў лёгкага аслаблення аўтарытарных абцугоў, каб дух свабоды адціснуў дух страху на ўзбочыну грамадскай свядомасці. Хапіла выступаў альтэрнатыўных кандыдатаў у наўпроставым эфіры, каб у прапагандысцкай завесе ілжы з'явіліся непапраўныя прарэхі.

Пацвярджэнне таму знойдзем у выказваннях А. Лукашэнкі. Да выбараў: «Патрываем яшчэ два тыдні». «Плошчы не будзе». І адразу пасля выбараў, пасля разгону плошчы: «Вы, як і я, адчулі, што мы такую дэмакратыю тут развялі, што далей няма куды».

Для рэжыму была відавочнай задача не дапусціць любымі сродкамі масавых мітынгаў і дэманстрацый, не дапусціць паўтору Плошчы–2006. Адсюль, здавалася б, знешне ніяк нематываваныя размах і брутальнасць разгрому мірнага мітынгу на плошчы Незалежнасці. Адсюль і элементы правакавання прысутных да штурму Дома ўрада. Паказальны ў гэтым кантэксце эпізод, калі амапаўцы атрымалі загад адысці ад дзвярэй урадавага будынку. Хаця дастаткова было загадзя выставіць па дзясятку звычайных міліцыянтаў у парадней форме ля кожнага з уваходаў, і ніхто б з прысутных на плошчы нават не наблізіўся б да дзвярэй.

Але ўладам — класіка жанру аўтарытарных і таталітарных рэжымаў — патрабаваўся факт для абгрунтавання сілавога разгону мітынгу ў адказ быццам бы на «спробу дзяржаўнага перавароту». Факт таго самага

# The Square 2010

The Square 2010. It is under this name that the dramatic events that happened on Independence Square in Minsk last December have already entered history. But they have not yet become past, as the pain is not yet over, the memories are still alive and refusing to quiet down. These events remain a live, pulsing part of the present, influencing our society, fates of people and the destiny of our country.

The snowy, frozen square witnessed a collision of all those fundamental, controversial, packed with irreconcilable contradictions processes that shaped the social, economic and political evolution of Belarus since the beginning of the 1990s. Having originated from perestroika, the stream of Belarus' newest history ebbed and flowed through the collapse of the Soviet empire, the emergence of the country's independence and efforts to dismantle the totalitarian political system and replace it with democracy.

The latter was not to be. We gained independence. But the democracy was stopped by reactionary forces of the once dethroned bureaucracy, who managed to restore, on the ruins of the old totalitarian system, its local version — the so called "vertical." Notably, this new restored version resembled not so much the mild, Brezhnev era, model as it absorbed the elements of the more brutal, Stalinist construction.

Guided by the instinct of self preservation, the governing bureaucracy quickly understood the dangers that the rapidly destabilizing situation of the late 2010 posed to them. They sensed the rising degree of dissatisfaction, and the falling degree of fear.

Only two month of just slight loosening of the authoritarian chains that the regime allowed in the run up to the elections, was all it took for the spirit of freedom to break through the spirit of fear to the side of the popular mindset. The few and short speeches of independent candidates that were allowed on the state owned TV and radio were enough to blow wholes in the screen of non-stop propagandist lies.

We see the evidence of this in Lukashenka's own statements. Before elections: "We must hold on just two more weeks." "There will not be a Square." And immediately thereafter, following the brutal crack down: "You, just like me, could sense that we had allowed such a democracy here that there was no way to continue."

To the regime, the need to avoid mass protests and a repeat of the Square-2006, by any means, was self evident. That explains the apparently inexplicable scale and brutality of the suppression of the meeting and the tactics of provoking the participants to start a storm of the government headquarters. A telling episode in this context is the moment when the special police received the order to retreat to the entrance to the building. Just a dozen of ordinary policemen would be more than enough to preempt even a slightest move towards the headquarters by any demonstrator.

«падпалу рэйхстага», аб чым і запытаўся ў А. Лукашэнкі на прэсавай канферэнцыі адзін з незалежных журналістаў.

Аб сур'ёзнасці ўспрыняцця пагрозы свайму існаванню сведчыць і гатоўнасць рэжыму выкарыстаць войскі супраць мітынгуючай плошчы, якая была ачэплена машынамі з байцамі па ўсяму перыметру. Аб гэтай гатоўнасці заявіў на прэсавай канферэнцыі і сам А. Лукашэнка. Ці былі ў руках байцоў аўтаматы, заражаныя баявымі патронамі, ведаюць толькі яны.

Баявыя шыхты амапаўцаў супраць абсалютна мірнай Плошчы. Ні ў адной з каманд кандыдатаў у прэзідэнты не было ні баявых атрадаў, ні намераў штурмаваць Дом урада. Для абвяржэння гэтай відавочнасці рэжыму спатрэбілася інсцэніроўка «знаходкі» рэчавых доказаў падрыхтоўкі апазіцыяй штурму Дома ўрада — ледарубаў, лапат, бутэлек з гаручай сумессю.

19 снежня 2010 года «вертыкаль» правяла спецаперацыю, загадзя і дэталёва спланаваную. Кіраваў аперацыяй непасрэдна кіраўнік вертыкалі А. Лукашэнка, аб чым ён сам паведаміў падчас прэсавай канферэнцыі, што адбылася на другі дзень пасля Плошчы.

Вобраз Плошчы-2010 у трактоўцы афіцыйных структур — спроба перавароту. Вобраз Плошчы-2010 ва ўспрыняцці большасці беларускай грамадскасці, гэтак жа, як у сістэме аб'ектыўных каардынат, — спроба мірнага выхаду з таталітарнага тупіка, у якім Беларусь затрымалася на лішніх 20 гадоў. На Плошчы-2010 сышліся ў адзіным парыве беларускі адраджэнскі рух да незалежнасці, дэмакратычныя памкненні грамадства да свабоды і сацыяльныя жаданні насельніцтва спакойнага і матэрыяльна прыстойнага жыцця. Менавіта такой яна і ўвойдзе ў аналы і будучыя падручнікі па гісторыі Беларусі.

Плошча-2010 у колькасці да 40 тысяч чалавек — гэта стыхійны ўсплёск сацыяльнай энергіі пратэсту. Прычым людзей новых, якія да таго на мітынгі не хадзілі. Розных узростаў, але пераважна маладых. Рэжым прайграў новае пакаленне, якое пры гэтым рэжыме і вырасла. І страціў значную частку пакаленняў сталых. Тут ёсць аб'ектыўны крытэр: арганізаваная апазіцыя даўно ўжо, а кандыдаты падчас кампаніі збіралі на свае вулічныя акцыі не больш за 2-3 тысячы.

Разам з тым Плошча–2010 акумулявала ў сабе і энергію антытаталітарнага прарыву пачатку 1990-х, і пратэст Плошчы-2006. Нішто не праходзіць бясследна. Плошча-2010 адбылася б і без заклікаў кандыдатаў. Аднак іх учынак, іх выхад на плошчу дадаў масавасці, а ім самім вярнуў павагу грамадства ў яго дэмакратычным сегменце (а ён не малы, калі нават улада вымушана была аддаць канкурэнтам Лукашэнкі 20% галасоў), і выклікаў спачуванне, як да ахвяр у большасці насельніцтва.

Плошча паказала, што рэпрэсіямі і прапагандай не ўдалося нейтралізаваць ні грамадскія арганізацыі, ні незалежныя СМІ, што не хапіла ні БРСМ, ні сацыяльных падачак і саступак, ні шчодрых абяцанак, каб схіліць на свой бок патрэбную частку грамадства. Што рэальны працэнт бюлетэняў «за» адзінага палітыка істотна не дацягнуў

But, in a classical act of any totalitarian drama, the regime needed a pretext that would "justify" use of force, in response to the presumed "attempt at coup d'etat." A fire at Reichstag, as an independent journalist directly put it to Lukashenka, is an inevitable tool in a kit of any totalitarian regime.

The seriousness with which the regime took the threat to its existence in 2010 is also evidenced by the apparent readiness to use regular army against a peacefully demonstrating Square, which was already surrounded by police around the entire perimeter. Lukashenka himself admitted as much at a press conference. Whether the troops that the regime amassed behind the square, had live ammunition in their machine guns is known only to them.

The special forces attacked an absolutely peaceful Square. Not one of the alternative candidates' teams had anything resembling storm units, or any intentions to storm the government compound. To rebut these obvious facts, the regime had to stage a "discovery" of material evidence of the alleged preparation of the storm by the opposition — icebreakers, shuffles, and inflammable bottles.

The special operation that the "vertical" executed on December 19, 2010 was meticulously planned in advance. It was run directly and personally by the head of the vertical, Lukashenka, as he himself admitted during a press conference the day after the events.

In its official interpretation, the image of the Square-2010 is that of a failed coup. In the perception of the majority of Belarusians, as well as in any objective system of coordinates, it was a peaceful attempt to exit a totalitarian dead end, in which Belarus has been lingering for the last 20 years. The spirit of the Belarusian national renaissance, longing for democracy and freedom, an aspiration of people to a peaceful and economically descent life all united in one brave motion at the Square. That is how it will enter the records and future history text books.

The Square-2010, numbering up to 40,000 persons, is a spontaneous surge of the social energy of protest. Most of the participants were new to the event, people previously not attending the usual opposition street routine, people of various ages, but especially the young. The regime lost the new generation, despite the fact that it was already born under its rule. It also lost a portion of its former more mature supporters. There is statistical evidence to this conclusion — the organized opposition for years, and independent candidates for months during the campaign, could not manage to attract more than two — three thousand people to the street, and here, one evening — dozens of thousands.

At the same time, the Square accumulated the old energy of the anti-totalitarian break through of the early 1990s, as well as that of its direct predecessor, the Square-2006. Nothing disappears without a trace. The Square-2010 would have happened even without candidates' appeal. But their leadership out on the street encouraged more people to join, added restored respect to the candidates in the democratic segment of the nation (which is not small, considering that even the authorities had to concede full 20% to Lukashenka's competitors) and elicited sympathy, as to victims, from the majority of Belarusians.

нават да ўзроўню 2006 года. Плошча выявіла, што сацыяльны баланс, які гарантуе любому таталітарнаму ці аўтарытарнаму рэжыму ўстойлівасць, пагрозліва пахіснуўся. Тэндэнцыя абвалу рэйтынга А. Лукашэнкі пацвердзілася па выніках сацыялагічнага апытання, праведзенага НІСЭПД у верасні 2011-га: жаданне прагаласаваць за яго на новы прэзідэнцкі тэрмін выказала толькі 20,5 працэнтаў рэспандэнтаў.

У грамадскай свядомасці Плошча-2010 развеяла лукашэнкаўскі варыянт заўсёднага таталітарнага міфа, што правадыра, айца народа, любіць і шануе ўсё грамадства, увесь народ, уся нацыя. На самай справе такім рэжымам патрэбна, каб частка грамадства сапраўды іх падтрымлівала, частка сапраўды любіла і пакланялася, а частка проста баялася і маўчала. Ну і, зразумела, патрэбна машына рэпрэсій у звязцы з прапагандысцкай, якія мусяць працаваць бесперапынна. Збоі — смерці падобныя.

Плошча-2010 выявіла, што слой адданых вельмі вузкі, што сацыяльны пакет — замалы, а рэсурс вычарпаны, што маўклівая большасць пераўтварылася ў маўклівую меншасць, што прапаганда струхлела, а рэпрэсіі ў параўнальна мяккім фармаце ўстойлівага эфекту не далі.

Адсюль інстынктыўны разварот да эскалацыі рэпрэсій — аднаўлення іх непарыўнасці з пашырэннем маштабу і ўзмацненнем жорсткасці. Разгон Плошчы з наступнай хваляй рэпрэсій, не сціхаючых да сённяшняга дня, ёсць не што іншае, як адчайная спроба рэжыму вярнуць баланс уласнай устойлівасці. Найперш баланс страху і, праз прапаганду, даверу да сябе, дакладней, веры, хаця б і безнадзейнай, у сваю моц і непахіснасць.

Арышты і паказальныя суды з дэманстратыўна жорсткімі прысудамі ў адносінах болей чым да 50 удзельнікаў мітынгу на плошчы Незалежнасці — абсалютна ў логіцы такога кшталту рэжыму ў падобнай сітуацыі.

Плошча-2010 — гэта народ, а не насельніцтва. Яго найбольш свядомая і актыўная частка. Мы не можам сёння з сацыялагічнай дакладнасцю даць сацыяльны партрэт людзей плошчы (такія даследаванні ў сучаснай сітуацыі папросту немагчымыя). Большая дакладнасць адкрыецца толькі тады, калі адкрыюцца архіўныя таямніцы сучаснай ахранкі — матэрыялы праслухоўвання, планаў аперацыі, аператыўных распрацовак, даносаў, допытаў, аналітычных запісак і г.д.

Але ўжо сёння ясна, што Плошча-2010 — гэта асобы, а не статысты. Ахвяры, прызначаныя рэжымам на закланне і ролю злачынцаў, паводзілі сябе не так, як разлічвалі арганізатары судзілішчаў. У турэмных камерах КДБ (так званай «амерыканцы»), у судовых працэсах, калоніях пасля судоў — большасць з палітвязняў выявіла сябе менавіта асобамі. Мужнымі, нязломнымі, з пачуццём уласнай годнасці. Пад ціскам і катаваннямі не зламаліся, нікога не абылгалі, не толькі ні на каго, але і на сябе саміх не ўзвялі паклёп. І адмовіліся падпісаць прашэнне аб памілаванні.

Гэта — твары плошчы. Такія прыгожыя і прыязныя, спакойныя і ўсхваляваныя, натхнёныя і ўдумлівыя, стрыманыя і ўсмешлівыя.

The Square showed that neither repressions nor propaganda managed to neutralize the civic organizations and independent media; that neither the pro-government youth union, nor economic subsidies, nor generous promises were enough to make the needed proportion of the nation to support the regime; that a realistic percentage of the ballots for “the sole politician,” as Lukashenka likes calling himself, failed to reach even the 2006 levels. The Square affirmed that the social balance, which secures stability for any totalitarian or authoritarian regime, has tilted away from it. The downward trend in the Lukashenka ratings was confirmed by polling by the Independent Institute of the Social and Economic Studies, a private think tank: according to a September 2011 poll, only 20.5% of respondents had any desire to vote for Lukashenka for another presidential term.

The Square busted the perennial totalitarian myth that until then plagued the Belarusian public mentality — that of the father of the nation who is loved and adored universally by all people, the entire nation. In reality, while such regimes do need a certain portion of society actually to actually support them, it is even more important that everyone else was just afraid and kept silent. And, naturally, always needed is a machine of repression that works in tandem with the machine of propaganda, both working non-stop. Any pause is a death knell.

Thanks to the Square-2010, it became obvious that the group that genuinely supports the regime had become narrow; that the social compact was shallow, the resource exhausted, and that the silent majority turned into a silent minority; that the propaganda has hollowed out, and the repressions, in their original more mild form, did not bring the desired result.

And hence the instinctive turn to escalation of repression, restoration of its unstoppable rhythm, widening of scope and increase in brutality. The crack down itself, and the subsequent wave of repressions, which continue to these days, is nothing but the regime’s attempt to tilt the balance back in its favor. First, the balance of fear, and then, through propaganda, a semblance of trust, in fact not so much trust as faith, even if blind and desperate, in the regime’s powers.

Arrests and demonstrative trials with intentionally harsh sentences of over 50 participants are absolutely logical for this kind of regime in this kind of situation.

Square 2010 is a people, not a population. It is its most conscientious and active part. Today, we do not have statistically verified data to paint a social portrait of the people from the Square — this kind of research in such a situation is simply impossible. More precision will emerge only when secrets of special police archives are forced open — records of wiretaps, operational plans, tactical rehearsals, interrogations, internal memos and other sad fabric of a police of state are brought to light.

But already, it is clear that Square 2010 is personalities, not statistics. The victims chosen by the regime for sacrifice and the role of culprits have acted entirely not as their jailors expected. In the dungeons of KGB, on trials, and in labor camps thereafter, the majority of the political prisoners proved themselves real historical personalities — courageous, unwavering, proud. Under pressure and torture, they did not break, did not incriminate others and even themselves. And refused to sign petitions of pardon.

Яшчэ ўчора большасць з палітычных вязняў (акрамя кандыдатаў у прэзідэнты і іх бліжэйшых паплечнікаў) не ведаў ніхто, пасля судоў яны сталі вядомымі ўсёй краіне. І выклікалі не антыпатыю, а сімпатыю і павагу ў грамадстве. І такую хвалю салідарнай падтрымкі, якой раней не наглядалася.

Невядома, па якіх крытэрах сярод дзясяткаў тысяч удзельнікаў плошчы адбіралі следчыя кандыдатаў на ролю «тэрарыстаў». Большасць з арыштаваных і асуджаных не мела аніякага дачынення да арганізаванай апазіцыі. Але яны выйшлі на плошчу, а нечакана апынуўшыся перад выпрабаваннем на чалавечую годнасць, з гонарам вытрымалі трагічны іспыт. Падаецца, што на кім бы ні спыніўся злавесны выбар рэжыму — вынік быў бы той жа.

Гэта яшчэ і паказнік узроўню маральнасці валанцёраў плошчы, які не парушаецца нават тымі пакаяльнымі публічнымі заявамі і подпісамі аб супрацоўніцтве з КДБ некаторых з палітычных вязняў. Грамадства ўспрыняло гэтыя эпізоды як яскравы знак самавыкрыцця рэжыму, як вяртання да метадаў НКУС 1937 года. І здрыганулася.

Як маральнасць адных і амаральнасць другіх успрыняло грамадства напад спецкаманды сілавых структур увечары 19 снежня, яшчэ да заканчэння выбараў, на групу кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева, яго збіццё да беспрытомнасці, з наступным арыштам і выкраданнем са шпіталя. І як расправу А. Лукашэнкі над сваімі апанентамі — арышты кандыдатаў у прэзідэнты Андрэя Саннікава, Мікалая Статкевіча, Алеся Міхалевіча, Віталя Рымашэўскага. Яшчэ адзін кандыдат — Дзмітрый Ус — быў закаваны ў кайданкі ўжо пасля прысуду.

Гэтыя арышты, суды і прысуды дэманструюць яшчэ адну жахлівую рысу таталітарных рэжымаў — захоп і гандаль закладнікамі. У рамках сваёй гульні лавіравання паміж Расіяй і Захадам, пад ціскам міжнароднай супольнасці рэжым частку вязняў у хуткім часе вызваліў з разлікам на пэўныя эканамічныя прэферэнцыі з боку Захаду. Аднак уцягнуць заходніх палітыкаў у амаральны паштучны гандаль не ўдалося. Еўрасаюз цвёрда настойвае на вызваленні ўсіх палітвязняў у якасці абавязковай перадумовы пачатку любых перамоў. А. Лукашэнка спыніў вызваленне палітвязняў.

Яшчэ і па сёння за калючым дротам знаходзяцца 15 чалавек, уключна з двума кандыдатамі ў прэзідэнты — Міколам Статкевічам і Андрэем Саннікавым. Вялікі неспакой выклікае здароўе і жыццё лідара «Маладога фронту» Змітра Дашкевіча, які церпіць катаванні і бесчалавечнае абыходжанне. Гэтак жа як і лідара грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Змітра Бандарэнкі, які перанёс цяжкую аперацыю на хрыбце, ходзіць на мыліцах і рызыкуе выйсці з турмы інвалідам. Трэці год за кратамі пакутуе Мікалай Аўтуховіч, якога спрабавалі падвесці пад абвінавачванне ў падрыхтоўцы тэрарыстычнага акта.

Можна меркаваць, што рэжым А. Лукашэнкі выйграў гэты раўнд барацьбы. У тым сэнсе, што яму ўдалося стрымаць нарастаючую хвалю пратэстаў і вярнуць узровень страху і апатыі ў грамадстве на ранейшую адзнаку. Але якой цаной? І ці надоўга? Ці не пірава гэта перамога?

These are the faces of the Square. Such handsome and pleasant, calm and excited, inspired and pensive, reserved and smiling.

Just yesterday the majority of the prisoners (besides the candidates and their closest associates) were known to no one. After the trials they are known to the entire country, attracting not antipathy but admiration and respect — and such a powerful wave of solidarity that was never seen in Belarus before.

By which criteria KGB selected “terrorists” among the thousands of participants, we do not know. The majority of the detained had nothing to do with organized opposition. They came out to the Square, and, suddenly faced with a tragic test of self worth, honorably passed it. It seems that no matter whom the regime would have selected for this role, the result would have been the same.

This is an indicator of the morality of the participants, not undermined even by those few petitions to pardon and signatures of cooperation that KGB was able to force out of some. The society took these incidents as a sign of the regime’s self incrimination, a return to the methods of the Stalin’s 1930s — and was shaken by this discovery.

As one example of morality of one side and amorality of the other, the public read the attack by a special unit on the evening of December 19th, even before the elections were over, on the team of Uladzimir Nyaklyaeu, his beating, subsequent arrest and kidnapping from the hospital. Further arrests of Sannikau, Statkevich, Mikhalevich, Rymasheuski were perceived as an ambush by Lukashenka of his opponents. One more candidate, Dzmitry Us, was put behind bars already after the trial was over.

All these arrests, trials and sentences testify to another terrifying feature of all totalitarian regimes — taking and trading of hostages. As part of its game playing Russia and the West, and under intense international pressure, the regime quickly released some of the prisoners, hoping to gain some economic preferences from the West in exchange. However, engaging Western politicians into this immoral trade proved impossible. The European Union firmly insists on liberating all political prisoners as a pre-condition for any negotiations. Once he realized that, Lukashenka stopped releasing the detained.

Up to this day, fifteen persons remain behind bars, including two candidates — Mikola Statkevich and Andrei Sannikau. Very disturbing is the state of health of the Young Front leader, Zmitser Dashkevich, who is enduring torture and inhumane treatment. In similar state is the leader of European Belarus Zmitser Bandarenka, who survived a difficult spine surgery, has to walk on crutches and is risking coming out of prison completely disabled. His third year behind bars is Mikalay Autokhovich, whom the government accused of plotting a terrorist act.

From this, one can conclude that the Lukashenka regime won this round of struggle, in the sense that it managed to contain a rising wave of discontent and return the level of fear and apathy in the society to a pre-Square level. But at what price? And for how long? Is it not a Pyrrhic victory?

Цаной узмацнення перманентных кропкавых рэпрэсій па ўсёй краіне, ціску на СМІ, пераследу грамадскіх арганізацый, найперш праваабарончых, узбуджэння ўсё новых судовых спраў. Адна з іх, аглушальна гучная, — справа старшыні праваабарончай арганізацыі «Вясна» Алеся Бяляцкага — ёсць непасрэдны працяг Плошчы-2010.

Так, рэжым утрымаўся. Так, Мядзведзеў і Пуцін выдалі А. Лукашэнку карт-бланш на працяг яго ўладарання ў Беларусі, вярнуўшы ўнушальную частку эканамічных прэферэнцый у абмен на падпісанне ўсяго пакета дакументаў па АДКБ, а потым і на стварэнне Еўразійскага саюза. А па сутнасці, у абмен не проста на палітычную лаяльнасць, а на поўную васальную залежнасць. З дазволам, па трапнаму выказванні аднаго з расійскіх палітолагаў, праводзіць «лібералізацыю — дзе можна, а рэпрэсіі — дзе трэба». Але, падаецца, карт-бланш гэты не на бестэрміновае ўладаранне. Васала лягчэй замяніць, калі стане няўгодным.

Вынікі думскіх выбараў у РФ, якія азначаны падзеннем рэйтынгу кіроўнай групоўкі і хваля пратэстаў, уключна са шматтысячным мітынгам на Балотнай плошчы 10 снежня 2011 года, могуць падштурхнуць пуцінскую Расію на паскоранае ўмацаванне сістэмы «кіруемай дэмакратыі» на ўзор беларускай, але могуць, што таксама не выключана, наадварот, прымусіць пачаць рэформы. Абодва варыянты не на карысць А. Лукашэнку.

Брутальны разгром Плошчы-2010 у Мінску з наступнай эскалацыяй рэпрэсій па ўсёй Беларусі, калі і не цалкам перакрыў рэжыму А. Лукашэнкі магчымасці гульні на Захад, то відавочна ўсур'ёз перарваў. Гэтыя падзеі развеялі ў вачах Захаду ўсялякія ілюзіі на самарэфармаванне беларускага рэжыму.

Разгром Плошы-2010 датуе сабой пачатак канца беларускай мадэлі палітычнай сістэмы. Якім бы не быў гэты канец: ці тое па найгоршаму сцэнару — пераўтварэнне Беларусі ў абсалютна залежнага васала Расіі з захаваннем фармальнага суверэнітэту, ці па аптымістычнаму — дэмакратычных пераўтварэнняў з умацаваннем суверэнітэту і сваім дастойным месцам у еўрапейскай супольнасці.

Гістарычны досвед фармавання нацыянальных дзяржаў, а таксама ўсталявання дэмакратычных сістэм у посттаталітарных краінах, у тым ліку і досвед уласна беларускі, дае перавагу на ўвасабленне аптымістычнага сцэнару.

Тыя здабыткі, што былі заваяваны беларускім адраджэнскім рухам ад часоў паўстанняў Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага, рэвалюцый 1905 і 1917 гадоў, беларусізацыі 1920-х, не страчаны і не зруйнаваны. Прыйшоў час — і яны ўзышлі на новай глебе.

Аргументаў на карысць аптымістычнага сцэнару дадае, нягледзячы на разгром, і Плошча-2010, пастаўленая ў кантэкст падзей гісторыі найноўшага часу. Дзяды-1988 можна лічыць пачатковай датай гэтага перыяду руху Беларусі да дэмакратыі і суверэнітэту. Менавіта з таго шэсця на Курапаты вырасла перамога абвяшчэння незалежнасці

The price is the permanent targeted repressions across the entire country, pressure on the media, persecution of civic associations, especially those engaged in the legal defense, prosecution of new criminal cases. One of them, the shocking case against the Chairman of the Vyasna human rights group, Alies Byaliatski, is a direct continuation of the post-Square repressions.

Yes, the regime survived. Yes, Medvedev and Putin issued Lukashenka a card-blanche for continuation of his rule in Belarus, having given him back a significant part of economic subsidies in exchange for signing the entire set of Customs Union treaties and then enter the talks for a Eurasian Union. By doing so, they secured not only his political loyalty, but his direct vassal subordination. As a Russian political observed pointedly noticed, this arrangement does allow "liberalization where required (by Russia, in the economic sphere) and repressions where needed (by Lukashenka, on domestic politics)." However, it seems that this card blanche is not that for an indefinite rule. A vassal is easier to replace when no longer necessary.

The results of Russia's own parliamentary elections, marked by a fall in the rating of the party of power, and a wave of protests, including the massively attended rally at the Bolotnaya Square on December 10th, 2011, could push Putin's Russia towards an accelerated strengthening of its "managed democracy," bringing it closer to the Belarusian standard. But conversely, they can also push the Kremlin to begin real reforms. Neither path is in the interest of Lukashenka.

The brutal crack down on the Square-2010 and the subsequent intensification of repressions everywhere in Belarus if not completely eliminated the regime's opportunities to play the West against Russia, then seriously undermined them. These events dispersed any illusions that may have been lingering in the West about a possible self reformation of the Belarusian system.

The crackdown sets the beginning of the end of the Belarusian model of political organization. Whatever this end may be — either a total transformation of Belarus into a puppet state of Russia — a worst case scenario for supporters of the country's independence — or a more optimistic democratic transition and integration into the European community — but the end it will be.

Historical experience of forming nation states, and evolution of democratic systems in post totalitarian countries, and the specific experience of Belarus, gives grounds for some hope.

The victories gained by the Belarusian independence movement since the times of Kastyushka, Kalinouski, revolutions of 1905 and even 1917, the Belarusization of the 1920's – are not lost. With every turn of history, they rise from the ashes and shoot up on the new soil.

In the sequence events that mark the most modern history too the Square gives grounds for optimism. The All Saints Day rally in 1988 can be considered the starting point of Belarus's journey towards sovereignty and democracy. It is from that march to the site of the Stalinist massacre at Kurapaty grew the eventual declaration of independence of Belarus.

Рэспублікі Беларусь. Вынікі выбараў 1994 года і асабліва так званы рэферэндум лістапада 1996 года датуюць сабой пераход у наступ рэакцыйных сіл. Шматтысячныя «Маршы свабоды» — увасабляюць масавы супраціў гэтаму наступу. Потым быў спад. Плошча-2006 — новы пад'ём. Зноў — спад. Плошча-2010 — новы ўсплёск.

Зараз — зноў спад? Вонкава — так. Але жыццё штодня дэманструе нам, а сацыялагічныя датчыкі фіксуюць імклівае пашырэнне пратэстных настрояў на пераважную большасць насельніцтва, якія на пранізлівых вятрах усеагульнага крызісу, пад ударамі цунамі інфляцыі і росту цэн могуць у любы момант сарвацца з пасіўнай фазы ў актыўную. Палітычны барометр паказвае на вясну. Энергія Плошчы-2010 не растварылася бясследна.

Аляксей Кароль, кандыдат гістарычных навук

The election results of 1994, and the so called referendum of 1996, mark the restoration of the reactionary forces. The "Freedom Marches" of the late 1990's encapsulate the massive resistance towards those forces. Then there was a decline, only to be followed by another surge at on the Square in 2006. The Square 2010 is another eruption of protest.

And now – a decline again? On the face of it, yes. But the daily life demonstrates, and the social polls register a spreading of the protest mood in the country, which, under the cold winds of the global economic crisis, domestic inflation and a fall in the standard of living, could get out of control and switch from passive to active. Belarus' political barometer is pointing towards spring. The energy of the Square 2010 has not disappeared.

Alyaksei Karol, Ph. D, historian.

# Кароткая храналогія падзеяў: масавыя беспарадкі ці масавая зачыстка?

18 снежня ў Мінску былі прэвентыўна затрыманыя маладафронтаўцы ***Зміцер Дашкевіч***, ***Эдуард Лобаў*** і ***Дзяніс Лазар*** па падазрэнні ў здзяйсненні хуліганскіх дзеянняў у адпаведнасці з узбуджанай крымінальнай справай па ч. 3 арт.339 КК РБ. Па версіі следства, з хуліганскіх меркаванняў яны беспадстаўна і наўмысна, кулакамі і металічнымі абцугамі збілі двух грамадзянаў. 28 снежня Дзяніс Лазар быў адпушчаны на свабоду і ўсе падазрэнні з яго знятыя, справа ў дачыненні да яго спынена, а З.Дашкевічу і Э.Лобаву было прад'яўлена абвінавачанне ў здзяйсненні злачынства, утрыманне пад вартай працягнута на 2 месяцы.

19 снежня 2010 года быў асноўным днём галасавання на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Улічваючы няроўныя ўмовы правядзення выбарчай кампаніі і непразрысты  характар выбарчага працэсу, альтэрнатыўныя кандыдаты на пасаду кіраўніка краіны заклікалі выбаршчыкаў пасля закрыцця выбарчых участкаў у 20-00 сабрацца на Кастрычніцкай плошчы сталіцы, каб разам чакаць вынікаў падліку галасоў.

Між тым, за тыдзень да гэтай даты праз дзяржаўныя СМІ кіраўніцтва сілавых структураў стала папярэджваць насельніцтва аб запланаваных апазіцыяй правакацыях, тэрарыстычных акцыях, ужыванні зброі пры правядзенні масавага мерапрыемства і г.д. Выступаючы 15 снежня на нарадзе па пытаннях прэзідэнцкай кампаніі і забеспячэнні грамадскай бяспекі ў гэты перыяд, А. Лукашэнка з аднаго боку паведаміў, што «прэзідэнцкія выбары не павінны быць азмрочаны хоць нейкімі сутычкамі і сутыкненнямі», а з іншага боку, заявіў: «Не дай бог, толькі пераступіць хтосьці той Рубікон, да якога наогул нельга блізка падыходзіць ... Рэакцыя праваахоўных органаў, ды і вайскоўцаў, павінна быць адэкватнай і жорсткай.»

Увечары 19 снежня па дарозе на Кастрычніцкую плошчу ў раёне Нямігі адбыўся ўзброены напад невядомых людзей у масках на групу кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева. Былі выкарыстаны света-шумавыя гранаты, канфіскавана гукаўзмацняльная апаратура. Пры гэтым сам кандыдат быў збіты да непрытомнасці, пасля чаго дастаўлены ў шпіталь хуткай дапамогі з дыягназам чэрапна-мазгавая траўма сярэдняй ступені цяжкасці.

У 20.00 не менш за 30 тысяч удзельнікаў мірнай акцыі пратэсту сабраліся на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску, адкуль калона

# A brief chronology of events: mass riot or mass cleanup?

The "Young Front" activists Zmitser Dashkevich, Dzianis Lazar and Eduard Lobau were preventively detained on 18 December in Minsk within the framework of a criminal case under part 3, Article 339 of the Criminal Code, on suspicion of committing an act of hooliganism. According to investigators, they groundlessly and intentionally beat two citizens with fists and metal tongs for malicious motives. On 28 December Dzianis Lazar was released and the case against him was dropped. Z. Dashkevich and E. Lobau were given charges. The term of their detention was extended for two months.

19 December 2010 was the main day of voting at the presidential election in Belarus. Taking into account the unequal conditions of the election campaign and the opaque nature of the electoral process, alternative candidates for president called on the voters to gather in Kastrychnitskaya Square at 8 p.m., after the closing of polling stations, in order to wait for the results of the vote count together.

Meanwhile, a week before this date the heads of the Belarusian law-enforcement agencies started appearing in mass media, warning the public about provocations, terrorist actions and the use of weapons during mass actions, allegedly planned by the opposition. On 15 December, speaking at a council on issues of the presidential campaign and public security during this period, A.Lukashenka, on the one hand said that "the presidential election should not be marred by any  clashes," and on the other hand, said: "If, God forbid, anyone just crosses the Rubicon which cannot be even approached — the reaction of law enforcement agencies, as well as military officers, must be adequate and tough."

In the evening of 19 December, a group of people in black masks committed an armed assault on the group of presidential candidate Uladzimir Niakliayeu on the way to Kastrychnitskaya Square. They used light and stun grenades and seized sound amplifying equipment from Niakliayeu's  group. The candidate was beaten to unconsciousness and then taken to a hospital emergency room with a traumatic brain injury of moderate severity.

At 8 p.m. at least 30,000 participants gathered for the peaceful protest on Kastrychnitskaya Square in Minsk, from where they spontaneously (it is still unclear who led them) moved towards Nezalezhnasts Square and the House of Government. Presidential candidates held a rally. Unknown persons, whose actions were condemned by the present candidates, tried

стыхійна (бо хто яе туды скіраваў, так і засталося нявысветленым) рушыла ў бок плошчы Незалежнасці да Дома Урада. Кандыдаты ў прэзідэнты правялі мітынг. Невядомымі асобамі, дзеянні якіх былі асуджаны прысутнымі кандыдатамі, была ўчынена спроба выламаць дзверы ў будынку Дому Урада. Некаторыя з тых, хто знаходзіўся побач, паддаліся на правакацыю. Было разбіта шкло, што дазволіла сілавікам у шлемах са шчытамі і дубінкамі выкарыстаць празмерную сілу і жорсткасць дзяля разгону мірных дэманстрантаў. Удзельнікаў акцыі збівалі, калі нехта падаў — білі нават нагамі, запіхвалі ў аўтазакі. Потым многія звярнуліся за медыцынскай дапамогай і трапілі ў шпіталі. У ліку затрыманых аказаліся кандыдаты ў прэзідэнты Андрэй Саннікаў, Рыгор Кастусёў, Віталь Рымашэўскі, Мікола Статкевіч, іх давераныя асобы, палітыкі, журналісты, вядомыя грамадскія дзеячы.

Уначы офіс Праваабарончага цэнтра «Вясна», які сумесна з Беларускім Хельсінскім Камітэтам праводзілі кампанію па маніторынгу выбараў «Праваабаронцы за свабодныя выбары», падвергся нападу з боку міліцыі. 10 супрацоўнікаў затрымалі і даставілі ў РУУС, аднак потым адпусцілі. Тым не менш, з офіса ПЦ «Вясна» была канфіскаваная ўся кампутарная тэхніка, іншыя носьбіты інфармацыі, відэакамера і фотаздымач. Таксама ўначы быў праведзеныператрус на офісе «Хартыі'97», затрыманая рэдактарка сайта Наталля Радзіна з іншымі журналістамі.

Усю ноч сілавікі праводзілі спецаперацыю: ва ўласнай кватэры быў затрыманы старшыня партыі АГП Анатоль Лябедзька, кандыдаты ў прэзідэнты Дзмітрый Ус і Алесь Міхалевіч, са шпіталю выкрадзены У. Някляеў, лёс якога быў невядомы ажно да 27 снежня. Некалькі гадзінаў кандыдат Яраслаў Раманчук правёў у адміністрацыі прэзідэнта, пасля чаго на раніцу склікаў тэрміновую прэс-канферэнцыю, на якой перад камерамі дзяржаўных тэлеканалаў зачытаў зварот з асуджэннем масавых беспарадкаў. Пры гэтым выглядаў не зусім добра і быў вельмі напружаны. Услед у эфіры БТ паказалі сюжэт, у якім прагучала сцвярджэнне кандыдата Рыгора Кастусёва, што гэта кепска, што адбылося ламанне дзвярэй і біццё шкла. Пазней ён абверг свой выступ па БТ, назваўшы яго нарэзкай цытатаў, і распавёў аб падрабязнасцях затрымання і начы, праведзенай пад вартай.

«Пасля ўдару па галаве дубінкай амапаўца я з дапамогай выпадковых людзей сышоў з плошчы. Мы селі ў аўтамабіль і спрабавалі выехаць... пасля некалькіх пераездаў апынуўся ў знакамітай «амерыканцы» — унутранай турме КДБ — дзе выпадкова пабачыў Андрэя Дзмітрыева (кіраўніка штаба Някляева), а таксама некалькіх маладых людзей, якіх не пазнаў. Афармілі пратакол аб затрыманні на трое сутак. Каля шостай гадзіны раніцы завялі ў камеру. Аднак пасля інтэрв'ю БТ адпусцілі», — распавёў Рыгор Кастусёў. Таксама па БТ быў паказаны тэкст заявы кандыдата Дзмітрыя Уса, але сам кандыдат перад камерамі не з'явіўся.

У сваю чаргу міністр унутраных справаў Анатоль Куляшоў заявіў у эфіры Першага нацыянальнага тэлеканала, што арганізатары акцыі пратэсту апазіцыі будуць прыцягнутыя да крымінальнай адказнасьці па артыкуле 293 КК — «Масавыя беспарадкі», максімальная санкцыя па якой да 15 гадоў пазбаўлення волі.

to break the door of the House of Government. Some demonstrators succumbed to the provocation too. A glass was broken, which allowed law enforcement officers, equipped with helmets, shields and batons, to use excessive force and brutality for dispersing peaceful protesters. The demonstrators were beaten, those who fell were kicked with feet and then pushed into paddy wagons. Many people applied for medical aid afterwards, and were hospitalized. Among those detained there were presidential candidates Ryhor Kastusiou, Vital Rymasheuski, Andrei Sannikau and Mikalai Statkevich, their electioneering agents, politicians, journalists and prominent public figures.

At night, the office of the Human Rights Center "Viasna", which conducted an election observation campaign in cooperation with the Belarusian Helsinki Committee, was attacked by police. Ten people were detained and taken to the police station, but later released. However, all computer equipment, information carriers, a video camera and a photo camera were confiscated from the office. The same night, a search was conducted at the office of "Charter'97", the editor of its website, Natallia Radzina, was detained, as well as some other journalists.

The special operation of law-enforcement agencies continued all night: the leader of the United Civil Party Anatol Liabedzka was detained in his own apartment, as well presidential candidates Dmitry Uss and Ales Mikhalevich. Uladzimir Niakliayeu was kidnapped from the hospital, and nothing was known about him until 27 December. Candidate Yaraslau Ramanchuk spent several hours at the presidential administration. In the morning he summonsed an urgent press-conference, at which he read out a message condemning the "mass riot", in front of cameras of the state TV channels. Ramanchuk looked strained and nervous during his speech. After this the Belarusian TV showed a report in which candidate Kastusiou stated that it was bad that somebody had broken the doors and smashed the windows. Later Kastusiou denied saying it to the Belarusian TV, and said that it was a cut-up of quotations. He also described the details of his detention and the night in custody.

"After a riot policeman hit me on the head with a baton, I managed to leave the square with the aid of some people. We got into a car and tried to drive away... After several moves I was taken to the notorious "American prison" — the internal KGB prison where I occasionally saw Andrei Dzmitryieu (the head of Niakliayeu's headquarters) and several youngsters who I didn't recognize. A report for three-day detention was drawn up. At 6 a.m. I was put into a cell, but was released after giving an interview to the Belarusian TV," said Ryhor Kastusiou. The text of a statement by Dzmitry Uss was shown on the Belarusian TV as well, but the candidate didn't appear on the screen.

The Minister of Internal Affair Anatol Kuliashou, in his turn, stated on the air of the First national TV channel that the organizers of opposition protests would be held criminally liable under Article 293 of the Criminal Code, "mass riot", which envisages up to 15 years in prison.

At that time it became known that hundreds of people were detained, some of them were still kept in paddy wagons without food and water, and that there were girls and women among the beaten. "They refuse to put us in the

На той момант ужо было вядома, што затрыманыя сотні людзей, што частку з іх увесь час трымаюць у аўтазаках без ежы і вады, што сярод збітых ёсць жанчыны і дзяўчаты. «Нас адмаўляюцца браць на Акрэсціна, — паведаміў «Нашай Ніве» арыштаваны падчас Плошчы сябра Партыі БХД Алесь Мілінец. — Другія суткі сядзім у аўтазаку. Нас тут 31 чалавек. Кажуць, паперы належным чынам не аформленыя».

Праваабаронцы, валанцёры ў вялікай колькасці збіралі звесткі, дзяжурылі ў судах, каб інфармацыя пра затрыманых магла дайсці да сваякоў, родных, бо афіцыйныя дадзеныя атрымаць было не магчыма. Усе працэсы праходзілі ў закрытым рэжыме, фактычна без адвакатаў, на разгляд справы адводзілася некалькі хвілінаў, прысуд выносіўся ў выглядзе арышту. Штрафы давалі як выключэнне жанчынам, якія маюць непаўнагадовых дзяцей, ці інвалідам. Акрамя таго, сярод затрыманых сустракаліся выпадковыя мінакі, якія не бралі ўдзел у акцыі пратэсту, але судовы канвеер працаваў без разбору.

21 снежня ўлады назвалі лічбу затрыманых — 639, але і яна не была дакладнай. З улікам адпушчаных, дастаўленых у медустановы і змешчаных у СІЗА па крымінальных справах, колькасць перавышала 700 чалавек. Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў не мог змясціць столькі арыштаваных, таму 239 чалавек, па інфармацыі праваахоўных органаў, былі перавезеныя ў Жодзіна, у турму № 8, больш за 50 асуджаных жаночага полу перавялі ў ІЧУ Мінскага раёна.

Беларуская асацыяцыя журналістаў апублікавала спісы затрыманых (з улікам адпушчаных пазней) і пацярпелых журналістаў і сяброў арганізацыі: колькасць арыштаваных — 15, пацярпелі фізічна, але не былі затрыманыя — 21 журналіст, сярод якіх прадстаўнікі замежных СМІ.

Дзясяткі еўрапейскіх арганізацыяў асудзілі дзеянні беларускіх уладаў. 20 снежня адкрыты зварот да Прэзідэнта Беларусі з заклікам вызваліць сотні дэманстрантаў, журналістаў, палітыкаў, затрыманых за мірнае выказванне сваёй думкі падпісалі арганізацыі Сеткі Дамоў правоў чалавека. Са зваротамі выступілі праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя», Міжнародная федэрацыя правоў чалавека (FIDH), Міжнародная федэрацыя журналістаў, Праваабарончая арганізацыя Freedom House, старшыня Еўрапарламенту Ежы Бузек, урады краінаў ЗША і Еўразвязу.

У сталіцы пачаў працу Камітэт міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Утварыць яго пастанавіла кааліцыя няўрадавых арганізацый краін АБСЭ 27 снежня. У Камітэт увайшлі каля 30 міжнародных арганізацый, сярод іх: Міжнародная грамадзянская ініцыятыва для АБСЕ (ICI OSCE), Маскоўская Хельсінкская група — МХГ (Расія), Міжнародная сетка «Свабода, законнасць і правы ў Еўропе» (FLARE), Міжнародны моладзевы праваабарончы рух (МПД). Для працы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь Камітэт сфармаваў доўгатэрміновую Міжнародную назіральную місію, куды ўвайшлі супрацоўнікі праваабарончых арганізацый з розных краін прасторы АБСЕ, міжнародных арганізацый, а таксама незалежныя эксперты. Каб захаваць нэйтралітэт місіі ў адносінах да палітычнай сітуацыі, у склад Камітэта не ўваходзілі беларускія арганізацыі.

prison in Akrestsin Street," Ales Milinets, an activist of the Belarusian Christian Democracy Party arrested at the Square, told "Nasha Niva". "We have been sitting in the paddy wagon for more than a day already. There are 31 of us here. They say that the papers for our placement to prison are designed in the wrong way."

A large number of human rights activists and volunteers gathered information and kept duty in courts in order to inform friends and relatives of the detainees, as it was impossible to receive any official data. All trials were closed and lasted for several minutes. Defendants had no counsels and were usually sentenced to arrest. Fines were given in exceptional cases — to mothers of under-aged children and disabled persons. Moreover, among the detainees there were occasional passers-by who hadn't taken part in the protests, but it didn't make any difference for the court conveyor.

On 21 December the authorities voiced the number of detainees — 639, but it was inaccurate. In fact, it exceeded 700 people, including those who were released without trial, taken to hospitals, and placed int the KGB jail as defendants in the criminal case. The delinquents' isolation center in Akrestsin Street couldn't accommodate such a number of arrested, that's why, according to the police, 239 people were transferred to Zhodzina prison #8 and more than 50 female prisoners were placed in the detention center of the Minsk district.

The Belarusian Association of Journalists published lists of detainees (including those who were released) and lists of affected journalists and members of the organization. According to its information, 15 journalists were detained and 21 more received injuries but weren't detained, including representatives of foreign media.

Dozens of European organizations condemned the actions of the Belarusian authorities. On 20 December member organizations of the Human Rights House Network addressed the President of Belarus with an open letter calling to release hundreds of protesters, journalists and politicians who were detained for the peaceful expression of their opinion. Similar addresses were issued by "Amnesty International", the International Federation for Human Rights (FIDH), Freedom House, the chairman of the European Parliament, Jerzy Buzek, and the governments of the United States and the European Union.

The Committee of international control over the human rights situation in Belarus started working in the Belarusian capital. It was established on decision of the coalition of non-governmental organizations of the OSCE countries on 27 December. The committee includes about 30 international organizations: the International Civil Initiative for the OSCE (ICI OSCE), the Moscow Helsinki Group — MHG (Russia), the International Network "Freedom, Law and Rights in Europe "(FLARE), the International Youth Human Rights Movement, etc. The Committee also established a long-term international observation mission for work in Belarus, which includes members of human rights organizations from all over the space of the OSCE, international organizations, as well as independent experts. No Belarusian organizations were included in order to provide the political neutrality of the mission.

**Злачынцы — ахвяры**

Крымінальная справа па артыкуле «Масавыя беспарадкі» (частка 1 — арганізацыя, частка 2 — актыўны ўдзел) была ўзбуджана Следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыкнакама ўжо на наступны дзень, 20 снежня. На 21 снежня праваабаронцы валодалі інфармацыяй наконт 16-ці чалавек, якія ў якасці падазраваных былі змешчаны пад варту. З кожным днём спіс пашыраўся, і напрыканцы снежня ў ім значыліся ўжо 29 асобаў, 27 з якіх утрымліваліся ў следчым ізалятары КДБ. Паводле інфармацыі праваабаронцаў, у ліку абвінавачаных аказаліся пяцёра кандыдатаў у прэзідэнты: ***Уладзімір Някляеў, Андрэй Саннікаў, Мікалай Статкевіч, Віталь Рымашэўскі, Алесь Міхалевіч***. Яшчэ двое — ***Рыгор Кастусёў*** і ***Дзмітрый Ус*** — у ліку падазраваных і пад падпіскай аб нявыездзе. Сярод астатніх фігурантаў — даверанныя асобы, кіраўнікі штабоў, актывісты: ***Лябедзька Анатоль, Корбан Алег, Паўлаў Анатоль, Севярынец Павал, Атрошчанкаў Аляксандр, Бандарэнка Дзмітрый, Кобец Уладзімір, Халіп Ірына, Радзіна Наталля, Палажанка Анастасія, Дзмітрыеў Андрэй, Фядута Аляксандр, Вазняк Сяргей, Арастовіч Аляксандр, Марцалеў Сяргей, Класкоўскі Аляксандр, Новік Дзмітрый, Ліхавід Мікіта, Федаркевіч Андрэй, Лобан Уладзімір***, а таксама грамадзяне Расіі ***Гапонаў Іван*** і ***Брэус Арцём***.

Звесткі пра фігурантаў крымінальнай справы праваабаронцам прыходзілася здабываць у прамым сэнсе гэтага слова, бо афіцыйная інфармацыя ўвогуле з’явілася толькі пасля Новага года. Так, 10 студзеня на сайце Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама быў размешчаны матэрыял пад загалоўкам «ГУУС: затрыманым «правакатарам» прад’яўленае абвінавачванне». У ім адзначалася, што было ўстаноўлена звыш 120 чалавек, якія актыўна ўдзельнічалі ў масавых беспарадках 19 снежня на плошчы Незалежнасці ў Мінску, 31 з іх прад’яўлена абвінавачанне. Праўда, прыводзіліся ўсяго толькі 5 прозвішчаў, датычнасць якіх «устаноўлена шматлікімі відэаматэрыяламі тых падзей». Першы ў гэтым спісе ішоў ***Аляксандр Класкоўскі***, 1978 года нараджэння, жыхар Мінска, затым — ***Мікіта Ліхавід***, 1990 г.н., жыхар Мінска; ***Аляксандр Атрошчанкаў***, 1981 г.н., жыхар Мінска; ***Алег Федаркевіч***, 1961 г.н., жыхар Мінска; ***Уладзімір Хамічэнка***, 1986 г.н., жыхар Слуцка.

У той жа час ПЦ «Вясна» склаў найбольш поўны спіс абвінавачаных па крымінальнай справе ў колькасці 31 чалавек, які дапаўняўся яшчэ 16-цю падазраванымі. Акрамя таго з 18 снежня за кратамі знаходзіліся маладафронтаўцы Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў, абвінавачаныя па ч. 3 арт. 339 КК РБ — «Хуліганства». Іх арышт таксама быў непасрэдна звязаны з запланаванай паслявыбарчай акцыяй. Такім чынам, агульная колькасць асобаў, што трапілі пад крымінальны пераслед за Плошчу дасягнула лічбы 49.

Працяглы час адвакатам, якія абаранялі фігурантаў крымінальнай справы аб масавых беспарадках, адмаўлялі ў спатканнях са сваімі падабароннымі нібыта з-за недахопу вольных памяшканняў. Пасля напісання скаргаў і распаўсюду гэтай інфармацыі ў студзені пачаўся ціск на адвакатаў. Спачатку Міністэрства юстыцыі ініцыявала

**Criminals and victims**

A criminal case under article “mass riot” (part 1 — organization, part 2 — active participation) was instigated by the preliminary investigation board of the Main Police Bureau of the Minsk City Executive Committee, the day after the protest rally, on 20 December. As of 21 December, human rights activists had information about 16 people who were kept in custody as suspects. This number increased on a daily basis — by late December there were 29 persons, 27 of whom were kept in the KGB prison. According to human rights defenders, among the accused there were five presidential candidates: **Aliaksei Mikhalevich, Uladzimir Niakliayeu, Vital Rymasheuski, Andrei Sannikau** and **Mikalai Statkevich**. Two more, **Ryhor Kastusiou** and **Dzmitry Uss**, were released after signing written undertakings not to leave, being suspects in the case. Among the remaining defendants there were electioneering agents, heads of electoral headquarters, civil and political activists: **Aliaksandr Arastovich, Aliaksandr Atroshchankau, Zmitser Bandarenka, Andrei Dzmitryieu, Andrei Fedarkevich, Aliaksandr Fiaduta, Iryna Khalip, Aliaksandr Klaskouski, Uladzimir Kobets, Aleh Korban, Anatol Liabedzka, Mikita Likhavid, Uladzimir Loban, Siarhei Martsaleu, Dzmitry Novik, Anastasiya Palazhanka, Anatol Paulau, Natallia Radzina, Pavel Seviarynets, Siarhei Vazniak**, as well as the citizens of Russia and **Artyom Breus** and **Ivan Gaponov**.

Human rights defenders had to hunt for information about the criminal case in the literal sense, because official information about it started appearing only after the New Year. In particular, on 10 January the article “Main Police Bureau: Detained Provocateurs Were Given Charges” was published at the website of the Main Police Bureau of the Minsk State Executive Committee. According to it, more than 120 active participants of the mass riot on Nezalezhnasts Square in Minsk on 19 December 2010 were identified, 31 of them were given charges. However, only the surnames of five people, whose involvement was “confirmed by numerous video shots of the events”, were mentioned. The first of them was **Aliaksandr Klaskouski**, born in 1978, resident of Minsk; then — **Mikita Likhavid**, born in 1990, resident of Minsk; **Aliaksandr Atroshchankau**, born in 1981, resident of Minsk; **Aleh Fedarkevich**, born in 1961, resident of Minsk; and **Uladzimir Khamichenka**, born in 1986, resident of Slutsk.

At the same time, the HRC “Viasna” composed the most complete list of defendants in the criminal process, consisting of 31 persons, supplemented with names of 16 suspects. Besides, starting from 18 December, Zmitser Dashkevich and Eduard Lobau, were kept in custody on charges of “hooliganism” (Article 339, part 3 of the Criminal Code). Their arrest was also directly related to the planned post-election protests. Thus, according to information of human rights defenders, the total number of persons who came under criminal prosecution in connection with the Square was 49. However, the number of suspects and accused must be greater. Some of them left Belarus immediately after 19 December. Most probably, the appropriate documents are stored in the KGB archives and will become publicly accessible someday.

The counsels of defendants in the “mass riot” case weren’t allowed to meet with their clients for a long time, allegedly due to the lack of free rooms. Pressurization of lawyers started in January, after they composed appropriate appeals and gave publicity to this information. At first the

праверку кансультацый Мінскай гарадской калегіі адвакатаў, а 14 лютага была прынята пастанова аб пазбаўленні ліцэнзіі чатырох адвакатаў — ***Алега Агеева***, ***Таццяны Агеевай***, ***Уладзіміра Тоўсціка*** і ***Тамары Гараевай***. Калі ж Беларускі Хельсінкскі камітэт накіраваў дакументы ў ААН пра ціск на адвакатаў, Мін'юст вынес БХК папярэджанне. З сакавіка рашэннем прэзідыума Мінскай гарадской калегіі адвакатаў з яе шэрагаў быў выключаны адвакат ***Павел Сапелка***, які быў абаронцам у Андрэя Саннікава, Паўла Севярынца і Змітра Дашкевіча. Згодна з Законам аб адвакатуры, адвакацкая практыка можа ажыццяўляцца толькі ў складзе калегіі, такім чынам, П.Сапелка гэтую магчымасць страціў. У ліпені не прайшлі пазачарговую атэстацыю ***Ганна Бахціна***, адвакат І.Халіп, і ***Дар'я Ліпкіна***, адвакат М.Ліхавіда.

31 снежня кандыдат у прэзідэнты ***Віталь Рымашэўскі*** быў вызвалены з КДБ пад падпіску аб нявыездзе. Ім была напісаная тлумачальная запіска на імя А. Лукашэнкі. Трэцяга студзеня пад ціскам КДБ  В.Рымашэўскі адмяніў прэс-канферэнцыю, запланаваную на наступны дзень.

3 студзеня з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыедзе вызвалены ***Андрэй Дзмітрыеў***, кіраўнік штаба кандыдата ў прэзідэнты У.Някляева.

7 студзеня з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе вызвалены актывісты АГП і выбарчага штаба Я. Раманчука ***Анатоль Паўлаў*** і ***Алег Корбан***.

У ноч з 26 на 27 студзеня пад падпіску аб нявыездзе вызвалены ***Уладзімір Кобец***, кіраўнік штаба кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава. У другой палове лета з'ехаў з Беларусі. Крымінальны пераслед супраць яго спынілі 29 жніўня. У верасні публічна прызнаўся, што каб выйсці з турмы КДБ быў вымушаны падпісаць пагадненне аб супрацоўніцтве з беларускімі спецслужбамі. Сярод іншага ён сцвярджае, што без такой згоды ніхто з вязняў не мог выйсці на свабоду. У. Кобец распавёў аб гестапаўскіх умовах утрымання ў «амерыканцы». 23 жніўня «ў сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях складу злачынства» крымінальная справа ў дачыненні да У. Кобеца спынена.

28 студзеня на тых жа ўмовах выпушчана журналістка, рэдактарка сайта «Хартыя'97» ***Наталля Радзіна***. З 30 студзеня яна павінна была знаходзіцца па месцы рэгістрацыі — у Кобрыне. 31 сакавіка пакінула краіну. 4 жніўня падала хадайніцтва аб прадастаўленні ёй палітычнага прытулку ў Літве. 23 жніўня «ў сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях складу злачынства» крымінальная справа ў дачыненні да Н.Радзінай спынена.

29 студзеня зменена мера стрымання з ўтрымання пад вартай на хатні арышт пад вартай ***Уладзіміру Някляеву*** і ***Ірыне Халіп***. Ім забаронены стасункі з прэсай. Таксама з СІЗА КДБ вызвалены фігуранты крымінальнай справы аб масавых беспарадках ***Алег Корбан***, ***Анатоль Паўлаў***, ***Сяргей Вазняк***. Мера стрымання — пад падпіскай аб нявыездзе. 23 жніўня «ў сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях складу злачынства» крымінальная справа ў дачыненні да А.Корбана і А. Паўлава спынена.

Першы судовы працэс у дачыненні да ўдзельнікаў мірнай акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў 2010 года адбыўся 17.02.2011 у судзе Фрунзенскага раёна сталіцы. Суд

Ministry of Justice initiated an inspection of the Minsk city bar association. As a result, on 14 February the ruling on withdrawal of licenses of four lawyers, **Aleh Aheyeu, Tatsiana Aheyeva, Tamara Harayeva** and **Uladzimir Toustsik**, was issued. The Belarusian Helsinki Committee applied to the UN with a communication concerning the pressure on lawyers, and was issued with a warning by the Justice Ministry. On 3 March counsel **Pavel Sapelka**, who defended Zmitser Dashkevich, Pavel Seviarynets and Andrei Sannikau, was excluded from the Minsk City Bar Association by decision of its Presidium. According to the Law on the Bar, legal practice can be conducted only in the bar association. Thus, P.Sapelka was deprived of the right to profession. In July, **Hanna Bakhtsina**, counsel of Iryna Khalip, and **Dar'ya Lipkina**, counsel of M. Likhavid, didn't pass an extraordinary attestation.

On 31 December presidential candidate **Vital Rymasheuski** was released from the KGB on a written undertaking not to leave. He wrote an explanatory note for Aliaksandr Lukashenka. On 3 January Rymasheuski canceled a press conference scheduled for the following day, as a result of the KGB pressurization.

On 3 January **Andrei Dzmitryieu**, the head of the electoral headquarter of presidential candidate Uladzimir Niakliayeu, was released from the KGB jail under a written undertaking not to leave.

On 7 January **Aleh Korban** and **Anatol Paulau**, activists of the United Civil Party and the electoral headquarters of Ya.Ramanchuk, were also released after giving such undertakings. The criminal charges against them were dropped on 23 August due to the absence of corpus delicti in their actions.

In the night of 26-27 January the same happened to **Uladzimir Kobets**, the head of the electoral headquarters of presidential candidate A.Sannikau. Kobets left Belarus in the second half of of summer. In September he publicly admitted that he had been forced to sign a cooperation agreement with the Belarusian secret services in order to be released from the KGB jail. Among other things, he argues that no one could be released from jail without such consent. U.Kobets told about  Gestapo-style conditions in the KGB prison. The criminal charges against him were dropped on 23 August due to the absence of corpus delicti in his actions.

On 28 January journalist Natallia Radzina, editor of the web-site of "Charter'97", was released at the same conditions. She was obliged to live at the residential address since 30 January, but secretly left the country on 31 March and applied for political asylum in Lithuania on 4 August. The criminal charges against her were dropped on 23 August due to the absence of corpus delicti in her actions.

On 29 January the KGB Information and Public Relations Center issued a press-release with the following information: "On the basis of the investigative measures which were conducted earlier, establishment of the role of each accused and their behavior, the investigation, on consent of the prosecutorial bodies, decided to change the restraint to U.Kobets, A.Korban, U.Niakliayeu, A.Paulau and S.Vazniak." Moreover, the restraint was changed for these and other reasons to I.Khalip and N.Radzina. The restraint to **Iryna Khalip** and **Uladzimir Niakliayeu** was changed to house arrest. They were prohibited to have any contacts with the press.

прызнаў ***Васіля Парфянкова*** віноўным у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 293 КК РБ — «Масавыя беспарадкі» і вынес пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 4 гады, а таксама цалкам задаволіў грамадзянскі іск аб кампенсацыі сукупнай матэрыяльнай шкоды дзяржаўнай маёмасьці, нанесенай удзельнікамі акцыі пратэсту, у памеры 14 мільёнаў 144 тысячы беларускіх рублёў.

15 лютага з-пад варты пад падпіску аб невыездзе вызвалены ***Аляксандр Арастовіч***, давераная асоба кандадата М.Статкевіча.

17 лютага з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе вызвалена намесніца старшыні МФ ***Наста Палажанка***.

19 лютага з турмы КДБ пад падпіску аб нявыездзе вызвалены кандыдат на пасаду прэзідэнта ***Алесь Міхалевіч***. 28 лютага ён правёў прэс-канферэнцыю, на якой заявіў, што падпісаў дамову аб супрацоўніцтве з КДБ на ўмовах вызвалення яго пад падпіску аб нявыездзе. «Я пагадзіўся падпісаць пагадненне аб супрацоўніцтве з КДБ для таго, каб выйсці на свабоду і расказаць усім аб тым, што сёння адбываецца ў самым цэнтры Мінску. Лічу мой публічны выступ адмовай ад супрацоўніцтва з КДБ», — такімі словамі завершыў А.Міхалевіч свой зварот да журналістаў. Ён назваў турму КДБ канцлагерам, дзе адбываюцца катаванні і распаўсюдзіў тэкст сваёй заявы з падрабязным апісаннем таго, што рабілі з ім у ізалятары КДБ. Заява была накіраваная ў пракуратуру, а таксама спецдакладчыку ААН па праблеме катаванняў. 14 сакавіка А. Міхалевіч пакінуў краіну, атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі.

22 лютага ў Маскоўскім райсудзе сталіцы пачаўся працэс па разгляду крымінальнай справы аб масавых беспарадках у дачыненні да двух грамадзянаў Расійскай Федэрацыі ***Гапонава Івана*** і ***Брэуса Арцёма***. Напрыканцы дня пасля заканчэння судовага следства пракурор заявіў хадайніцтва аб сямідзённым перапынку ў працэсе для перапрад'яўлення абвінавачання, якое будзе істотна адрозніваццa ад папярэдняга.

1 сакавіка ў Мінску адразу ў двух судах разглядаліся справы фігурантаў Плошчы: у Маскоўскім райсудзе працягнуўся судовы працэс у дачыненні да грамадзянаў РФ ***Івана Гапонава*** і ***Арцёма Брэуса***, у Маскоўскім пачаўся ў дачыненні да ***Дзмітрыя Мядзведзя.*** Усім тром было прад'яўленае новае абвінавачванне па ч. 2 арт. 293 КК РБ, якое істотна не адрознівалася ад папярэдняга. Судовае разбіральніцтва працягнулася 10 сакавіка. Згодна з вынесеным прысудам ***Іван Гапонаў*** і ***Арцём Брэус*** прызнаныя вінаватымі ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 2 арт. 293 КК РБ, і з выкарыстаннем арт. 70 КК РБ пакараныя штрафам у памеры 300 базавых велічынь. Мера стрымання з утрымання пад вартай ім заменена на падпіску аб нявыездзе і належных паводзінах. Асуджаныя вызваленыя з-пад варты ў зале суда. Вытворчасць па заяўленым грамадзянскім іску спынена, паколькі ісцец адклікаў іскавыя патрабаванні ў сувязі з пагашэннем матэрыяльнай шкоды ў поўным аб'ёме. ***Дзмітрый Мядзведзь*** таксама з выкарыстаннем арт. 70 КК, які дае права ў выключных выпадках ужываць пакаранне ніжэй ніжэйшага памеру санкцыі артыкула, пакараны абмежаваннем волі тэрмінам на 3 гады без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу.

The first trial of a participant of the peaceful protest action against the rigged 2010 presidential election started held on 17 February 2011 in the Frunzenski District Court of Minsk. The court found **Vasil Parfiankou** guilty of a crime under Part 2 of Art. 293 of the Criminal Code, "mass riot" and punished him with 4 years of imprisonment. The court also fully granted the civil claim for compensating the total material damage of state property caused by the protesters, in the amount of 14.144 million rubles.

On 15 February **Aliaksandr Arastovich**, electioneering agent of presidential candidate Mikalai Statkevich, was released under a written undertaking not to leave.

On 17 February **Nasta Palazhanka**, deputy chairperson of the "Young Front", was released under a written non-leave undertaking as well.

On 19 February presidential candidate Aliaksei Mikhalevich was released from the KGB prison under a written undertaking not to leave. On 28 February he held a press-conference, at which he stated that he had to sign an agreement to cooperate with the KGB in order to be released from prison and get the opportunity to tell everybody about what was going on in the very center of Minsk. "I consider my public appearance as refusal to cooperate with the KGB", were the last words of Mikhalevich's address to journalists. Mikhalevich called the KGB jail a concentration camp where tortures are conducted and circulated the text of his statement with details of what KGB officers and people in masks had done to him in the KGB prison. He also applied to the procuracy and the UN Special Rapporteur on Torture.

On 22 February the criminal proceedings concerning the participation of the Russian citizens **Artyom Breus** and **Ivan Gaponov** in the alleged "mass riot" started at the Maskouski District Court of Minsk. At the end of the first day of the court hearing the prosecutor filed a motion for seven-day break in the process for giving new charges to the defendants, which would considerably differ from the previous ones.

On 1 March two cases of the Square participants were considered at the Maskouski District Court of Minsk: the case of two citizens of the Russian Federation, **Artyom Breus** and **Ivan Gaponov,** and the case of **Dzmitry Miadzvedz**.

All of them were given new charges under Article 293, part 2 of the Criminal Code of the Republic of Belarus, which had no considerable differences from the previous one. The trial lasted till 10 March. According to the verdict, **Artyom Breus** and **Ivan Gaponov** were found guilty of committing a crime under Article 293, part 2 of the Criminal Code of the Republic of Belarus, and were punished with fines of 10.5 million rubles due to the use of Article 70, which allows giving a sentence milder than provided by the accusation article. The defendants were released from custody in the court room. The restraint to them was changed to a written recognizance not to leave. The proceedings on the civil lawsuit concerning the material damages inflicted during the protest action were stopped due to the compensation of the whole sum of the damage. Article 70 was also used towards **Dzmitry Miadzvedz**: he was sentenced to three years of personal restraint without direction to an open penitentiary institution.

1-2 сакавіка ў судзе Фрунзенскага р-на сталіцы праходзіў судовы працэс па крымінальнай справе ў дачыненні да ***Аляксандра Атрошчанкава***, ***Аляксандра Малчанава*** і ***Дзмітрыя Новіка***. Яны прызнаныя вінаўнымі ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч.2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі), а А.Малчанаў таксама ў злачынстве, прадугледжаным арт. 370 КК Рэспублікі Беларусь (знявага дзяржаўных сімвалаў). Прысуд: А.Атрошчанкаў — 4 гады пазбаўлення волі, А.Малчанаў — 3 гады пазбаўлення волі, Д. Новік — 3 гады 6 месяцаў пазбаўлення волі.

14 сакавіка абвінавачаны па крымінальнай справе аб масавых беспарадках і вызвалены пад падпіску аб нявыездзе кандыдат у прэзідэнты ***Алесь Міхалевіч*** пакінуў Беларусь. Палітык папрасіў палітычны прытулак у Чэхіі.

18 сакавіка прад'яўлены абвінавачванні па крымінальнай справе ў арганізацыі масавых беспарадкаў — ч. 1 арт. 293 КК РБ кандыдатам у прэзідэнты Беларусі ***Дзмітрыю Усу*** і ***Мікалаю Статкевічу***, якому следства змяніла частку 2 арт. 293 КК (удзел у масавых беспарадках) на частку 1. М. Статкевіч утрымліваецца ў турме КДБ, Д.Ус знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе.

22-23 сакавіка Маскоўскі райсуд Мінска разглядаў крымінальную справу лідара «Маладога Фронту» ***Змітра Дашкевіча*** і кіраўніка мінскай суполкі гэтай арганізацыі ***Эдуарда Лобава***. Яны былі прызнаныя вінаўнымі ў здзяйсненні асабліва злоснага хуліганства (ч.3 арт.339 КК) і пакараныя пазбаўленнем волі тэрмінам на 2 гады і 4 гады адпаведна.

22-24 сакавіка ў судзе Партызанскага раёна сталіцы слухалася вылучаная ў асобную вытворчасць крымінальная справа ***Мікіты Ліхавіда*** па ч. 2 арт. 293 КК. Пацярпелымі былі прызнаныя 29 супрацоўнікаў ПМСП, што 19-га снежня 2010 г. ажыццяўлялі ахову грамадскага парадку каля Дому Урада падчас таго, як дэманстранты білі шыбы ў будынку. 29 сакавіка судовае следства было завершана і вынесены прысуд — 3 гады 6 месяцаў пазбаўлення.

25 сакавіка Следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама абвінавачанне ў арганізацыі масавых беспарадкаў па ч.1 арт. 293 КК РБ прад'ўлена кандыдату ў прэзідэнты ***Андрэю Саннікаву***.

25 сакавіка Мінгарсуд пакінуў прысуд першай інстанцыі, вынесены па справе аб масавых беспарадках ***Васілю Парфянкову***, без зменаў.

30 сакавіка следчае ўпраўленне папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама перакваліфікавала абвінавачванне з арт. 293 КК на ч. 1 арт. 342 КК — «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх» ***Уладзіміру Някляеву***, ***Аляксандру Фядуту***, ***Сяргею Вазняку***, ***Андрэю Дзмітрыеву***, ***Віталю Рымашэўскаму*** і ***Анастасіі Палажанка***. А 4 красавіка яшчэ чатыром фігурантам справы: каардынатару «Еўрапейскай Беларусі» ***Зміцеру Бандарэнку***, сустаршыні БХД ***Паўлу Севярынцу***, жонцы А.Саннікава журналістцы ***Ірыне Халіп*** і кіраўніку штаба М.Статкевіча ***Сяргею Марцалеву***.

Па інфармацыі МУС ад 5 красавіка, папярэдняе расследванне па крымінальнай справе аб масавых беспарадках завершана. Паводле

On 1-2 March the Frunzenski District Court of Minsk tried **Aliaksandr Atroshchankau**, **Aliaksandr Malchanau** and **Dzmitry Novik**. All of them were found guilty under Article 293, part 2, "mass riot". Malchanau was also found guilty under Article 370 of the Criminal Code, "defilement of state symbols". A.Atroshchankau was sentenced to 4 years of imprisonment, A.Malchanau — to 3 years and Dz.Novik — to 3.5 years.

On 14 March presidential candidate **Aliaksei Mikhalevich**, released under a written non-leave undertaking, secretly left Belarus. The politician asked for political asylum in the Czech Republic.

On 18 March presidential candidates **Mikalai Statkevich** and **Dzmitry Uss** were charged with organizing the "mass riot" (Artile 293, part 1). M.Statkevich was left in the KGB jail and Dz.Uss had to give a written undertaking not to leave.

On 22-24 March the Maskouski District Court considered the criminal case against the leader of the "Young Front", **Zmitser Dashkevich**, and the head of its Minsk branch, **Eduard Lobau**. They were found guilty of a particularly malicious hooliganism (Article 339, part 3) and sentenced to 2 and 4 years of imprisonment respectively.

On 22-24 March the case of **Mikita Likhavid**, separated from the general "mass riot" case (Article 293, part 2), was heard at the Partyzanski District Court of Minsk. 29 riot policemen who stood on the Square on 19 December 2010, watching the demonstrators smashing the windows of the House of the Government, were found victims. On 29 March the inquest was finished and M.Likhavid was sentenced to 3.5 years of imprisonment.

On 25 March the preliminary investigation board of the Main Police Bureau of the Minsk City Executive Committee presented charges under Article 293, part 1, "organization of a mass riot" to presidential candidate **Andrei Sannikau**.

On 25 March the Minsk City Court upheld the guilty verdict to **Vasil Parfiankou**.

On 30 March the preliminary investigation board of the Main Police Bureau of the Minsk City Executive Committee changed charges to **Andrei Dzmitryieu, Aliaksandr Fiaduta, Uladzimir Niakliayeu, Anastasiya Palazhanka, Vital Rymasheuski** and **Siarhei Vazniak** from Article 293 to Article 342, part 1, "organization and preparation of actions that grossly breach public order or active participation in them". On 4 April the same was done to four more defendants: the coordinator of the "European Belarus" **Zmitser Bandarenka**, Andrei Sannikau's wife, journalist **Iryna Khalip**, the head of M.Statkevich's electoral headquarters **Siarhei Martsaleu** and the co-head of the Belarusian Christian Democracy **Pavel Seviarynets**.

According to the information of the Ministry of Internal Affairs dated 5 April, the preliminary investigation into the criminal case came to an end. According to the conclusion of the investigators, they "received ample evidence of an attempt to change the political system of the Republic of Belarus by prior agreement with representatives of foreign governments, whose ultimate goal was, in fact, making a coup d'etat." It was also reported

заключэння следства, «атрыманы вычарпальныя доказы аб спробе змены Канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь па папярэдняй змове з прадстаўнікамі замежных дзяржаваў і арганізацыяў, якія па сутнасці ставілі канчатковай мэтай ажыццяўленне дзяржаўнага перавароту». Паведамляецца, што падчас расследавання крымінальных справаў устаноўлены роля і ступень удзелу кожнага фігуранта ў падзеях, якія адбыліся.

5 красавіка ў Мінскім гарадскім судзе адбыўся касацыйны разгляд скаргі на прысуд першай інстанцыі **Аляксандру Атрошчанкаву**, **Дзмітрыю Новіку** і **Аляксандру Малчанаву**. Судовая калегія пакінула рашэнне без зменаў, а касацыйныя скаргі — без задавальнення.

6 красавіка пад падпіску аб нявыездзе з СІЗА КДБ быў вызвалены старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**, якога абвінавачваюць у «масавых беспарадках». За кратамі палітык правёў больш за тры месяцы, але апошнія следчыя дзеянні з яго ўдзелам адбыліся 28 снежня мінулага года. 23 жніўня «ў сувязі з адсутнасцю ў дзеяннях складу злачынства» крымінальная справа ў дачыненні да А.Лябедзькі спынена.

8 красавіка вызвалены адзін з лідараў кампаніі «Гавары праўду!», давераная асоба кандыдата У. Някляева палітолаг **Аляксандр Фядута.**

27 красавіка ў Кастрычніцкім райсудзе Мінска распачаліся слуханні па крымінальнай справе, узбуджанай па ч. 2 арт. 293 КК, у дачыненні да ***Паўла Вінаградава***, ***Аляксандра Кіркевіча***, ***Дзмітрыя Дразда***, ***Уладзіміра Хамічэнкі***, ***Андрея Пратасені***. Акрамя таго, ***Павел Вінаградаў*** абвінавачваўся згодна з арт. 370 КК Рэспублікі Беларусь у знявазе дзяржаўных сімвалаў. Працэс працягваўся шэсць дзён. 5 мая суд прызнаў усіх абвінавачаных віноўнымі ў інкрымінаваных ім злачынствах і пакараў пазбаўленнем волі на тэрмін: П. Вінаградава — 4 гады, А. Кіркевіча — 4 гады, Д. Дразда — 3 гады, У.Хамічэнку — 3 гады, А. Пратасеню — 3 гады.

З 27 красавіка ў судзе Партызанскага раёна Менска на працягу дзесяці дзён разглядалася крымінальная справа ў дачыненні да ***Андрэя Саннікава***, ***Іллі Васілевіча***, ***Алега Гнедчыка***, ***Фёдара Мірзаянава*** і ***Уладзіміра Яроменкі***. Прысуд абвешчаны 14 мая: А. Саннікаў атрымаў мінімальнае пакаранне па прад'яўленаму яму артыкуле — ч. 1 арт. 293 КК РБ — пазбаўленне волі тэрмінам на 5 гадоў. Па ч. 2 арт. 293 КК РБ А. Гнедчык атрымаў 3 гады 6 месяцаў, І.Васілевіч, Ф.Мірзаянаў і У.Яроменак — па 3 гады зняволення.

5 мая ў Фрунзенскім райсудзе пачаўся разгляд крымінальных спраў ***Уладзіміра Някляева***, ***Віталя Рымашэўскага***, ***Андрэя Дзмітрыева***, ***Аляксандра Фядуты***, ***Насты Палажанка*** і ***Сяргея Вазняка*** па абвінавачванні іх у арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх (ч. 1 арт. 342 КК РБ). Працэс доўжыўся дзесяць дзён. Прысуд абвешчаны 20 мая: У. Някляеву — 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на 2 гады, С.Вазняку, А. Фядуту, В.Рымашэўскаму, А.Дзмітрыеву — па 2 гады пазбаўлення волі ўмоўна, А. Палажанцы — 1 год умоўна.

that the role and the degree of participation of each defendant in the the events were established.

On 5 April the Minsk City Court considered the appeal against the verdict to **Aliaksandr Atroshchankau, Aliaksandr Malchanau** and **Dzmitry Novik**. The panel of judges left the sentence unchanged.

On 6 April the chairperson of the United Civil Party **Anatol Liabedzka**, charged with "mass rioting", was released from the KGB prison under a written undertaking not to leave. He spent more than three months in custody, though the last investigative actions with his participation took place on 28 December 2010. The criminal case against Liabedzka was dropped on 23 August due to the absence of corpus delicti in his actions.

On 8 April **Aliaksandr Fiaduta**, a leader of the civil campaign "Speat Truth!", electioneering agent of presidential candidate Uladzimir Niakliayeu, was released from custody.

On 26 April the Pershamaiski District Court considered the criminal case against **Dzmitry Bandarenka**, a coordinator of the "European Belarus" and electioneering agent of presidential candidate A.Sannikau. On 27 April Dz.Bandarenka was found guilty under Article 342, part 1, "organization and preparation of actions that grossly breach public order or active participation in them" and sentenced to 2 years of imprisonment.

On 27 April hearings on the criminal case under Article 293, part 2, instigated against **Dzmitry Drozd, Uladzimir Khamichenka, Aliaksandr Kirkevich, Andrei Pratasenia** and **Pavel Vinahradau**, started at the Kastrychnitski District Court of Minsk. Pavel Vinahradau was also charged under Article 370 of the Criminal Code, "defilement of state symbols". The trial lasted six days. On 5 May all defendants were found guilty. Dz.Drozd was sentenced to 3 years of imprisonment, U.Khamichenka — 3 years, A.Kirkevich — 4 years, A.Pratasenia — 3 years and P.Vinahradau — 4 years.

On 27 April the hearings on the criminal case against **Aleh Hnedchyk, Fiodar Mirzayanau, Andrei Sannikau, Illia Vasilevich** and **Uladzimir Yaromenak** started at the Partyzanski District Court. The trial lasted ten days. On 14 May A.Sannikau received the minimal penalty provided by Article 293, part 1, "organization of a mass riot" — 5 years of imprisonment. The remaining defendants were charged under Article 293, part 2. A.Hnedchyk was sentenced to 3.5 years of imprisonment, F.Mirzayanau, I.Vasilevich and U.Yaromenak — to 3 years.

On 5 May the consideration of the criminal case of **Andrei Dzmitryieu, Aliaksandr Fiaduta, Uladzimir Niakliayeu, Anastasiya Palazhanka,Vital Rymasheuski** and **Siarhei Vazniak** started at the Frunzenski District Court. The defendants were charged under Article 342, part 1, "organization and preparation of actions that grossly breach public order or active participation in them". The trial lasted ten days. The verdict was announced on 20 May: Niakliayeu was sentenced to 2 years of imprisonment suspended for 2 years, A.Dzmitryieu, A.Fiaduta, V.Rymasheuski and S.Vazniak — to 2 years of conditional imprisonment and A.Palazhanka — to 1 year of conditional imprisonment.

On 5-11 May the Maskouski District Court considered the criminal case against **Dzmitry Daronin, Aleh Fedarkevich, Siarhei Kazakou, Uladzimir**

11 мая ў судах Мінска адначасова праходзілі адразу пяць судовых працэсаў над 27 удзельнікамі акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў прэзідэнта 19 снежня 2010 года.

11-18 мая ў Ленінскім райсудзе адбываўся судовы працэс па абвінавачванні ***Мікалая Статкевіча*** і ***Дзмітрыя Уса*** ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага ч. 1 арт. 293 КК (арганізацыя масавых беспарадкаў), ***Дзмітрыя Буланава***, ***Андрэя Пазняка***, ***Арцёма Грыбкова*** і ***Аляксандра Кваткевіча*** — па ч.2 арт. КК, ***Аляксандра Класкоўскага*** — па ч. 1 і ч. 2 арт. 293 КК, арт. 369 КК (абраза прадстаўніка ўлады), арт. 382 (самавольнае прысваенне звання ці ўлады службовай асобы). Прысуд агучаны 26 мая. З А.Класкоўскага знята ч. 1 арт. 293 КК, астатнія абвінавачаныя прызнаныя віноўнымі ў інкрымінаваных ім злачынствах і пакараныя пазбаўленнем волі на тэрмін: М. Статкевіч — 6 год, Д. Ус — 5 год 6 месяцаў, А. Класкоўскі — 5 год, А. Кваткевіч — 3 гады 6 месяцаў, А. Грыбкоў — 4 гады, Д. Буланаў — 3 гады. А. Пазняк з выкарыстаннем арт. 70 КК асуджаны на 2 гады абмежавання волі без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу і вызвалены з-пад варты ў зале суда.

11-14 мая ў Завадскім райсудзе праходзілі судовыя слуханні па крымінальнай справе, узбуджанай па ч. 1 арт. 342 КК РБ у дачыненні да ***Паўла Севярынца***, ***Сяргея Марцалева***, ***Ірыны Халіп***. Прысуд абвешчаны 16 мая: П. Севярынец пакараны абмежаваннем волі на 3 гады з накіраваннем на папраўчыя работы , І. Халіп пазбаўленнем волі на 2 гады з адтэрміноўкай на 2 гады, С. Марцалеў — на 2 гады ўмоўна (з выпрабавальным тэрмінам на 2 гады).

5-11 мая ў Маскоўскім райсудзе разглядалася крымінальная справа ў дачыненні да ***Дзмітрыя Дароніна***, ***Сяргея Казакова***, ***Алега Федаркевіча***, ***Яўгена Сакрэта***, ***Віталя Мацукевіча***, ***Уладзіміра Лобана***, абвінавачаных па ч. 2 арт. 293 КК РБ. 12 траўня суд прызнаў усіх віноўнымі ў здзяйсненні інкрымінаванага ім злачынства і вынес пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі Д. Дароніну і А. Федаркевічу па 3 гады 6 месяцаў, С. Казакову, Я. Сакрэту, В. Мацукевічу і У. Лобану — па 3 гады.

15 чэрвеня быў затрыманы апошні фігурант крымінальнай справы аб масавых беспарадках — ***Святаслаў Барановіч*** з Вілейкі. Паводле версіі следства ён адабраў у супрацоўнікаў міліцыі дубінку і нанёс ёй удары па шчытах. Малады чалавек з’явіўся ў аддзяленне міліцыі пасля выкліку па тэлефоне. Яму прад’явілі абвінавачванне па ч.2 арт.293 КК і ўзялі пад варту. Да суду знаходзіўся ў СІЗА па вуліцы Валадарскага.

Напрыканцы жніўня абвінавачаныя па крымінальнай справе Анатоль Лябедзька,Уладзімір Кобец, Наталля Радзіна, Алег Корбан, Анатоль Паўлаў, Аляксандр Арастовіч і Рыгор Костусеў, які з’яўляўся падазраваным, былі ўведамлены, што ў дачыненні да іх крымінальная справа, распачатая 20 снежня 2010 года па факце ўчынення масавых беспарадкаў, спынена пастановай ад 23 жніўня «ў сувязі з адсутнасцю ў дзеянні складу злачынства». Афіцыйны дакумент быў разасланы за подпісам старэйшага следчага СУ ПР ГУУС Мінгарвыканкама капітана міліцыі Д.У. Дышэнкі. У другім лісце паведамлялася, што знята часовае абмежаванне на права грамадзяніна выязджаць за межы Беларусі.

**Loban, Vital Matsukevich** and **Yauhen Sakret**, charged under Article 293, part 2. On 12 May all of them were found guilty. Dz.Daronin and A.Fedarkevich were sentenced to 3.5 years of imprisonment, S.Kazakou, U.Loban, V.Matsukevich and Ya.Sakret — to 3 years.

All in all, hearings on five criminal cases against 27 participants of the 19 December protest action against the rigged presidential election were held at Minsk courts on 11 May.

On 11-18 May the Leninski District Court considered the case of **Mikalai Statkevich** and **Dzmitry Uss** (charged under Article 293, part 1, “organization of a mass riot”), **Dzmitry Bulanau, Artsiom Hrybkou, Aliaksandr Kviatkevich** and **Andrei Pazniak** (charged under Article 293, part 2), **Aliaksandr Klaskouski** (charged under Article 293, parts 1 and 2, Article 369, “insult of a public agent”, Article 382 “unauthorized conferment of the rank or powers of a duty official”). the verdicts were announced on 26 May. The charges under Article 293, part 1 against Klaskouski were dropped, all other defendants were found guilty on all charges. Dz.Bulanau was sentenced to 3 years of imprisonment, A.Hrybkou — to 4 years, A.Klaskouski — to 5 years, A.Kviatkevich — to 3.5 years, M. Statkevich — to 6 years, Dz.Uss to 5.5 years. A.Pazniak was sentenced to 2 years of personal restraint without direction to an open penitentiary institution (due to the use of Article 70) and was released from custody in the court room.

On 11-14 May the Zavadski District Court held hearings on the criminal case of **Iryna Khalip, Siarhei Martsaleu** and **Pavel Seviarynets**, charged under Article 342, part 1. The verdict was announced on 16 May: I.Khalip was sentenced to 2 years of imprisonment suspended by 2 years, S.Martsaleu — to 2 years of conditional imprisonment (with a 2-year probation period). Pavel Seviarynets was punished with 3 years of personal restraint with direction to an open penitentiary institution.

On 15 June the last defendant in the “mass riot” case, Vileika resident **Sviataslau Baranovich**, was detained. According to the investigation’s version, he had seized a baton from a policeman and hit on policemen’s shields. The young man came to the police station after being summonsed there by a telephone call. He was charged under Article 293, part 2, and taken into custody. He was kept in the pre-trial prison in Valadarski Street till trial.

At the end of **August Aliaksandr Arastovich, Ryhor Kastusiou, Uladzimir Kobets, Aleh Korban, Anatol Liabedzka, Anatol Paulau** and **Natallia Radzina** were informed that the criminal case, which had been instigated against them on 20 December 2010 in connection with the alleged mass riot, was dropped “because of the absence of corpus delicti in their actions”. The document was signed by police captain D.Dyshenka, senior investigator of the preliminary investigation board of the Main Police Bureau of the Minsk City Executive Committee. Another letter informed them about the lift of the foreign travel restrictions towards them.

On 11 August president Lukashenka released nine participants of the events of 19 December 2010. According to information of the state news agency BelTA, the decision to pardon them was taken on request of the prisoners, who understood the unlawful character of their actions, pleaded guilty and

11 жніўня прэзідэнт Лукашэнка вызваліў ад адбыцця пакарання 9 удзельнікаў падзеяў 19 снежня 2010 года. Па паведамленні БелТА, рашэнне аб памілаванні прынята на падставе просьбаў асобаў, з улікам таго, што яны асэнсавалі проціпраўны характар сваіх дзеянняў, прызналі віну і шчыра раскаяліся. Прозвішчы памілаваных указаныя не былі. 13 жніўня на волю выйшлі першыя памілаваныя **Дзмітры Дрозд, Арцём Грыбкоў, Сяргей Казакоў, Васіль Парфянкоў, Уладзімер Яроменак, Яўген Сакрэт, Віталь Мацукевіч, Аляксандар Квяткевіч, Уладзімер Хамічэнка.**

29 жніўня ў Маскоўскім райсудзе пачаўся крымінальны працэс над апошнім абвінавачаным па справе аб масавых беспарадках ***Святаславам Барановічам***. Але суддзя змяніла толькі меру стрымання яму на падпіску аб нявыездзе і перанесла разгляд справы на 28 верасня. 12 кастрычніка С.Барановічу быў вынесены прысуд — з улікам арт. 70 КК РБ ён пакараны абмежаваннем волі на 3 гады без накіравання ва ўстанову адкрытага тыпу.

1 верасня прэзідэнт памілаваў яшчэ чатырох асуджаных за Плошчу. Гэта — **Зміцер Даронін**, **Алесь Кіркевіч**, **Алег Гнедчык**, **Андрэй Пратасеня**. Паводле інфармацыі прэсавай службы Лукашэнкі, адпаведны ўказ падпісаны «пасля разгляду прашэнняў гэтых грамадзян аб памілаванні», аднак празвішчы памілаваных у афіцыйным паведамленні не называліся.

14 верасня «кіруючыся прынцыпамі гуманнасці», Прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб памілаванні 11 асоб, асуджаных за ўдзел у «вулічных беспарадках у Мінску 19 снежня 2010 года». Гэта — ***Павел Вінаградаў***, ***Аляксандр Класкоўскі***-малодшы, ***Уладзімір Лобан***, ***Дзмітрый Новік***, ***Фёдар Мірзаянаў***, ***Алег Федаркевіч***, ***Дзмітрый Буланаў***, ***Аляксандар Малчанаў***, ***Аляксандр Атрошчанкаў***, ***Ілля Васілевіч*** і ***Мікіта Ліхавід***. Большасць з памілаваных заявілі, што яны не пісалі прашэнняў Лукашэнку.

1 кастрычніка з тых жа прынцыпаў гуманнасці А.Лукашэнка падпісаў указ аб памілаванні яшчэ аднаго асуджанага — кандыдата ў прэзідэнты ***Дзмітрыя Уса***, які таксама прашэння не пісаў.

Такім чынам, на момант здачы кнігі ў друк з 42 асуджанага за ўдзел у паслявыбарчым мітынгу пратэсту супраць фальсіфікацыяў прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі за кратамі заставаліся 4 палітвязняў Плошчы, сярод якіх два экс-кандыдаты ў прэзідэнты — Мікалай Статкевіч і Андрэй Саннікаў, каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Дзмітрый Бандарэнка і сустаршыня Партыі БХД Павел Севярынец. Палітвязнямі Плошчы праваабаронцы таксама лічаць маладафронтаўцаў Змітра Дашкевіча і Эдуарда Лобава, прэвентыўна арыштаваных напярэдадні акцыі. 11 абвінавачаным суд вынес пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі. 2 грамадзян РФ былі асуджаныя да выплаты штрафаў. 25 былі памілаваныя прэзідэнтам Лукашэнкам.

sincerely repented. The surnames of the "pardoned" weren't mentioned. On 13 August **Dzmitry Drozd, Artsiom Hrybkou, Siarhei Kazakou, Uladzimir Khamichenka, Aliaksandr Kviatkevich, Vital Matsukevich, Vasil Parfiankou, Yauhen Sakret** and **Uladzimir Yaromenak** were released from jail.

On 29 August the trial of the last defendant of the "mass riot" case, **Sviataslau Baranovich**, started at the Maskouski District Court. The judge just changed the restraint to Baranovich to a written undertaking not to leave and postponed the trial till 28 September. On 12 October S.Baranovich was sentenced to 3 years of personal restraint without direction to an open penitentiary institution. Article 70 of the Criminal Code was used towards him.

On 1 September four more prisoners were pardoned: **Zmitser Daronin, Aleh Hnedchyk, Ales Kirkevich** and **Andrei Pratasenia.** According to Lukashenka's press-service, the appropriate decree was signed "after consideration of the pardon petitions, filed by these citizens". However, their surnames weren't mentioned.

On 14 September, "being guided by principles of humanity", president of Belarus signed the decree for pardoning 11 more persons, imprisoned for "participation in the mass riot on 19 December 2010 in Minsk": **Aliaksandr Atroshchankau, Dzmitry Bulanau, Aleh Fedarkevich, Aliaksandr Klaskouski, Mikita Likhavid, Uladzimir Loban, Aliaksandr Malchanau, Fiodar Mirzayanau, Dzmitry Novik, Illia Vasilevich** and **Pavel Vinahradau**. Most of them stated they hadn't filed any pardon petitions with Lukashenka.

On 1 October, referring to the same principles of humanity, A.Lukashenka signed the decree for pardoning another convict, presidential **Dzmitry Uss**, who hadn't filed any pardon petitions either.

Thus, at the time of the book's printing, only 4 out of 42 people, imprisoned for participation in the post-election protest action of 19 December, remained behind bars — presidential candidates **Andrei Sannikau** and **Mikalai Statkevich**, coordinator of the "European Belarus" **Zmitser Bandarenka** and co-chairman of the Belarusian Christian Democracy **Pavel Seviarynets**. Though the "Young Front" leaders **Zmitser Dashkevich** and **Eduard Lobau** were arrested on the eve of the protest action and imprisoned on charges of "hooliganism", human rights defenders also consider them as "prisoners of the Square".

11 defendants in the "mass riot" case received penalties which weren't connected to imprisonment. Two citizens of the Russian Federation were sentenced to pay fines. 25 people were pardoned by Aliaksandr Lukashenka.

# Васіль ПАРФЯНКОЎ



Нарадзіўся 30 жніўня 1983 г. у Мінску. Скончыў 9 класаў школы № 163, працаваў аўтаслесарам у 7 аўтапарку сталіцы. Халасты.

Прымаў актыўны ўдзел у абароне Курапатаў у 2002 годзе, калі ўлады Мінска мелі планы зруйнаваць крыжы дзеля пашырэння МКАД. Незалежная прэса пісала тады пра падпал намёта абаронцаў невядомымі, калі Васіль выратаваў ад пажару дзяўчыну і хлопца. Паведамлялася таксама і пра некалькі нападаў правакатараў, якім давялося даваць адпор. Падчас адной такой сутычкі Васіль Парфянкоў атрымаў траўму — пералом рукі.

Быў сябрам Беларускай партыі свабоды, удзельнічаў у акцыях разам з Маладым Фронтам і Зубром. Неаднаразова затрымліваўся і адбываў адміністрацыйныя тэрміны ў ізалятары на Акрэсціна за сваю грамадскую актыўнасць.

Падчас выбараў-2010 супрацоўнічаў з кампаніяй «Гавары праўду!», быў актывістам штаба кандыдата У. Някляева. Затрыманы 4 студзеня, да суда ўтрымліваўся ў СІЗА на Валадарскага як фігурант крымінальнай справы па арт. 293 ч.2 КК РБ — «Масавыя беспарадкі».

17.02.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Вольга Комар вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 4 гады ў калоніі строгага рэжыму. Таксама задаволены грамадзянскі іск аб кампенсацыі нанесенай матэрыяльнай шкоды ў памеры 14 мільёнаў 144 тысяч беларускіх рублёў.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

# Vasil Parfiankou

Born on 30 August 1983 in Minsk. Studies at School #163, then worked as a car mechanic in Minsk bus depot #7. Single.

Vasil is famous for his activities for the protection of the Kurapaty memorial in 2002, when the authorities were trying to pull down the crosses during repairs on the city belt highway. Independent media reported an arson of the activists' campsite by unknown persons, when Vasil rescued a girl and a boy. During another attack on the activists, Vasil was injured and his arm was broken.

He was a member of the Belarusian Party of Freedom, participated in joint events with the "Young Front" and "Zubr". Repeatedly detained and convicted for his civil activity.

During the 2010 presidential election, Vasil collaborated with the "Tell the Truth!" campaign, working as an activist of Uladzimir Niakliayeu's campaign team.

He was detained on 4 January and kept in Minsk pre-trial prison in Valadarski Street as a figurant of the criminal case instigated under part 1 of Article 293 of the Criminal Code, "mass riot".

On 17 February 2011 Volha Komar, Judge of the Frunzenski District Court of Minsk, sentenced him to 4 days of imprisonment in a high-security penal colony. She also granted the civil claim against the activist, according to which he was to pay 14,144,000 rubles as a compensation for the material damage.

Vasil was pardoned by presidential decree on 11 August 2011.



# Аляксандр АТРОШЧАНКАЎ

Нарадзіўся 22 сакавіка 1981 г. у Мінску. Вучыўся ў БДУ на факультэце міжнародных адносін, быў выключаны за палітычную дзейнасць пры рэктары А. Казуліне. Студэнт ЕГУ па спецыяльнасці «Міжнароднае права».

У 2001-2006 гг. быў сябрам арганізацыі «Зубр», браў удзел у яе акцыях, затрымліваўся за сваю палітычную дзейнасць міліцыяй, таксама невядомымі. Так, у 2000-м годзе падчас святкавання Дня Волі (гэта быў дзень масавага захопу журналістаў АМАПам) яго схапілі людзі ў масках у раёне плошчы Якуба Коласа, запхнулі ў міліцэйскую машыну, потым у аўтазак і каля 40 хвілін некуды ехалі, жартуючы, што вязуць у Курапаты на расстрэл. Выкінулі ў снег у 15 км ад горада.

10 гадоў працаваў карэспандэнтам сайта Хартыя'97. Пасля стварэння ў 2008 годзе грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» стаў яе прэс-сакратаром. На выбарах-2010 — прэсавым сакратаром штаба кандыдата Андрэя Саннікава. Затрыманы 20 снежня ў кватэры бацькоў. Змешчаны ў СІЗА КДБ, быў абвінавачаны ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК).

02.03.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Таццяна Чэркас вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 4 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

# Aliaksandr Atroshchankau

Born on 22 March 1981 in Minsk. Former student of the Foreign Relations Faculty of the Belarusian State University, expelled for political activities with Aliaksandr Kazulin as rector. Continued his studies at the European Humanities University on the speciality “International Law”.

In 2001-2006 he was member of “Zubr”, taking part in its events, repeatedly detained by the police and unknown persons. In 2000, during the Freedom Day rally (when dozens journalists were arrested by the riot police), he was seized by unknown persons in masks, put into a police car, then into a police bus which drove somewhere for 40 minutes, during which the activist was threatened to be escorted for execution. Aliaksandr was eventually thrown out of the car 15 kilometers outside the city.

In the 2010 election he was press-secretary of Andrei Sannikau’s headquarters. Detained on 20 January at his apartment. Put into the KGB pre-trial prison and charged under Article 293.

On 2 March 2011 Tatsiana Cherkas, Judge of the Frunzenski District Court of Minsk, sentenced him to 4 years in a high-security colony.

Was pardoned by presidential decree on 11 August 2011.

# Аляксандр МАЛЧАНАЎ



Нарадзіўся 22 чэрвеня 1988 г. у Барысаве, дзе і жыве. Вучыўся ў школе № 22. У першай палове 2000-х гадоў быў «зуброўцам». Палітычная актыўнасць стала прычынай пастаяннай увагі да яго з боку міліцыі. Праз гэта маці Галіне Андрэеўне нават не працягнулі кантракт на працы. Тады Саша перайшоў вучыцца ў вечаровую школу і пайшоў на курсы маляроў. Потым паступіў у Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут у Мінску. Зараз яго мама ўжо на пенсіі.

Пасля акцыі пратэсту на Плошчы быў затрыманы 6 студзеня дома ў Барысаве па абвінавачванні ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК). Да суда ўтрымліваўся ў СІЗА КДБ.

02.03.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Таццяна Чэркас вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09.2011 г.

# Aliaksandr Malchanau

Born on 22 June 1988 in Barysau. Finished School #22. Former member of the “Zubr” youth opposition movement. His mother was reportedly dismissed from work for her son’s political activity. Aliaksandr had to become a house painter, then entered Minsk International Humanities and Economics Institute. His mother is retired now.

Aliaksandr was detained on 6 January in Barysau. He was charged with participation in a mass riot, (part 2 of Article 293 of the Criminal Code). Was kept in custody in the pre-trial prison of the KGB in Minsk.

On 2 March 2011 Tatsiana Cherkas, Judge of the Frunzenski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years in high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.

# Дзмітрый НОВІК

Нарадзіўся 16 верасня 1981 г. у Баранавічах. Скончыў там школу № 13, па словах маці быў адным з лепшых вучняў, выдатна ведаў англійскую мову. Аднак паступіць у Лінгвістычны ўніверсітэт не атрымалася, вучыўся ў Мінскай Акадэміі фізічнай культуры. Служыў у войску, пасля якога год правёў са сваімі сябрамі на заробках у Амерыцы: працаваў на Ціхаатлантычных лайнерах, хадзіў у круізы. З сям'і ў яго — хворыя маці і бабуля, для якіх ён быў адзінай апорай, ды малодшы брат.

Пасля вяртання працаваў кіроўцам у амбасадзе Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў, ахоўнікам гатэля «Краўн Плаза». Усё жыццё захапляўся спортам. Палітыка, наадварот, не была ў сферы ягоных інтарэсаў. Ніколі раней не ўдзельнічаў у мітынгах пратэстаў, 19 снежня  на Плошчу ён прыйшоў, каб выказаць сваю грамадзянскую думку, веру ў перамены.

Затрыманы позна ўвечары 23 снежня дома ў Баранавічах,  абвінавачаны ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК). Да суда знаходзіўся пад вартай у СІЗА КДБ.

02.03.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Таццяна Чэркас вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады 6 месяцаў у калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09.2011 г.

# Dzmitry Novik

Born on 16 September 1981 in Baranavichy. Finished School #13. According to his mother, he was one of the best pupils and had an excellent command of English. However, he didn't manage to enter Minsk State Linguistic University. Instead, he studied in Minsk Physical Culture Academy and eventually was called up to the army. After this he spent a year working in the US with his friends, working at cruise ships. His family consists of mother and grandmother, both of whom are ill, and a younger brother.

After his return home Dzmitry used to work as a driver at the Unite Arab Emirates embassy  and a security guard at the "Crown Plaza" restaurant. Aliaksandr has always been keen on sports, paying little attention to politics. He had never taken part in protest actions before 19 December. He came to the Square to express his civil position and faith in changes.

Detained on 23 December 2010 in Baranavichy as a suspect in the mass riot criminal case (part 2 of Article 293). Was kept in custody of the KGB pre-trial prison in Minsk.

On 2 March 2011 Tatsiana Cherkas, Judge of the Frunzenski District Court of Minsk, sentenced him to 3.5 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.

# Іван Гапонаў



Жыхар пасёлка Свіслач Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Нарадзіўся 27 красавіка 1988 г. у Сочы. Грамадзянін Расійская Федэрацыі, мае від на жыхарства ў Беларусі, дзе пражывае з 1995 г. разам з маці і братам. Іван скончыў школу ў Беларусі і добра валодае беларускай мовай. Мае сярэднюю адукацыю. Халасты.

Маці Сабіра Атакішыева родам з Кіргізіі, бацька — з Расіі. У Беларусь прыехалі з Латвіі, тады ў сям'і было трое маленькіх дзяцей — Іван, яго брат і сястра. Пераезду ў Беларусь паспрыяла тое, што ў бацькі Івана на той час тут была праца, а маці, наадварот, у латвійскім Ветспілсе працу страціла. На радзіму ў Кіргізію паехаць было немагчыма, а ў Расіі нікога са сваякоў не было. Вучыўся ў Адэскім універсітэце. Захапляецца літаратурай, пачынаючы пісьменнік.

Працаваў на вобжыгу вырабаў у керамічнай майстэрні ў Свята-Елізавецінскім манастыры. Маці выхоўвала яго ў пазітыўным духу, вучыла бачыць добрае ў любыя перыяды жыцця. Падчас судовых працэсаў матушкі з майстэрні выказалі сям'і сваю падтрымку.

За ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня атрымаў 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

29 снежня вызвалены разам з іншымі расіянамі, але праз гадзіну яго забралі з дому ў межах крымінальнай справы. Знаходзіўся пад вартай у СІЗА № 1 на вул. Валадарскага. Абвінавачаны ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК).

10.03.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Любоў Сімахіна пакарала штрафам у памеры 300 базавых велічынь (10,5 мільёнаў бел.рублёў). Вызвалены ў зале суда.

# Ivan Gaponov

Resident of the town of Svislach, Pukhavichy district, Minsk region. Born on 27 April 1988 in Sochi. Russian citizen, has a Belarusian residence permit, residing in Belarus with his mother and brother since 1995. Ivan finished school in Belarus and speaks Belarusian fluently. He has a secondary education. Single.

His mother Sabira Atakishiyeva was born in Kyrgyzstan, his father is of Russian origin. Ivan's family arrived in Belarus from Latvia as Russian citizens. There were three minors in the family — Ivan, his brother and sister. Their migration to Belarus was advantaged by the fact that Ivan's father used to have a job in Belarus at the moment, while his mother had lost her job in Ventspils, Latvia. They could not go to Kyrgyzstan, nor could they move to Russia, having no relatives there. Ivan is a former student of Odessa University and a novice writer.

He worked at kilning of production at the ceramic workshop in St. Elisabeth monastery. The mother taught him to find good moments even in hard times. Nuns from the workshop expressed their support to him during the trial.

At first Ivan was arrested on 19 December and sentenced to 10 days of arrest. On 29 December he was released together with other Russian nationals. However, an hour later he was detained in the criminal case under part 2 of Article 293. Was kept in the pre-trial prison in Valadarski Street till trial.

On 10 March 2011 Liubou Simakhina, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to pay 10,5 million rubles fine. He was released from custody in the courtroom.



# Арцём БРЭУС

Грамадзянін Расійскай Федэрацыі. Нарадзіўся 5 жніўня 1983 г. у Мінску. Дзяцінства правёў у Эстоніі, скончыў гімназію ў Таліне і Талінскі Еўрапейскі ўніверсітэт па спецыяльнасці «Дызайнер». Апошні час жыў у Мінску, дзе мае рэгістрацыю. Халасты.

Затрыманы падчас разгону паслявыбарчай акцыі пратэсту 19 снежня на плошчы Незалежнасці. Асуджаны да адбыцця адміністрацыйнага арышту на 10 сутак. Пасля вызвалення 29 снежня зноў затрыманы ўжо ў межах крымінальнай справы. Абвінавачаны ва ўдзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК). Знаходзіўся пад вартай у СІЗА № 1 на вул. Валадарскага.

10.03.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Любоў Сімахіна пакарала штрафам у памеры 300 базавых велічынь (10,5 мільёнаў бел.рублёў). Вызвалены ў зале суда.

# Artyom Breus

Citizen of the Russian Federation, born on 5 August 19983 in Minsk. He spent his childhood in Estonia, where he is currently registered by the local consular section of the Russian Federation embassy as a Russian citizen. Finished a gymnasium in Tallin and Tallinn European University where he studied design. Lately, resided in Minsk. Single.

Was detained during the 19 December post-election protest rally in Nezalezhnasts Square. Arrested for 10 days and released on 29 December together with other Russian nationals. However, on the same day he was detained in the criminal case under part 2 of Article 293. On 5 January he was officially charged. Was kept in custody at Minsk pre-trial prison #1 in Valadarski Street.

On 10 March 2011 Liubou Simakhina, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to pay 10,5 million rubles fine. He was released from custody in the courtroom.

# Дзмітры Мядзведзь



Нарадзіўся 16 студзеня 1960 г. у Мінску. Скончыў Мінскі палітэхнічны інстытут (цяпер БНТУ), атрымаў спецыяльнасць «Інжынер-энергетык». Некаторы час працаваў на адной з кафедраў роднага інстытута, потым — у сферы будаўніцтва. Многія вядомыя аб'екты беларускай сталіцы пабудаваны з ягоным удзелам, напрыклад, парк адпачынку «Сонечная даліна» ў мікрараёне Курасоўшчына. Меў уласны дробны бізнэс, фірма займалася ў асноўным рамонтнымі работамі. Жанаты, мае двух сыноў.

Не займаецца палітыкай, не мае дачынення да палітычных партыяў і рухаў. На плошчы Незалежнасці 19 снежня Дзмітрый быў затрыманы разам са старэйшым сынам ад першага шлюбу. Пасля адбыцця 10-ці сутак адміністрацыйнага арышту абвінавачаны ва ўдзеле ў масавых беспарадках. Утрымліваўся пад вартай у СІЗА № 1 на вул. Валадарскага.

10.03.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Рудніцкая вынесла прысуд: 3 гады абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Вызвалены ў зале суда.

# Dzmitry Miadzvedz

Born on 16 January 1960 in Minsk. Received a degree in power engineering at Minsk Polytechnic Institute. Former employee of the Institute, he later worked in construction industry. Many of Minsk's famous buildings were constructed with Dzmitry's assistance, e.g. the Sun Valley recreation park. He has recently launched his own business in repairing, its future being currently at risk due to Dzmitry's arrests. He has a wife and two sons.

Dzmitry is not affiliated with any political parties or movements. He was detained in Nezalezhnasts Square on 19 December together with his elder son (from the first marriage) and sentenced to 10 days in prison. After that he was once again detained in the mass riot criminal case. On 6 January he was charged under parts 1 and 2 of Article 293 of the Criminal Code. Was kept in custody in the pre-trial prison in Valadarski Street in Minsk.

On 10 March Alena Rudnitskaya, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years of personal restraint without direction to an open penitentiary institution.

# Зміцер ДАШКЕВІЧ

Нарадзіўся 20 ліпеня 1981 г. у вёсцы Кушнеры Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Да пяці гадоў жыў у Расіі на Далёкім Усходзе, потым — у райцэнтры Старыя Дарогі Мінскай вобласці. Пасля заканчэння школы паступіў у Гродненскі сельскагаспадарчы інстытут. У 2001 прыйшоў у моладзевы нацыянальны рух «Малады Фронт», быў адным з абаронцаў месца масавых расстрэлаў Курапаты. Вучыўся ў Віленскім педагагічным універсітэце на факультэце славістыкі.

Узначальваў Мінскую гарадскую арганізацыю МФ. Актыўны ўдзельнік і арганізатар шматлікіх масавых акцый і мерапрыемстваў дэмакратычных сілаў Беларусі. За сваю адкрытую палітычную пазіцыю і дэмакратычную дзейнасць неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці паводле незаконных палітычных артыкулаў, быў пакараны арыштамі і велізарнымі штрафамі.

У 2004-ым годзе на цэнтральнай плошчы беларускай сталіцы падчас абвяшчэння рэферэндуму аб трэцім тэрміне Лукашэнкі, адкрыта выступіў супраць незаконных дзеянняў уладаў. У тым жа годзе абраны старшынёй «Маладога Фронту». Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. працаваў у камандзе кандыдата А. Мілінкевіча, стаў адным з арганізатараў масавых акцыяў пратэсту і лідараў намётавага мястэчка на Кастрычніцкай плошчы. У верасні 2006 г. арыштаваны па абвінавачванні ў «дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі» паводле арт. 193.1 КК РБ. Асуджаны на паўтара гады зняволення. Праз год за адмову сведчыць супраць 16-гадовага актывіста МФ з Салігорска Івана Шылы супраць З. Дашкевіча была заведзена новая крымінальная справа, па якой пагражала яшчэ 6 месяцаў арышту ў дадатак да тэрміну. Але пад ціскам міжнароднай супольнасці суд пакараў яго толькі штрафам у памеры 60 базавых адзінак. «Міжнародная Амністыя» прызнала З. Дашкевіча вязнем сумлення. У 2007 г. вылучаўся кандыдатам на атрыманне ганаровай прэміі імя Роберта Кенэдзі.

Затрыманы 18 снежня 2010 г. на вуліцы разам з Эдуардам Лобавым. Абвінавачаны па ч. 3 арт. 339 КК РБ — «Злоснае хуліганства». Знаходзіўся пад вартай у СІЗА г. Жодзіна, потым на вул. Валадарскага ў Мінску.

24.03.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Шылько вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 2 гады ў калоніі агульнага рэжыму.

# Zmitser Dashkevich

Born on 20 July 1981 in the village of Kushnery, Ivatsevichy district, Brest region. As a child, Zmitser lived n Russia's Magadan, then in the town of Staryia Darohi, Belarus. There he finished school #2. Former student of Hrodna Agricultural Institute. In 2001 he joined the "Young Front" youth movement. In the autumn of 2001, he was one of the protectors of the Kurapaty memorial. Then he entered the Faculty of Slavic Studies at Vilnius University.

Zmitser was elected chair of the "Young Front" Minsk city office. Active participant and organizer of numerous pro-dem mass events. Has been repeatedly sentenced to arrest and fined large sums for money for his political activities.

In 2004 he participated in a protest against the results of the referendum on Lukashenka's third term. Then he was elected chair of the "Young Front". In the 2006 presidential election, Zmitser collaborated with Aliaksandr Milinkevich's team, being one of the organizers of mass protest rally in Kastrychnitskaya Square in Minsk. In September 2006 he was arrested and charged with "activities on behalf of an unregistered organization" (Article 193-1 of the Criminal Code). Sentenced to 1.5 years of imprisonment. A year later new charges were brought against him for his refusal to testify against a 16-year-old "Young Front" activist, Ivan Shyla. However, under a severe pressure from the international community, the court sentenced him to a fine of BYR 1,860,000. In 2007 he was one of the nominees for the Robert Kennedy Award.

Detained on 18 December 2010 out-of-doors together with Eduard Lobau, facing charges for criminal "hooliganism" (Article 339 of the Criminal Code). Was kept in custody in the pre-trial prison in Zhodzina, then – in the pre-trial prison in Valadarski Street in Minsk.

On 24 March 2011 Alena Shylko, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to 2 years in a minimum-security colony.

# Эдуард ЛОБАЎ

Нарадзіўся 1 снежня 1988 г. у Вільні. Скончыў сярэднюю школу № 219 г. Мінска, потым прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 38 перапрацоўчай прамысловасці па спецыяльнасці «Тэхнічная эксплуатацыя кантрольна-вымяральных прыбораў». З 8-га класа марыў звязаць сваё жыццё з войскам. Праходзіў тэрміновую службу ў спецназе Віцебскага дэсанта. Там жа, у войску, пазнаёміўся з маладафронтаўцам з Гомеля, дзякуючы якому далучыўся да «Маладога Фронту». Быў абраны кіраўніком мінскай гарадской арганізацыі МФ. Працягвае цікавіцца ваеннай справай і марыць пра адраджэнне беларускай арміі.

Затрыманы 18 снежня разам з лідарам МФ Зміцерам Дашкевічам. Абвінавачаны па ч. 3 арт. 339 КК РБ — «Злоснае хуліганства». У Жодзінскім СІЗА за адмову сведчыць супраць маладафронтаўцаў Э. Лобаву пагражалі фізічнай расправай.

24.03.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Шылько вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 4 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

---

## Eduard Lobau

Born on 1 December 1988 in Vilnius. Finished secondary school #219 and vocational school #38 (on the speciality “operation of test instruments” in Minsk. He dreamed of pursuing a military career since the 8th grade.

Served in the special unit of Vitsebsk paratroops, where he met a “Young Front” Homel activist and later became member of the movement. Former chairperson of the “Young Front” Minsk office. He is still planning to become a professional officer and dreams of reviving the Belarusian army.

Detained on 18 December together with the “Young Front” leader Zmitser Dashkevich. Charged under part 3 of Article 339 of the Criminal Code (“hooliganism”). While in Zhodzina penal colony, he refused to testify against “Young Front” activists and was threatened with violence.

On 24 March 2011 Alena Shylko, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to 4 years in a high-security colony.

# Мікіта ЛІХАВІД



Нарадзіўся 27 мая 1990 г. у Мінску. Скончыў сярэднюю школу № 177, пасля чаго паступіў на юрыдычны факультэт недзяржаўнага Мінскага інстытута кіравання. Навучаўся завочна.

Актывіст Руху «За свабоду». Быў затрыманы 19 снежня падчас разгону паслявыбарчай акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці і асуджаны на 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Аднак 23 студзеня пастанову аб арышце адмянілі, а Мікіту перавялі ў статус абвінавачанага па справе аб масавых беспарадках. З Жодзінскага СІЗА яго перавялі ў мінскую «Валадарку», а за дзень да суда — у камеру да абвінавачаных у цяжкіх злачынствах.

29.03.2011 г. суддзя Партызанскага райсуда Мінска Наталля Пыкіна вынесла прысуд у выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады 6 месяцаў у калоніі ўзмоцненага рэжыму. За кратамі праводзіў галадоўку супраць несправядлівага прысуду. Неаднаразова змяшчаўся ў штрафны ізалятар з фармулёўкай «за парушэнні турэмнага рэжыму».

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09.2011 г.

# Mikita Likhavid

Born on 27 May 1990 in Minsk. Finished secondary school #177 in Minsk. Former student of the Faculty of Law at Minsk Institute of Management. His studies were suspended after the 19 December events.

Activist of the “For Freedom” movement. Detained on 19 December in Nezalezhnasts Square and sentenced to 15 days of arrest. However, the verdict was revoked on 23 January. Mikita was given charges for involvement in the 19 December mass riot. He was transferred from the pre-trial prison in Zhodzina to the pre-trial prison in Valadarski Street in Minsk. The day before the trial he was put in a cell with the people who had committed hard crimes.

On 29 March was sentenced to 3.5 years of imprisonment by Natallia Pykina, Judge of the Partyzanski District Court of Minsk. Held a hunger-strike of protest against the unfair verdict. Was repeatedly placed in the penal cell for alleged violations of the prison regime.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.

# Зміцер БАНДАРЭНКА

Нарадзіўся 28 верасня 1963 г. у Мінску. Скончыў Інстытут фізічнай культуры. У 1995-1996 гг. працаваў на незалежным Радыё 101.2 FM, якое было зачынена ўладамі. Адзін з заснавальнікаў грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97», каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь», сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». За сваю палітычную дзейнасць падвяргаўся пераследу.

Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. быў давераная асобай кандыдата А. Саннікава. Арыштаваны 20 снежня ва ўласнай кватэры і змешчаны ў СІЗА КДБ. Прад'яўлена абвінавачванне па крымінальнай справе аб масавых беспарадках (чч. 1 і 2 арт. 293 КК). 4 красавіка стала вядома, што следства перакваліфікавала абвінавачванне на ч. 1 арт. 342 КК РБ — «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх».

27.04.2011 суддзя Першамайскага райсуда Таццяна Равінская вынесла прысуд у выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 2 гады ў калоніі агульнага рэжыму.

# Zmitser Bandarenka

Born on 28 September 1963 in Minsk. Graduated from the Institute of Physical Culture.

In 1995-1996 worked at the independent Radio 101.2 FM, later closed down by the authorities. One of the founders of the “Charter’97” civil initiative, coordinator of the “European Belarus” civil campaign, a member of the Belarusian Association of Journalists. Was persecuted for his political activity. During the 2010 presidential election — activist of Andrei Sannikau’s campaign team.

Arrested on 20 December at his apartment and put in custody at the KGB pre-trial prison. In late December he was officially charged in a criminal case initiated by the preliminary investigation department of Minsk city department of internal affairs under parts 1 and 2 of Article 293 of the Criminal Code (mass riot). On 4 March the charges to Bandarenka were changed to part 1 of Article 342, “actions that grossly violate the public order”.

On 27 April Tatsiana Ravinskaya, Judge of the Pershamaiski District Court of Minsk, sentenced him to two years of imprisonment in a minimum-security colony.

# Павел ВІНАГРАДАЎ



Нарадзіўся 24 красавіка 1988 г. у Мінску. Пасля разводу бацькоў і іх ад'езду з Мінска выхоўваўся бабуляю. Скончыў прафесійна-тэхнічны ліцэй № 4 па спецыяльнасці «Цырульнік», музычную школу па класу фартэпіяна. З 18 гадоў жыве самастойна. Некаторы час вучыўся на гісторыка-геаграфічным факультэце Мінскага педагагічнага ўніверсітэта, сам забраў дакументы пасля размовы з дэканам.

Некалькі гадоў быў актывістам кампаніі «Еўрапейская Беларусь». За палітычную дзейнасць затрымліваўся міліцыяй. Першае затрыманне адбылося ў 2007 г. на акцыі супраць адмены сацыяльных ільготаў: Павел патрапіў у пастарунак, калі выцягнуў з рук міліцыянтаў сваю дзяўчыну Святлану. Тады яго пакаралі 5-цю суткамі арышту. У 2008 г. з'яўляўся фігурантам «Працэсу 14-ці» — крымінальнай справы, якая была ўзбуджана па арт. 342 КК за ўдзел у мітынгу прадпрымальнікаў 10 студзеня 2008 г. Асуджаны на 2 гады абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Праз год амніставаны. На той час працаваў слесарам.

З лета 2010 г. — актывіст кампаніі «Гавары праўду!», браў удзел у многіх яе акцыях. На выбарах-2010 быў адным з самых актыўных сяброў ініцыятыўнай групы кандыдата У.Някляева. Арыштаваны ў ноч на 5 студзеня 2011 г., абвінавачаны ва ўдзеле ў масавых беспарадках. Да суда ўтрымліваўся ў СІЗА № 1 на вул. Валадарскага.

05.05.2011 г. суддзя Кастрычніцкага райсуда Мінска Ала Булаш вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 4 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09.2011 г.

# Pavel Vinahradau

Born on 24 April 1988 in Minsk. Was brought up by his grandmother after the divorce of parents and their departure from Minsk. Finished Technical Lyceum #4 with the qualification of hairdresser, and a musical school – as a piano player. Has lead an independent life since 18 years. Former student of Minsk Pedagogical "University (had to take away his documents after a talk with the dean).

Was an activist of the "European Belarus" campaign for several years. Repeatedly detained by the police for his political activity. He was detained for the first time at a protest action against the repeal of social benefits in 2007: he got to the police station after tearing his girl out of policemen's hands, and was sentenced to 5 days of arrest. In 2008 Pavel was one of the defendants in the "case of 14" (instigated against participants of a protest rally of entrepreneurs under Article 342 of the Criminal Code) and was sentenced to 2 years of personal restraint without direction to an open penitentiary institution. Was granted parole a year later. He worked as a plumber at that time.

Activist of the "Tell the Truth!" civil campaign since summer 2010, took part in many of its actions. Pavel was one of the most active members of Uladzimir Niakliayeu's campaign team. Arrested on 5 January 2011 and charged under parts 1 and 2 of Article 293 of the Criminal Code. His apartment was illegally searched. Was kept in custody in the pre-trial prison in Valadarski Street.

On 5 May Ala Bulash, Judge of the Kastrychnitski District Court of Minsk, sentenced him to 4 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.

# Алесь КІРКЕВІЧ



Нарадзіўся 11.11.1989 г. у Гродна ў сям'і гісторыкаў. Ягоны дзед Аляксандр быў вядомым у Гродне краязнаўцам. Пасля заканчэння школы паступіў на гістарычны факультэт Гродзенскага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Археалогія». Самастойна вырашыў адкласці вучобу дзеля таго, што лічыў зараз больш важным — палітычнай дзейнасці. З'яўляецца намеснікам старшыні «Маладога Фронту», кіраўніком Гродзенскай філіі моладзевай арганізацыі.

Удзельнік Плошчы-2010. Быў затрыманы за ўдзел у акцыі салідарнасці з палітвязнямі, што праходзіла 24 снежня пад сценамі мінскага ізалятара на завулку Акрэсціна. У той час там адбывала 12-суткавы адміністрацыйны арышт ягоная дзяўчына Надзея Крапівіна, студэнтка Люблінскага ўніверсітэта. Алеся пакаралі 10 суткамі арышту, ён выйшаў на волю толькі 3 студзеня і праз 3 дні зноў быў асуджаны: гэтым разам да выплаты штрафу за арганізацыю перадвыбарчай сустрэчы кандыдата ў прэзідэнты М. Статкевіча.

22-га студзеня Алесь і Надзея ажаніліся, а праз тыдзень, 28.01.11, пасля допыту ў Гродзенскім КДБ маладафронтавец быў арыштаваны і дастаўлены ў сталіцу. А. Кіркевічу прад'явілі абвінавачванне ва ўдзеле ў масавых беспарадках і змясцілі ў СІЗА КДБ.

05.05.2011 г. суддзя Кастрычніцкага райсуда Мінска Ала Булаш вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 4 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 01.09.2011 г.

# Ales Kirkevich

Born on 11 November 1989 in Hrodna in the family of historians. His grandfather Aliaksandr was a well-known regional ethnographer. After school Ales entered the historical faculty of the Hrodna State University to study archaeology. However, later he decided to postpone his studies if favor of political activity, which he considered to be more important. Deputy chairperson of the "Young Front" and leader of its Hrodna branch.

Participant of the 19 December rally. Detained during the 24 December solidarity picket outside the delinquents' isolation center where his girlfriend, Nadzeya Krapivina, a student of Lublin University, was serving 12-day arrest./ Ales was sentenced to 10 day-arrest. Released on 3 January. On 6 January fined for arranging an election meeting with presidential candidate Mikalai Statkevich.

Arrested on 28 January after a search at his apartment and interrogation by Hrodna KGB, then escorted to the KGB Minsk prison and charged under part 2 of Article 293 of the Criminal Code.

On 5 May Ala Bulash, Judge of the Kastrychnitski District Court of Minsk, sentenced him to 4 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 1 September 2011.



# Дзмітрый ДРОЗД

Нарадзіўся 26 сакавіка 1973 г. у вёсцы Дразды, дзе на працягу стагоддзя жылі ягоныя продкі, і якая ў 1976 г. увайшла ў склад г. Мінска. У 1992 г. скончыў Мінскі тэхналагічны тэхнікум па спецыяльнасці «Фотатэхніка», у 2005 г. — гістарычны факультэт БДУ па спецыяльнасці «Музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны».

Працаваў фатографам, даследаваў архівы, захапляецца навукай. У 2010 годзе выйшла ягоная вялікая праца — кніга «Землеўладальнікі Мінскай губерні 1861-1900». Працаваў над другой кнігай, прысвечанай гісторыі фатаграфіі і лёсам фатографаў ХХ стагоддзя.

У часе выбарчай кампаніі 2010 г. быў сябрам ініцыятыўнай групы кандыдата А.Саннікава. За ўдзел у Плошчы-2010 адбыў 10-сутачны адміністрацыйны арышт. 1 лютага быў узяты пад варту спачатку ў якасці падазраванага па крымінальнай справе аб масавых беспарадках, потым прад'явілі абвінавачванне. Да суда ўтрымліваўся ў СІЗА № 1 на вул. Валадарскага.

05.05.2011 г. суддзя Кастрычніцкага райсуда Мінска Ала Булаш вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

# Dzmitry Drozd

Born on 26 March 1973 in the village of Drazdy (which became a part of Minsk in 1976). His ancestors lived in the village for about a century. In 1992 Drozd graduated from Minsk Technological School as a specialist in photo technique. In 2005 graduated from the historical faculty of Belarusian State University as a specialist in museum management and protection of historical and cultural heritage.

Worked as a photographer, was kin on science, did research in historical archive. He didn't deal with politics. In 2010 published a great work, "Landlords of the Minsk province in 1861-1900". He was also working over another book, dedicated to the history of photography and the fates of the 20th century photographers.

Was a member of the electoral team of Andrei Sannikau during the presidential election. Served 10-day arrest for participation in the 19 December action. On 1 February 2011 was detained and put in the pre-trial prison in Valadarski Street as an accused under part 2 of Article 293.

On 5 May 2011 Ala Bulash, Judge of the Kastrychnitski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years of imprisonment in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 11 August 2011.

# Андрэй ПРАТАСЕНЯ



Нарадзіўся 12 снежня 1981 г. у Мінску. Пасля школы скончыў факультэт прыкладной матэматыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў праграмістам. Займаўся дабрачыннасцю — дапамагаў хворым людзям збіраць сродкі на аперацыі. Захапляецца экстрэмальнымі відамі спорту: роўпджампінгам, скалалазаннем, мотаспортам.

Да лістапада 2010 г. у палітычныя партыі і рухі не ўваходзіў, але за месяц да падзеяў 19 снежня ўступіў у шэрагі АГП. Быў валанцёрам у агітацыйнай кампаніі Яраслава Раманчука. Пад разгон паслявыбарчага мітынгу не патрапіў, бо ўжо сышоў з плошчы Незалежнасці дахаты.

Быў арыштаваны 9 лютага пасля правядзення вобшуку ў доме ягоных бацькоў. Прад'яўлена абвінавачванне ва ўдзеле ў масавых беспарадках. Пры гэтым сам факт таго, што А. Пратасеня знаходзіцца пад вартай у СІЗА КДБ і з'яўляецца фігурантам крымінальнай справы, стаў вядомы праваабаронцам толькі 16 сакавіка.

05.05.2011 г. суддзя Кастрычніцкага райсуда Мінска Ала Булаш вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 01.09.2011 г.

# Andrei Pratasenia

Born on 12 December 1981 in Minsk. Graduate of the faculty of applied mathematics of the Belarusian State University. Programmer. Andrei has been involved in charity projects, helping to raise funds for surgical operations. Is fond of extreme sports: rope-jumping, rock-climbing and motor racing.

Joined the United Civic Party in November 2010.
Worked as volunteer in Yaraslau Ramanchuk's campaign team.

Participated in the 19 December protest, but managed to leave without arrest. Detained on 9 February 2011 under circumstances yet unclear. The same day the apartment of his parents was searched. Charged under part 2 of Article 293. Was kept in custody in the KGB pre-trial prison. Human rights defenders learned about it only on 16 March.

On 5 May Ala Bulash, Judge of the Kastrychnitski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 1 September 2011.

# Уладзімір ХАМІЧЭНКА



Нарадзіўся ў 1986 г. Паводле звестак «Салідарнасці», гадаваўся ў дзіцячым доме ў Старых Дарогах і школе-інтэрнаце ў Рудэнску. Калі яму было 4 гады, бацькоў пазбавілі бацькоўскіх правоў. У 2004 г. скончыў сельскагаспадарчы ліцэй у Слуцку. Яго выхаваннем і ўладкаваннем побыту займаліся настаўнікі, якія вельмі шкадавалі хлопца.

Вучоба яму давалася цяжка. Да палітыкі дачынення не мае.

Жыў у Мінску і Віцебскай вобласці, больш за 15 разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. Па некаторых звестках, адзін час працаваў на будоўлі. Двойчы быў асуджаны па крымінальных справах, адзін з іх — на тэрыторыі Беларусі за спробу крадзяжу.

Напярэдадні акцыі, 6 снежня, быў датэрмінова вызвалены з месцаў зняволення. Затрыманы пасля разгону паслявыбарчага мітынгу пратэсту, асуджаны на 15 сутак арышту. Потым пераведзены ў СІЗА па вул. Валадарскага па абвінавачванні ва ўдзеле ў масавых беспарадках.

Дзякуючы распаўсюджанаму ў інтэрнэце фотаздымку, дзе У. Хамічэнка трымае руку каля вуха, быў празваны блогерамі «навушнікам» і залічаны да правакатараў: выглядала так, быццам у рукаве курткі ён хаваў мікрафон.

05.05.2011 г. суддзя Кастрычніцкага райсуда Мінска Ала Булаш вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

# Uladzimir Khamichenka

Born on 1986. According to information of the "Solidarity", was educated in the kindergarten in Staryia Darohi and at the boarding school in the town of Rudzensk, Minsk region. His parents were deprived of parental rights when he was four years old. Graduated from Slutsk Agricultural College in 2004. Teachers took care of him, helping to organize his life. It was hard for Uladzimir to study. He doesn't have any relation to politics. According to some information, worked at a construction site for some time. Repeatedly convicted for administrative offenses and twice convicted for criminal offenses, including an attempt of theft on the territory of Belarus.

On 6 December 2010, he was freed on parole. Detained on 19 December and sentenced to 15 days of arrest. Then was transferred to the pre-trial prison in Valadarski Street and given charges under part 2 of Article 293 of the Criminal Code, "participation in mass riot". Was kept in custody in the pre-trial prison in Valadarski Street in Minsk. On 5 May was sentenced to 3 years of imprisonment.

Thanks to the photo, distributed by bloggers, where U.Khamichenka is holding presses his hand to ear, he was called "Earphone" and considered to be a provocateur: it looked like he was hiding a microphone in the sleeve of his coat.

On 5 May Ala Bulash, Judge of the Kastrychnitski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 11 August 2011.

# Дзмітрый ДАРОНІН

Нарадзіўся 19 красавіка 1982 г. Жыхар Мінска. Скончыў ПТВ, захапляецца камп'ютарамі. Служыў у войску. Другое дзіця ў вялікай шматдзетнай сям'і, усяго іх васьмёра. Чацвёра дзяцей маюць яшчэ непаўнагадовы ўзрост, вучацца ў школе. Бацька — інвалід першай групы па зроку, працуе ў таварыстве сляпых. Таму Дзмітрый быў адным з асноўных кармільцаў у сям'і і дапамагаў маці гадаваць малодшых дзетак. Палітыкай не займаўся.

Працаваў слесарам на МАЗе. 19-га снежня апынуўся на Плошчы, але пазбег арышту. Быў затрыманы 14 сакавіка на працы і змешчаны ў ізалятар на Акрэсціна, потым у СІЗА на вул. Валадарскага. 22 сакавіка прад'яўлена абвінавачванне ва ўдзеле ў масавых беспарадках.

12.05.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Шылько вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады 6 месяцаў у калоніі агульнага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 01.09.2011 г.

## Dzmitry Daronin

Born on 19 April 1982. Resides in Minsk, employee of the Minsk Automobile Plant. Graduate of a vocational school. Second child in a family with eight children. Four of them are under age and go to school. The father is disabled and works in the association of the blind, that's why Dzmitry was one of the main bread-winners and helped the mother to raise the younger children.

Not affiliated with any political movement.

Worked as a plumber at Minsk Automobile Plant. Was on the Square on 19 December, but escaped arrest. Was detained on 14 March and placed in the delinquents' isolation center in Akrestsin Street, then transferred to the pre-trial prison in Valadarski Street in Minsk. Officially charged under Article 293 of the Criminal Code on 22 March.

On 12 May Alena Shylko, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to 3.5 years in a minimum-security colony.

Pardoned by presidential decree on 1 September 2011.

# Сяргей КАЗАКОЎ



Самы малады фігурант крымінальнай справы аб масавых беспарадках. Нарадзіўся 12 лютага 1992 г. у г. Ленінагорску ў Расіі. З гадавалага ўзросту пасля разводу бацькоў жыў у Мінску, на радзіме маці. Скончыў мінскую сярэднюю школу № 85. Яшчэ ў малодшых класах школы спрабаваў напісаць сваю кнігу. Захапіўся музыкай, быў удзельнікам КВЗ і музычных конкурсаў. Граць на гітары і бас-гітары навучыўся самастойна, быў гітарыстам у беларускамоўных рок-гуртах (у адным з іх граў да свайго арышту).

Працаваў у розных месцах, каб дапамагаць маці, якая выгадавала яго адна. Меў сур'ёзны намер паступаць вучыцца ў музычную навучальную ўстанову.

Актывіст грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». Сябры называюць яго добрасумленным, сур'ёзным і годным чалавекам з высокімі маральнымі каштоўнасцямі. 27 студзеня быў затрыманы ў якасці падазраванага, потым прад'яўлена абвінавачванне ва ўдзеле ў масавых беспарадках. Да суда ўтрымліваўся ў СІЗА №1 на вул. Валадарскага.

12.05.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Шылько вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі агульнага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

# Siarhei Kazakou

The youngest figurant of the “mass riot” criminal case. Born on 12 February 1992 in the town of Leninogorsk in Russia. Following the divorce of his parents, lived with his mother in Minsk. Finished secondary school #85. Being a pupil of minor forms, he tried to write a book. Was kin on music, took part in humorist and musical contests. Learned to play the bass guitar and the electric guitar on his own, played the guitar in rock bands (he continued playing in one of them till his arrest). It was his favorite occupation, in which he put his soul. He worked in different places to help his mother, who was a single parent. He had a serious intention to enter a musical educational establishment.

Siarhei is an activist of the “European Belarus”. Friends call him an honest, serious and dignified man with high moral standards. Was detained on 27 January as a suspect in the “mass riot” case. Was given charges under Article 293 of the Criminal Code and placed in the pre-trial prison in Valadarski Street in Minsk.

On 12 May 2011 Alena Shylko, Judge of the Maskouski District Court, sentenced him to 3 years in a minimum-security colony.

Pardoned by presidential decree on 11 August 2011.

# Уладзімір ЛОБАН

Нарадзіўся 16 студзеня 1978 г. у Хойніках на Гомельшчыне. Пасля Чарнобыльскай катастрофы сям'я пераехала ў Віцебскую вобласць, горад Верхнядзвінск, дзе ён скончыў сярэднюю школу і куды вярнуўся працаваць пасля заканчэння Мінскага Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. З красавіка 2010 г. жыў і працаваў у сталіцы. На працы яго характарызуюць станоўча. Халасты. Палітыкай не займаўся, ні ў якія партыі і рухі не ўваходзіў.

Па словах сваякоў, напэўна, пайшоў на Плошчу з-за адмовы яму на выбарчым участку ў праве прагаласаваць 19 снежня ў Мінску, — Уладзіміра адпраўлялі ў Верхнядзвінск. Гэта апошні горад на тэрыторыі Беларусі перад мяжой з Латвіяй.

Быў затрыманы пры разгоне акцыі 19 снежня, асуджаны на 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Затым змешчаны на Валадарку ў якасці падазраванага па крымінальнай справе аб масавых беспарадках, потым прад'яўлена абвінавачванне.

12.05.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Шылько вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі агульнага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09.2011 г.

# Uladzimir Loban

Born on 16 January 1978 in the town of Khoiniki, Homel region. After the Chernobyl disaster, his family moved to the city of Verkhniadzvinsk in the Vitsebsk region, where he finished a secondary school and where he returned after graduating from Belarusian State Technology University. He has lived and worked in Minsk since April 2010. Is characterized positively at work. Single. Not affiliated with any political movement.

According to his relatives, went to the Square after he hadn't been let to vote in Minsk on 19 December — he was told to go to Verkhiadzvinsk, the last city on the territory of Belarus before the Latvian border.

Detained during the dispersal of the 19 December rally and sentenced to 10 days of arrest. Later detained as a suspect in the mass riot criminal case and charged under Article 293. Was kept in the pre-trial prison in Valadarski Street, being deprived of an opportunity to meet with his counsel for over a month.

On 12 May 2011 Alena Shylko, Judge of the Maskouski District Courto of Minsk, sentenced to 3 years in a minimum-security colony.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.



# Алег ФЕДАРКЕВІЧ

Пра гэтага чалавека вядома зусім няшмат. Працаваў прарабам, даволі вясёлы і аптымістычны чалавек. На Плошчу прыйшоў як годны грамадзянін сваёй краіны. Ніхто са сваякоў не чакаў, што ход падзеяў павернецца такім чынам.

12.05.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Шылько вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады 6 месяцаў у калоніі агульнага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09.2011 г.

# Aleh Fedarkevich

Little is known about this man.
He worked as a foreman, is quite merry and optimistic.
He came to the Square as a worthy citizen of his country.

None of his relatives expected that the events would develop in such a way.

On 12 May 2011 Alena Shylko, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to 3.5 years in a minimum-security colony.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.

# Яўген САКРЭТ

Нарадзіўся 3 кастрычніка 1966 г. у Мінску. Пасля заканчэння сярэдняй школы № 110 служыў у войску. Выпускнік лесагаспадарчага факультэта Тэхналагічнага інстытута імя Кірава ў Мінску (зараз Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт). Захапіўся ландшафтным дызайнам, стаў займацца ім прафесійна, скончыўшы адпаведныя курсы.

Яшчэ адно яго захапленне — літаратура. Яўген піша вершы і прозу, друкаваўся ў прэсе. Прыхільнік дэмакратычнага накірунку развіцця грамадства. Падчас прэзідэнцкіх выбараў быў сябрам ініцыятыўнай групы кандыдата А. Саннікава.

Затрыманы 19 снежня падчас разгону паслявыбарчага мітынгу, правёў 10 сутак адміністрацыйнага арышту на Акрэсціна. Паўторна быў затрыманы ў студзені 2011 г. і змешчаны ў СІЗА па вул. Валадарскага ў якасці абвінавачанага ва ўдзеле ў масавых беспарадках.

12.05.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Шылько вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі агульнага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

# Yauhen Sakret

Born on 3 October 1966 in Minsk. Graduate of the Belarusian State Technology University. Got interested in landscape design and made it his occupation after finishing appropriate courses.

His other passion is literature. Yauhen writes verses and prose, was published in the press. He is an adherent of the democratic way of the country's development. In the 2010 presidential election he was an activist of Andrei Sannikau's campaign team.

Detained on 19 December 2010 and sentenced to 10 days of arrest. Detained again on 17 January 2011. Three days later his residence was searched. Was kept in custody in Minsk pre-trial prison in Valadarski Street. Was charged under part 2 of Article 293 of the Criminal Code ("participation in mass riot").

On 12 May Alena Shylko, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years in a minimum-security colony.

Pardoned by presidential decree on 11 August 2011.

# Віталь МАЦУКЕВІЧ

23 гады. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, рыхтаваўся да абароны дыплома. І выкладчыкі, і аднагрупнікі характарызавалі Віталя толькі з добрага боку. Улетку Віталь збіраўся ажаніцца.

Затрыманы 21 сакавіка ў якасці падазраванага па крымінальнай справе аб масавых беспарадках. 4 красавіка следчае ўпраўленне папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама паведаміла пра прад'яўленне абвінавачвання. Утрымліваўся ў СІЗА КДБ.

12.05.2011 г. суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Шылько вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі строгага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

## Vital Matsukevich

23 years old. Studied at the Belarusian State Enonomic University, getting ready for receiving his diploma. Lecturers and classmates characterized him only positively. Vital was going to get married in summer.

Detained on 21 March as a suspect in the "mass riot" criminal case. On 4 April the preliminary investigation board of the Main Police Bureau of the Minsk City Executive Committee stated that charges were given to him. Was kept in custody in the pre-trial prison of the KGB.

On 12 May 2011 Alena Shylko, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 11 August 2011.

# Андрэй САННІКАЎ

Нарадзіўся 8 сакавіка 1954 г. у Мінску. Унук аднаго з заснавальнікаў Купалаўскага тэатра Канстанціна Саннікава. Скончыў  42-ю мінскую школу, Мінскі дзяржаўны інстытут замежных моваў, дыпламатычную акадэмію Міністэрства замежных справаў СССР у Маскве. Свабодна валодае чатырма мовамі.

Працаваў у Таварыстве дружбы з замежнымі краінамі, у сакратарыяце ААН у Нью-Йорку, быў дарадцам прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Швейцарыі. У 1995-1996 гг. — намеснік міністра замежных спраў Беларусі. Пакінуў гэтую пасаду добраахвотна ў лістападзе 1996 года ў знак пратэсту супраць правядзення антыканстытуцыйнага рэферэндуму.

У лістападзе 1997 года стаў стваральнікам і міжнародным каардынатарам грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя’97». У 1998 г. разам з Генадзем Карпенкам стварыў Каардынацыйную раду дэмакратычных сілаў Беларусі. У 2008 годзе ініцыяваў грамадзянскую кампанію «Еўрапейская Беларусь», якая ставіць за мэту ўступленне Беларусі ў Еўразвяз. Лаўрэат міжнароднай прэміі  імя Бруна Крайскага ў галіне абароны правоў чалавека (2005 г.).

Кандыдат у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь на выбарах-2010. Падчас разгону мірнай акцыі на плошчы Незалежнасці быў збіты спецназам і разам з жонкай Ірынай Халіп жорстка затрыманы па шляху ў шпіталь.  Абвінавачаны ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках 19 снежня (чч.1, 2 арт. 293 КК РБ).

14.05.2011 г. суддзя Партызанскага райсуда Наталля Чацвертакова  вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 5 гадоў у калоніі ўзмоцненага рэжыму.

# Andrei Sannikau

Born on 8 March 1954 in Minsk. Grandson of one of the founders of Yanka Kupala Theater, Kanstantsin Sannikau. Studied at School #42, then in Minsk State Institute of Foreign Languages. In 1989, Sannikau graduated from the Diplomatic Academy of the Foreign Affairs Ministry in Moscow. Fluent in four foreign languages.

Worked in the Foreign Countries Friendship Society, then in the UN secretariat in New York. In 1993-1995 he was advisor at Belarus’ mission to Switzerland. In 1995-1996 he served as deputy Minister of foreign affairs of Belarus. In November 1996, on the eve of the controversial referendum that severely limited democratic standards and the separation of powers in Belarus, Sannikau resigned from his post as a sign of protest.

In November 1997 he became a founder of the civil initiative Charter’97 and its international coordinator. In 1998 he created the Coordinating council of democratic forces of Belarus together with Henadz Karpenka. Andrei has organized numerous protest manifestations in Minsk, being repeatedly arrested, harassed and beaten. In 2008 he initiated the civil campaign “European Belarus” that declares Belarus’ joining the European Union as its target. He was awarded Bruno Kreisky International Award for human rights protection activities (2005).

Presidential candidate in 2010. According to many ratings and independent surveys, he was one of the leaders of the election campaign. Andrei was badly beaten during the violent dispersal of the 19 December rally and together with his wife Iryna Khalip was subjected to a violent arrest on their way to hospital. Was charged with organizing and taking part in the mass riot, “parts 1 and 2 of Article 293 of the Criminal Code). Was kept in custody in the KGB pre-trial prison.

On 14 May Natallia Chatsvertakova, Judge of the Partyzanski District Court of Minsk, sentenced Andrei Sannikau to 5 years of imprisonment in a high-security colony.

# Ілля ВАСІЛЕВІЧ

Нарадзіўся 6 жніўня 1991 г. у горадзе Баранавічы. Пасля атрымання базавай адукацыі ў гімназіі № 4 паступіў у Мінскі палітэхнічны каледж. Вучыўся выдатна, быў старастам групы. Добры, адкрыты, спагадлівы, чулы, упарты ў добрым сэнсе гэтага слова.

Пасля адбыцця 10-ці сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у паслявыбарчым мітынгу пратэсту атрымаў паведамленне аб выключэнні з навучальнай установы. 5 студзеня быў запрошаны ў адміністрацыю каледжа для падпісання адпаведных папер, але там Іллю чакалі супрацоўнікі КДБ. У якасці падазраванага па крымінальнай справе аб масавых беспарадках быў змешчаны спачатку ў ІЧУ на Акрэсціна, а пасля прад'яўлення абвінавачвання — у СІЗА на вул. Валадарскага. Адзін з самых маладых фігурантаў крымінальнай справы.

14.05.2011 г. суддзя Партызанскага райсуда Наталля Чацвертакова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09. 2011 г.

---

## Illia Vasilevich

Born on 6 August 1991 in Baranavichy. Former student of Minsk Polytechnic College. Demonstrated an excellent academic progress, was the senior of his group. A good, kind-hearted and persistent person.

Served 10 days of arrest for participation in the 19 December protest. Was expelled from the college. He was invited there on 5 January, allegedly to sign the appropriate papers. However, KGB officers were waiting for him there. He was detained as a suspect in the case and taken to Akrestsin Street detention center, later transferred to Minsk pre-trial prison #1 in Valadarski Street. Is one of the youngest figurants of the criminal case.

On 14 May Natallia Chatsvertakova, Judge of the Partyzanski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.

# Фёдар МІРЗАЯНАЎ

Нарадзіўся 9 снежня 1990 г. у Баранавічах Брэсцкай вобласці. Падчас вучобы ў гімназіі з'яўляўся актыўным удзельнікам алімпіяднага руху ў горадзе, вобласці і рэспубліцы, браў удзел у алімпіядах па гісторыі, інфарматыцы і геаграфіі. У 2008 г. паступіў на факультэт менеджмента Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «Эканамічная кібернэтыка». Студэнтам захапіўся мадэлямі эканамічнага развіцця краіны, паспрабаваў сілы ў навуцы, удзельнічаў у міжнароднай студэнцкай навукова-практычнай канферэнцыі. Захапляецца турызмам, веласпортам, літаратурай. Адзін з яго ўлюбёных пісьменнікаў — Леў Гумілёў.

Затрыманы ў выніку разгону Плошчы-2010, пакараны адміністрацыйным арыштам на 15 сутак, які адбываў у следчым ізалятары г. Жодзіна. 25 студзеня выкліканы на допыт у следчае ўпраўленне папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама, дзе было прад'яўлена абвінавачванне па крымінальнай справе аб масавых беспарадках. Да суда ўтрымліваўся ў СІЗА па вул. Валадарскага.

14.05.2011 г. суддзя Партызанскага райсуда Наталля Чацвертакова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09. 2011 г.

---

## Fiodar Mirzayanau

Born on 9 December 1990 in the town of Baranavichy in the Brest region. Finished a gymnasium. During his study there he was an active participant of educational contests in history, computer science and geography that were held in the town, the region and the country. In 2008 he entered the faculty of management at the Belarusian State Economic University. During his study there he paid interest to models of economic development of the country. He also took part in a scientific-practical student conference. Fiodar is kin on tourism, bicycle sport and literature. One of his favorite writers is Lev Gumilyov.

Following the protest rally of 19 December he served 15-day arrest in the pre-trial prison in Zhodzina. On 25 January 2011 he was summonsed for an interrogation and given charges under parts 1 and 2 of Article 293 of the Criminal Code, "mass riot". Was kept in custody in the pre-trial prison in Valadarski Street in Minsk.

On 14 May 2011 Natallia Chatsvertakova, Judge of the Partyzanski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.

# Алег ГНЕДЧЫК



Нарадзіўся 22 лістапада 1986 г. у Мінску. Мае сярэднюю адукацыю, халасты. У 2003-2005 гг. за сваю палітычную актыўнасць як сябра «Маладога Фронту» затрымліваўся праваахоўнымі органамі і прыцягваўся да адміністрацыйных арыштаў.

У ліпені 2003 г. яшчэ непаўнагадовым быў затрыманы за распаўсюд інфармацыйных матэрыялаў «МФ» у Мінску, збіты і з 2.00 да 19.00 пратрыманы ў аддзяленні міліцыі Савецкага раёна. Тады бацькі хлопца нават звярталіся ў пракуратуру з патрабаваннем пакараць вінаватых міліцыянтаў. Падчас прэзідэнцкіх выбараў - 2006 быў асуджаны на 12 сутак арышту за ўдзел у намётавым мястэчку на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску.

Затрыманы 6 студзеня 2011 г. У якасці падазраванага па справе аб масавых беспарадках, праз тры дні быў адпушчаны. 25 сакавіка прад'яўлена абвінавачванне ва ўдзеле ў масавых беспарадках, змешчаны ў СІЗА № 1 па вул. Валадарскага.

14.05.2011 г. суддзя Партызанскага райсуда Наталля Чацвертакова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады 6 месяцаў у калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 01.09. 2011 г.

# Aleh Hnedchyk

Born on 22 November 1986 in Minsk. Has a secondary education. Single. In 2003-2005, he was repeatedly arrested and convicted for his activities as member of the "Young Front" youth movement.

In July 2003, being under age, he was detained for handing out informational materials of the "Young Front" in Minsk. He was beaten and unlawfully kept at the Savetski District Police Department in Minsk for 15 hours. His parents even applied to the procuracy with the demand to punish the policemen. In 2006, Aleh was sentenced to 12 days of arrest for involvement in the post-election protests in Kastrychnitskaya Square in Minsk.

Detained on 6 January 2011 as a suspect in the mass riot case. Released on 9 January. On 25 March, officially charged with participation in the mass riot. Was kept in custody in the pre-trial prison in Valadarski Street.

On 14 May Natallia Chatsverakova, Judge of the Partyzanski District Court of Minsk, sentenced him to 3.5 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 1 September 2011.

# Уладзімір ЯРОМЕНАК



Нарадзіўся 4 верасня 1990 г. у горадзе Міёры Віцебскай вобласці. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. Сябра «Маладога Фронту». Сталы ўдзельнік акцыяў салідарнасці з палітвязнямі, што праводзіліся 16-га чысла штомесяц у фармаце «ланцуга неабыякавых людзей».

Затрыманы супрацоўнікамі спецслужбаў 20 снежня пасля пікету салідарнасці з палітзняволенымі насупраць Дома Урада, за што быў асуджаны на 15 сутак адміністрацыйнага арышту, які ён адбыў у Жодзінскім СІЗА. Па выхадзе адтуль быў выкліканы ў якасці сведкі на допыт у КДБ, які скончыўся 7-сутачным арыштам на Акрэсціна.

28 студзеня арыштаваны ў трэці раз, цяпер ужо ў якасці падазраванага па крымінальнай справе. Змешчаны пад варту ў СІЗА КДБ. Прад'яўлена абвінавачванне ва ўдзеле ў масавых беспарадках.

14.05.2011 г. суддзя Партызанскага райсуда Наталля Чацвертакова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

# Uladzimir Yaromenak

Born on 4 September 1990 in the town of Miyory in the Vitsebsk region. Student of Belarusian State University of Informatics and Radio-Electronics. Member of the “Young Front”. Regular participant of actions of solidarity with political prisoners which are held on the 16th every month.

Participated in the 19 December events. Detained by security services the following day, during a picket of solidarity with political prisoners, held opposite the House of Government. Sentenced to 15 days of arrest. After release, he was summoned as a witness and sentenced to 7 more days of arrest.

On 28 January arrested again as a suspect in the mass riot case and put in the KGB pre-trial prison. Charged under parts 1 and 2 of Article 293, “mass riot”.

On 14 May 2011 Natallia Chatsverakova, Judge of the Partyzanski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 11 August 2011.

# Павел Северынец



Грамадскі актывіст, палітык, сябра Рады ГА »Беларуская асацыяцыя журналістаў». Нарадзіўся 30 снежня 1976 г. у Оршы. Скончыў з залатым медалём віцебскую школу № 25 з мастацкім ухілам. Пачатак цікавасці да палітыкі — яго абранне ў 10 класе школы ў Дзіцячы рэспубліканскі парламент. Захапляўся геаграфіяй і геалогіяй. Скончыў геафак БДУ. У 1994-1999 працаваў журналістам у шэрагу недзяржаўных выданняў. З 1998 г. друкуецца ў незалежнай прэсе як публіцыст. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча і прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі».

У 1999-2003 гг. быў намеснікам старшыні Партыі БНФ. З 1999 да 2004 — старшынёй «Маладога Фронту». Цяпер з'яўляецца сустаршынём аргкамітэта па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя».

Падчас прэзідэнцкіх выбараў-2010 быў актывістам штаба кандыдата ў прэзідэнты В.Рымашэўскага. Арыштаваны 20 снежня ва ўласнай кватэры і змешчаны ў СІЗА КДБ, прад'яўлена абвінавачванне ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках (чч. 1 і 2 арт. 293 КК).

4 красавіка абвінавачванне перакваліфікавана на ч.1 арт. 342 КК — «Арганізацыя і падрыхтоўка групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх».

16.05.2011 г. суддзя Завадскога райсуда Мінска Жана Брысіна вынесла пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін 3 гады з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу (залічыць час знаходжання пад вартай у тэрмін пакарання: адзін дзень знаходжання пад вартай лічыць як два дні адбывання пакарання ў выглядзе абмежавання волі).

# Pavel Seviarynets

Civil activist, a member of the Belarusian Association of Journalists' Council. Born on 30 December 1976 in Orsha. Finished secondary school #25 in Vitsebsk with excellent marks in all subjects. He started showing interest to politics in the 10th grade, when he was elected to the children' national parliament. He was kin on geography and geology. Graduated from the geographic faculty of the Belarusian State University. In 1994—1999 he worked in a number of independent media. Has published publicistic articles in the pres in 1998. Won the literary prize of Ales Adamovich and the prize of Vasil Bykau "For freedom of thought".

In 1999—2003 Pavel was deputy chair of the Belarusian Popular Front Party. In 1999—2004 he was chair of the "Young Front", now he is co-chair of the steering committee of the Belarusian Christian Democracy Party. During the 2010 presidential election, Pavel was an activist of Vital Rymasheuski's campaign team. Arrested on 20 December at home and put into the KGB pre-trial prison. In late December he was charged under parts 1 and 2 of Article 293.

On 4 April the charges were changed to Article 342 of the Criminal Code, "Organization and preparation of group actions that grossly violate the public order or active participation in them".

On 16 May Zhana Brysina, Judge of the Zavadski District Court of Minsk sentenced Pavel to 3 years of personal restraint with direction to an open penitentiary institution. The term of his keeping in custody was taken into account — each day of imprisonment was counted as two days of personal restraint.



# Ірына ХАЛІП

Нарадзілася 12 лістапада 1967 г. у Мінску. Уласны карэспандэнт расійскай «Новой газеты» па Беларусі. Працавала намесніцай галоўнага рэдактара «Белорусской деловой газеты» і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Имя», якія спынілі выхад.

Неаднаразова падвяргалася крымінальнаму пераследу за сваю прафесійную дзейнасць, атрымлівала папярэджанні ад пракуратуры. У 1997 г. разам з бацькам, драматургам і кінадакументалістам Уладзімірам Халіпам была жорстка збітая ў часе вулічнага мітынгу 2 красавіка. У канцы 2009 года ёй пагражалі забойствам невядомыя. Жонка кандыдата А. Саннікава. Унучка вядомага беларускага кампазітара Юрыя Бяльзацкага.

Лаўрэатка прэміі Дзмітрыя Завадскага (2003), прэміі Хенры Нанэна (2005), прэміі «Герой Еўропы» ў намінацыі «Мужнае сэрца» (2005), прэміі «За мужнасць у журналістыцы» (2009), прэміі «Залатое пяро Расіі»(люты  2011 г.).

Затрыманая ўначы разам з мужам пасля разгону акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці. Утрымлівалася ў СІЗА КДБ па абвінавачванні ў арганізацыі і ўдзеле ў масавых беспарадках ( чч. 1 і 2 арт. 293 КК). Падчас знаходжання ў «амерыканцы» бацькоў улады спрабавалі забраць трохгадовага сына ў дзіцячы прытулак.

29 студзеня мера стрымання зменена на падпіску аб нявыездзе з хатнім арыштам. 4 красавіка абвінавачанне перакваліфікавана на ч.1 арт. 342 КК — «Арганізацыя і падрыхтоўка групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх».

16.05.2011 г. суддзя Завадскога райсуда Мінска Жана Брысіна вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 2 гады з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады.

# Iryna Khalip

Born on 12 November 1976 in Minsk. Personal correspondent of the Russian “Novaya gazeta” in Belarus. Former deputy editor-in-chief of “Belaruskaya Delovaya Gazeta” and editor-in-chief of “Imya” weekly, later closed down by the authorities.

Repeatedly prosecuted for her journalist activities, received warnings from procuracy. In April 1997 Iryna, together with her father screenwriter and documentarian Uladzimir Khalip, was severely beaten during an opposition rally. At the end of 2009 unidentified people threatened her with murder. Wife of presidential candidate A.Sannikau. Granddaughter of the well-known Belarusian composer Yury Bialzatski.

Winner of a number of awards, including the Dzmitry Zavadski Award (2003), the Henri Nannen Press Award (2005), the Hero of Europe Award (2005) “For Courage in Journalism” Award (2009) and “Russia’s Golden Pen”.

On 19 December 2010, Iryna was violently detained together with her husband during the dispersal of the protest action in Nezalezhnasts Square and put into the KGB pre-trial prison. In late December Iryna was charged with the organization of and taking part in mass riots (parts 1 and 2 of Article 293 of the Criminal Code). During her detention, the authorities tried to take her 3-year-old son Danik Sannikau to an orphanage.

On 29 January the restraint to Iryna Khalip was changed to home arrest and a written non-leave undertaking. On 4 April the charges to Iryna were changed to Article 342 of the Criminal Code, “organization of actions that grossly violate the public order or active participation in them”.

On 16 May 2011 Zhana Brysina, Judge of the Zavadski District Court of Minsk, sentenced her to 2 years of imprisonment with 2-year determent.

# Сяргей МАРЦАЛЕЎ



Нарадзіўся 29 красавіка 1977 г. у Мінску ў сям'і навукоўцаў. Унук Станіслава Марцалева, кіраўніка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук. Таксама ўнук акадэміка-філосафа Леаніда Яўменава.

Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся на факультэце міжнародных адносін БДУ, але быў адлічаны за палітычную дзейнасць пры рэктары А. Казуліне. Тым не менш, пасля пераходу палітыка ў апазіцыю працаваў з ім разам. У сярэдзіне 1990-х быў абраны старшынёй «Маладой Грамады» (моладзевай арганізацыі пры БСДП М. Статкевіча), дзеля гэтай дзейнасці адмовіўся ад вучобы ў Маскве. Потым з'ехаў вучыцца ў Польшчу і скончыў Познанскі ўніверсітэт па спецыяльнасці «Паліталогія».

На прэзідэнцкіх выбарах- 2010 кіраваў перадвыбарчым штабам кандыдата М. Статкевіча. 19 снежня на плошчы Незалежнасці амаль не прысутнічаў. Уначы 23 снежня зняты з цягніка, на якім ехаў у Варшаву на здымкі перадачы тэлеканала «Белсат». Быў змешчаны ў СІЗА КДБ, абвінавачаны ў арганізацыі масавых беспарадкаў. 4 красавіка абвінавачанне перакваліфікавана на іншы крымінальны артыкул — «Арганізацыя і падрыхтоўка групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх» (ч. 1 арт. 342 КК).

16.05.2011 г. суддзя Завадскога райсуда Мінска Жана Брысіна вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 2 гады з выпрабавачым тэрмінам у 2 гады.

# Siarhei Martsaleu

Born on 29 May 1977 in Minsk in the family of scientists. Grandson of Stanislau Martsaleu, head of the Institute of Art Theory and History, Ethnography and Folklore of the Academy of Sciences, and Leanid Yaumenau, philosophy academician.

Former student of the Foreign Relations Faculty of the Belarusian State University, expelled with Aliaksandr Kazulin as rector. However, later he became Kazulin's associate. In mid-1990s he was elected chair of the "Young Hramada" (the youth wing of Mikalai Statkevich's Belarusian Social Democratic Party) and refused from studying in Moscow for pursuing this career. Later he left for Poland to receive a degree in political studies at Poznan University.

In the 2010 presidential election, he was campaign chief of Mikalai Statkevich. He participated in the 19 December protest for a short time. Siarhei was detained on a train to Warsaw (where he was going to appear in a program of the "BelSat" TV channel) and put into the KGB pre-trial prison. Initially charged under Article 293. On 4 March the charges were changed to Article 342 of the Criminal Code, "organization of actions that grossly violate the public order or active participation in them".

On 16 May 2011 Zhana Brysina, Judge of the Zavadski District Court of Minsk, sentenced him to two years of conditional imprisonment with a two-year probation period.

# Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

Нарадзіўся 11 ліпеня 1946 г. у Смаргоні, дзе скончыў сярэднюю школу №1. У 1966 г. скончыў Мінскі тэхнікум сувязі, у 1973-м — філалагічны факультэт Мінскага педінстытута. Навучаўся на аддзяленні паэзіі Літаратурнага інстытута ў Маскве. Працаваў ва Уладзівастоку, Тайшэце, Нарыльску, потым вярнуўся ў Мінск. З 1972 года — літкансультант у рэдакцыі газеты «Знамя юности», з 1975-га — рэдактар бюлетэня «Тэатральны Мінск».

У 1978 г. уступіў у Саюз пісьменнікаў СССР, працаваў на Беларускім тэлебачанні, а з 1987 па 1998 гады быў галоўным рэдактарам аднаго з найпапулярнейшых часопісаў таго часу — «Крыніца». Кіраваў таксама рэдакцыяй штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». У 1998-2001 гг. — старшыня праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў, на пазачарговым з'ездзе якога ў 2001 г. прапанаваў прыняць рэзалюцыю, згодна з якой Прэзідэнт краіны А.Лукашэнка незаконна ўтрымлівае ўладу і не мае права больш балатавацца на выбарах.

У 1999 г. з'ехаў у Польшчу па палітычных матывах, у 2003 г. вярнуўся на радзіму. З 2005 па 2009 гады — старшыня праўлення Беларускага ПЭН-цэнтра.

Шырока вядомы як аўтар мноства паэтычных зборнікаў, паэт-песеннік. У перыяд з 1979 па 2009 гг. быў уганараваны шматлікімі прэміямі за сваю мастацкую літаратурную творчасць.

У 2010 г. ініцыяваў стварэнне грамадскай кампаніі «Гавары праўду!», кандыдат на пасаду Прэзідэнта. 17.02.2011 г. на агульным сходзе ПЭН-цэнтра вылучаны на Нобелеўскую прэмію.

19.12.2010 г. быў збіты да непрытомнага стану ў цэнтры сталіцы па шляху на мірную акцыю пратэста. З чэрапна-мазгавой траўмай патрапіў у шпіталь хуткай дапамогі. Праз некалькі гадзін быў адтуль выкрадзены супрацоўнікамі спецслужб і доўгі час месца знаходжання і стан здароўя заставаліся таямніцай.

Утрымліваўся ў СІЗА КДБ па абвінавачванні ў масавых беспарадках. 29 студзеня пераведзены пад хатні арышт. Падчас знаходжання ў турме перанёс чатыры гіпертанічныя крызы. 30 сакавіка абвінавачванне перафармулявана на ч.1 арт.342 КК РБ — «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх» .

20.05.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Жанна Жукоўская вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 2 гады з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады.

# Uladzimir Niakliayeu

Born on 11 July 1946 in the town of Smarhon, where he finished school №1. In 1961—1966 he was a student at Higher State Communications College, in 1973 he graduated from the department of philology at Minsk Pedagogical Institute. In 1971 he entered the department of poetry at Moscow Literature Institute. Uladzimir worked in Vladivostok, Taishet, and Norilsk. Upon his return to Minsk, he worked as a literature counsel in the newspaper "Znamya Yunosti" (1972—1975), editor of bulletin "Theatrical Minsk" (1975—1987).

In 1978 he became member of the USSR Union of Writers, collaborated with the Belarusian state TV, in 1987—1998 he was chief editor of one of the most popular periodicals of the time — magazine "Krynitsa". He was also chief editor of weekly edition "Litaratura i Mastatstva". In 1998—2001 Uladzimir was chair of the Union of Belarusian Writers. At a Union's meeting in 2001, he suggested adopting a resolution declaring President Lukashenka an usurper, not eligible for running in the future elections.

In 199 he left Belarus due to political reasons and settled in Poland. In 2003 he returned to Belarus. In 2005—2009 he was chair of the Belarusian Council of PEN-Center.

He is well-known for numerous collections of poetry and song lyrics. Between 1979 and 2009 he received many awards for his poetry. On 17 February was nominated for Nobel Prize at the general assembly of PEN-center.

In 2010 Niakliayeu initiated the creation of the civil campaign "Tell the Truth!", later denied registration by the authorities, and became a presidential candidate. One of the leaders of the 2010 presidential campaign.

On 19 December he was badly beaten and lost consciousness on his way to a peaceful protest rally. He was taken to hospital with a brain injury. A few hours later he was kidnapped by the secret service agents, while on a drip. His whereabouts and state of health remained unknown for a long time.

The violent detention was abrupt: being unable to walk, he was ragged to a car in a blanket. He was later found in the KGB pre-trial prison, where he was kept on charges in mass rioting. There he suffered four hypertonic crises and had no opportunities to meet with a lawyer. On 29 January he released from prison and put under house arrest.

On 30 March the charges were changed to Article 342 of the Criminal Code, "organization and preparation of actions that grossly violate the public order, or active participation in them".

On 20 May 2011 Zhana Zhukouskaya, Judge of the Frunzenski District Court of Minsk, sentenced him to 2 years of imprisonment with two-year determent.

# Сяргей ВАЗНЯК

Нарадзіўся 14 красавіка 1962 г. ва Украіне. Мае вышэйшую адукацыю. Галоўны рэдактар газеты «Товарищ», сябра Праўлення ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». Быў адным з арганізатараў стварэння Партыі камуністаў Беларусі, у 2009 годзе перайменаванай у Беларускую партыю аб'яднаных левых «Справядлівы свет».

Актывіст грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. працаваў у штабе кандыдата У. Някляева. Быў арыштаваны 20 снежня ва ўласнай кватэры і змешчаны ў СІЗА КДБ, абвінавачаны па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК «Масавыя беспарадкі».

29 снежня мера стрымання зменена на падпіску аб нявыездзе. 30 сакавіка 2011 г. абвінавачванне перакваліфікавана на ч.1 арт. 342 КК РБ — «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх» .

20.05.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Жанна Жукоўская вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 2 гады з выпрабавальным тэрмінам 2 гады.

## Siarhei Vazniak

Born on 14 April 1962 in the Ukraine. Has a higher education. Editor-in-chief of the “Tovarishch” newspaper, civil activist, member of the Belarusian Association of Journalists. One of the founders of the Party of Communists of Belarus, renamed to the Belarusian United Leftist Party “Fair World” in 2009.

During the 2010 presidential election he was activist of the civil campaign “Tell the Truth!” and Uladzimir Niakliayeu’s campaign team. Arrested on 20 December at his apartment and put in custody in the KGB pre-trial prison. In late December he was officially charged under parts 1 and 2 Article 293 of the Criminal Code, “organization of and taking part in a mass riot”.

On 29 December he was released on recognizance. On 30 March 2011 the charges to him were changed to Article 342, part 1 of the Criminal Code, “organization of actions that grossly violate the public order or active participation in them”.

On 20 May Zhana Zhukouskaya, Judge of the Frunzenski District Court of Minsk, sentenced Siarhei Vazniak to 2 years of conditional imprisonment with a two-year probation period.

# Віталь РЫМАШЭЎСКІ

Нарадзіўся 3 сакавіка 1975 г. у Бабруйску Магілёўскай вобласці. Інжынер-будаўнік, у 1997 г. скончыў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт. У 1999 г. вучыўся ў Нямеччыне на курсах Вышэйшай школы дзяржаўнага кіравання ў інстытуце «Саюз грамадскага кіравання», вывучаў эканамічнае і палітычнае становішча ФРГ. З 1996 г. сябра Каардынацыйнай Рады «Беларускага аб'яднання маладых палітыкаў». У 2002-2004 гг. сябра прэзідыума Беларускага нацыянальнага савета маладзёвых і дзіцячых грамадскіх арганізацый «Рада». Адзін з кіраўнікоў кампаніі «У абарону свабоды сумлення і веравызнання ў Беларусі». Кіраўнік Мінскай арганізацыі Партыі БХД, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні гэтай партыі.

Кандыдат у прэзідэнты на выбарах-2010. 19 снежня на плошчы Незалежнасці быў збіты спецназам, затрыманы падчас разгону акцыі пратэсту і змешчаны ў СІЗА КДБ па абвінавачванні ў масавых беспарадках. Уначы з 31 снежня 2010 г. на 1 студзеня 2011 г. вызвалены пад падпіску аб нявыездзе пасля напісання тлумачальнай запіскі на імя А.Лукашэнкі.

30 сакавіка абвінавачванне перафармулявана на ч.1 арт. 342 КК РБ — «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх» .

20.05.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Жанна Жукоўская вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 2 гады ўмоўна з выпрабаваўчым тэрмінам 2 гады.

---

## Vital Rymasheuski

Born on 3 March 1975 in Babruisk in the Mahiliou region. Married, has a daughter. Construction engineer, graduated from Belarusian National Technical University in 1997. In 1999 studied at the High State Management School at the Union of Public Government in Germany, did research on the economical and political situation of Germany. Has been a member of the Coordinative Council of the Belarusian Association of Young Politicians since 1996. In 2002—2004 – was a member of the Presidium of the Belarusian National Council of Youth and Children's Civil Organizations "Rada". A leader of the campaign "For Protection of Freedom of Conscience and Confession in Belarus". A member of the organizing committee of the Belarusian Christian Democracy Party, chairperson of its Minsk branch. The head of the Minsk organization of the Belarusian Christian Democracy Party, co-chair of the steering committee of the party.

A presidential candidate at the presidential election of 2010. Was injured by the riot police during the protest action of 19 December (his head was slashed with a truncheon). Detained during the dispersal of the action and put in the pre-trial prison of the KGB. Received charges under Article 293 of the Criminal Code. On 31 December was released under a written undertaking not to leave after writing an explanatory note for A.Lukashenka.

On 30 March 2011 the charges were changed to Article 342, part 1, "organization of actions that grossly violate the public order or active participation in them".

On 20 May, Zhana Zhukouskaya, Judge of the Minsk Frunzenski District Court, sentenced Vital Rymasheuski to 2 years of conditional imprisonment with a two-year probation term.

# Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ

Нарадзіўся 12 мая 1981 года ў Мінску. Вучыўся ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце на факультэце філасофіі. У 2000-2001 гг. служыў у войску. З 2001 г. — сябра АГП, чалец Палітрады АГП, у 2007-2010 гг. — кіраўнік камісіі па міжнародных пытаннях партыі. Выдатна валодае англійскай мовай. Пачынаючы ад 1999 года, браў удзел ва ўсіх выбарчых кампаніях на розных узроўнях, ад валанцёра да кіраўніка выбарчага штаба.

У 2005-2009 гг. меў свой бізнэс, з'яўляўся дырэктарам кансалтынгавай кампаніі, але сам вырашыў зачыніць яе, каб не мець непрыемнасцяў з уладамі, бо на той момант ужо збіраўся ўдзельнічаць у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

У 2010 г. — намеснік старшыні грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!». Падчас прэзідэнцкіх выбараў узначальваў ініцыятыўную групу, а затым — штаб кандыдата ў прэзідэнты У. Някляева. Затрыманы ўначы 20 снежня пасля акцыі пратэсту ў цэнтры Мінска, абвінавачаны па арт. 293 КК «Масавыя беспарадкі».

З студзеня 2011 г. вызвалены з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе. 30 сакавіка абвінавачванне перакваліфікавана на ч.1 арт.342 КК РБ — «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх» .

20.05.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Жанна Жукоўская вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 2 гады ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам 2 гады.

---

# Andrei Dzmitryieu

Born on 17 May 1981 in Minsk, studied at the philosophical faculty of the European Humanities University. Served in the army in 2000—2001. A member of the United Civil Party since 2001, a member of the political council of the party, in 2007—2010 — the head of the international affairs commission of the UCP. Has taken part in the electoral campaigns of different levels since 1999. He advanced from a volunteer to the head of an electoral headquarters. Dzmitryieu was detained by the police for his political activities. In 2007 he served administrative arrest. On 18 May 2010 he was detained together with other activists of the "Tell the Truth!" civil campaign which they authorities tried to dissolve.

In 2005-2009 he had a business, being the head of a consulting company, but decided to close it down not to have any trouble with the authorities, as he intended to participate in the presidential electoral campaign.

In 2010 — deputy head of the civil campaign "Tell the Truth!". During the electoral campaign he headed the electoral team of the presidential candidate Uladzimir Niakliayeu.

Was detained in the night of 19-20 December 2010, after the action of protest in Nezalezhnasts Square in Minsk, and put in the pre-trial prison of the KGB. Received charges under Article 293 of the Criminal Code, "mass riot".

On 3 January he was released under a written recognizance not to leave Minsk. On 30 March 2011 the charges to him were changed to Article 342, part 1 of the Criminal Code "organization of actions that grossly violate the public order or active participation in them".

On 20 May 2011 Zhana Zhukouskaya, Judge of the Frunzenski District Court of Minsk, sentenced Andrei Dzmitryeu to 2 years of conditional imprisonment with a two-year probation period.

# Аляксандр ФЯДУТА

Нарадзіўся 3 лістапада 1964 г. у Гродна. Скончыў філалагічны факультэт Гродненскага дзяржаўнага ўніверсітэта, працаваў настаўнікам. У 1991-1994 гг. — старшыня ЦК ЛКСМ Беларусі. У 1994 годзе быў сябрам перадвыбарчага штаба А. Лукашэнкі, пасля абрання якога працаваў начальнікам упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі. У пачатку 1995 г. сышоў з пасады і працаваў журналістам у шэрагу выданняў («Белорусская деловая газета», «Московские новости», «Имя», «Народная Воля»). З'яўляецца адным з заснавальнікаў экспертнага сайта «Наше мнение». Кандыдат філалагічных навук (1997). Літаратуразнаўца, палітолаг, публіцыст.

Падчас прэзідэнцкіх выбараў-2010 г. працаваў у штабе кандыдата У. Някляева. Быў арыштаваны 20 снежня ва ўласнай кватэры і змешчаны ў СІЗА КДБ, абвінавачаны па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкама па чч. 1 і 2 арт. 293 КК »Масавыя беспарадкі».

30 сакавіка абвінавачванне перафармулявана на ч.1 арт.342 КК РБ — «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх» . 8 красавіка вызвалены з турмы пад падпіску аб нявыездзе.

20.05.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Жанна Жукоўская вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 2 гады ўмоўна з выпрабаваўчым тэрмінам 2 гады.

# Aliaksandr Fiaduta

Born on 3 November 1964 in Hrodna. Graduated from the philological faculty of the Hrodna State University, worked as a teacher. In 1994 he was the head of the Central Committee of Lenin's Komsomol and an activist of Aliaksandr Lukashenka's campaign team, later was appointed the head of the Public and Political Information Department of the Presidential Administration. In 1995 Aliaksandr joined the opposition, collaborating with a number of independent newspapers: “Belorusskaya Delovaya Gazeta”, “Moskovskiye Novosti”, “Imya”, “Narodnaya Volia”. Was one of the founders of the expert website “Our Opinion”. Candidate of philological sciences (1997). Literary critic and political scientist.

During the 2010 presidential election, Fiaduta was member of Uladzimir Niakliayeu's headquarters. Detained on 20 December in his apartment and put into the KGB prison. In late December he was charged with participation in the 19 December mass riot.

On 30 March 2011 the charges were changed to Article 342, part 1 of the Criminal Code, “organization of actions that grossly violate the public order, or participation in them”. On 8 April was released under a written undertaking not to leave Minsk.

On 20 May Zhana Zhukouskaya, Judge of the Minsk Frunzenski District Court, sentenced Aliaksandr Fiaduta to 2 years of conditional imprisonment with a two-year probation period.

# Наста ПАЛАЖАНКА

Нарадзілася 2 жніўня 1990 г. у Мінску. З 1997 па 2008 гг. вучылася ў 73-й мінскай школе (з паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы) і ў 37-й школе (з эстэтычным ухілам). З 2008 г. — студэнтка факультэта філасофіі і палітычных навук Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.

Намесніца старшыні «Маладога Фронту» (2008). У МФ прыйшла ў 2004 годзе, ва ўзросце 14 гадоў і хутка стала сапраўдным лідарам франтаўскай моладзі. Дзясяткі разоў затрымлівалася міліцыяй, адбывала адміністрацыйныя арышты. У 2007 годзе ў ліку іншых маладафронтаўцаў была асуджаная па крымінальным артыкуле 193.1 КК РБ за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. У якасці пакарання суд абраў папярэджанне.

Пасля мітынгу пратэсту на плошчы Незалежнасці ўначы была схоплена ў сябе дома. Аперацыю па затрыманні 20-гадовай дзяўчыны ажыццяўлялі пятнаццаць супрацоўнікаў спецслужбаў. Было прад'яўлена абвінавачванне па справе аб масавых беспарадках, змешчана ў СІЗА КДБ.

17 лютага вечарам вызвалена пад падпіску аб нявыездзе. 30 сакавіка абвінавачванне перафармулявана на ч.1 арт.342 КК РБ — «Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх» .

8 сакавіка стала першай беларускай, узнагароджанай Міжнароднай жаночай прэміяй за мужнасць, якую ўручала дзяржсакратар ЗША Хілары Клінтан.

20.05.2011 г. суддзя Фрунзенскага райсуда Мінска Жанна Жукоўская вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 1 год умоўна з выпрабаваўчым тэрмінам 1 год.

# Nasta Palazhanka

Born on 2 August 1990 in Minsk. In 1997-2008 attended Schools # 73 (with intensive study of the German languge) and #37 (with aesthetic specialization). In 2008 she entered the Philosophy and Political Studies Faculty of the European Humanities University.

Member of the “Young Front” since 2004. Was elected deputy chairperson of the organization in 2008. She has been detained and sentenced to arrest terms many times. In 2007 Nasta was, together with other “Young Front” activists, convicted under Article 193-1 of the Criminal Code, “activities on behalf of an unregistered organization” and received an official warning from the court.

After the 19 December protest, Nasta was arrested at home by 15 KGB agents. She received charges under Article 293 of the Criminal Code, “mass riot”, and taken to the pre-trial prison of the KGB.

On 17 February evening she was released on recognizance. On 8 March she became the first Belarusian citizen awarded with the International Women’s Prize for Courage, passed to her by the US Secretary of State Hillary Clinton. On 30 March the charges to Nasta were changed to Article 342, part 1, “organization of actions that grossly violate the public order or active participation in them”.

On 20 May Zhana Zhukouskauya, Judge of the Frunzenski District Court of Minsk, sentenced Nasta Palazhanka to 1 year of conditional imprisonment with one-year probation period.

# Мікалай СТАТКЕВІЧ

Нарадзіўся 12 жніўня 1956 года ў вёсцы Лядна Слуцкага раёна ў сям'і настаўнікаў. У 1978 г. скончыў Мінскае вышэйшае інжынернае зенітнае ракетнае вучылішча па спецыяльнасці «Ваенны інжынер па радыёэлектроніцы». У 1978-1982 гг. служыў у Мурманскай вобласці старэйшым інжынерам аўтаматызаванага каманднага пункта зенітнай ракетнай брыгады часткі СПА. З 1985 г. па 1990 г. працаваў выкладчыкам у роднай вайсковай вучэльні на кафедры АСК. У 1986 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1993 — доктарскую. Мае больш за 60 работ у галіне АСК, эрганоміке, інжынернай псіхалогіі, сацыяльнай псіхалогіі. Узнагароджаны медалём «За бездакорную службу». Падпалкоўнік запасу.

У 1990 г. стаў адным з аўтараў канцэпцыі Беларускага войска, рэалізаванай пасля распаду СССР. У 1991 г. у знак пратэсту супраць падзей у Вільні выйшаў з КПСС. 20 жніўня 1991 г. адзіны з вайскоўцаў у Беларусі публічна выступіў супраць путчу ў Маскве. Тады ж абвясціў аб стварэнні Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) і да 1995 г. кіраваў ім.

У 1991 г. увайшоў у Цэнтральную раду і выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), з 1995 г. яе старшыня. У 1992 г. выступіў з ініцыятывай прывядзення да прысягі афіцэраў Беларускага войска і правёў акцыю прывядзення да прысягі незалежнасці Беларусі некалькі тысяч афіцэраў запасу на галоўнай плошчы Мінска. З 1999-га — старшыня Усходне-еўрапейскага сацыял-дэмакратычнага форуму, з 2003 года — лідар «Еўрапейскай кааліцыі».

У 2005 г. быў асуджаны да 3 гадоў абмежавання волі за арганізацыю ў кастрычніку 2004 г. у Мінску вулічнай акцыі супраць афіцыйных вынікаў парламенцкіх выбараў і рэферэндуму. Выгадаваў двух дачок.

Кандыдат у прэзідэнты на выбарах-2010. Затрыманы пасля гвалтоўнага разгону паслявыбарчага мітынгу на плошчы Незалежнасці. Змешчаны ў СІЗА КДБ, дзе 20 снежня па 12 студзеня трымаў галадоўку пратэсту. Падчас следства абвінавачванне было зменена з ч. 2 на ч.1 арт. 293 КК — «Арганізацыя масавых беспарадкаў».

26.05.2011 г. суддзя Ленінскага райсуда Мінска Людміла Грачова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 6 гадоў у калоніі ўзмоцненага рэжыму.

# Mikalai Statkevich

Born on 12 August 1956 in the village of Liadna, Slutsk district, in the family of teachers. Graduated from Minsk Army Engineering College in 1978, with the qualification of military engineer in radio-electronics. In 1978—982 Mikalai served in the army in Murmansk region, Russia, as an engineer of an automated control center of anti-aircraft brigade. In 1985—1990 he worked as a lecturer at Minsk Army Engineering College. In 1986 he received a candidate's degree, in 1993 — a doctor's degree. He is the author of over 60 works on ergonomics, engineering psychology and social psychology. Awarded with a medal "For Impeccable Service". Mikalai retired in the military rank of lieutenant colonel.

In 1990 he was an author of the new concept of the Belarusian army. In 1991 he left the USSR Communist Party in protest against the Vilnius January events. On 20 August 1991 he was the only Belarusian military officer to denounce the Soviet coup d'état attempt. The same year he founded the Association of Belarusian Military Officers and was its head until 1995.

In 1991 Mikalai joined the Central Council and the Executive Committee of the Belarusian Social Democratic Party "Narodnaya Hramada", and become its chairperson in 1995. In 1992 he initiated a public taking of oath to Belarus by several thousands of retired officers on the main square of Minsk. Since 1999 — chairman of the "East-European Social-Democratic Forum", and since 2003 — the leader of the "European Coalition".

In 2005 he was sentenced to 3 years of imprisonment for staging a street protest against the official results of the 2004 parliamentary elections and referendum. Has two daughters.

In 2010 he became a presidential candidate. Mikalai took part in the 19 December Minsk demonstration. He was detained and put into the KGB pre-trial prison, where he was on a hunger strike of protest on 19 December — 12 January. Was initially charged under part 2 of Article 293, "participation in mass riot", but later the charges were changed to part 1 of Article 293, "organization of mass riot".

On 26 May 2011 Liudmila Hrachova, Judge of the Leninski District Court of Minsk, sentenced him to 6 years in a high-security colony.

# Дзмітрый Ус



Нарадзіўся ў 1971 г. у Мінску. Скончыў юрыдычны факультэт Гродзенскага ўніверсітэта. Беспартыйны. Працаваў рабочым на заводзе «Інтэграл» у Мінску, пазней у сферы будаўніцтва. З 1992 г. — дырэктар выдавецтва «Трывіюм». У 1999-2003 гг. з'яўляўся дэпутатам Мінскага гарадскога савета, на выбарах у 2003 і 2007 гг. яго не зарэгістравалі. У 2010 г. балатаваўся на мясцовых выбарах, але не набраў неабходную колькасць галасоў выбаршчыкаў.

Кандыдат у прэзідэнты на выбарах — 2010. Затрыманы ў Мінску ўначы пасля масавай акцыі пратэсту на плошчы Незалежнасці, змешчаны ў СІЗА КДБ. Удзень 20 снежня вызвалены адтуль пад падпіску аб нявыездзе. Доўгі час з'яўляўся падазраваным па справе аб масавых беспарадках. Заяўляў пра ціск з боку следства з мэтай атрымання абвінаваўчых паказанняў на ягонага сябра, другога кандыдата М. Статкевіча.

18 сакавіка было прад'яўлена абвінавачванне ў арганізацыі масавых беспарадкаў па ч. 1 арт. 293 КК РБ.

26.05.2011 г. суддзя Ленінскага райсуда Мінска Людміла Грачова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 5 гадоў 6 месяцаў у калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 01.10.2011 г.

# Dzmitry Uss

Born in 1971 in Minsk. Graduated from the juridical faculty of Hrodna State University. Non-partisan. Married with a son. Worked at the “Integral” plant in Minsk, then — as a construction worker. Has headed the “Trivium” publishing house since 1992. Was a member of the Minsk City Council in 1999—2003. His candidacy wasn't registered at the elections of 2003 and 2007. In 2010 he participated in the election to the local councils, but lost, getting 33% of votes.

A presidential candidate at the 2010 election. Detained in the night of 19—20 December in Minsk, after the protest action. Kept at the pre-trial prison of the KGB. On 20 December was released under a written undertaking not to leave. On 19 March was given charges under Article 293, part 2, “participation in mass riot”. Stated that the investigation had pressurized him with the aim to make him testify against his friend Mikola Statkevich, another presidential candidate.

On 18 March received charges under part 1 of Article 293, “organization of mass riot”.

On 26 May Liudmila Hrachova, Judge of the Leninski District Court of Minsk, sentenced him to 5.5 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 1 October 2011.

# Аляксандр Класкоўскі

Нарадзіўся 26 верасня 1978 года. У 1995 годзе скончыў менскую сярэднюю школу №55, паступіў на факультэт журналістыкі БДУ, пазней атрымаў вышэйшую юрыдычную адукацыю. З ліпеня 1997 па снежань 1998 праходзіў тэрміновую ваенную службу ва Узброенных сілах Рэспублікі Беларусь. Пасля вяртання з войска ў хуткім часе ажаніўся. Яго абранніцай стала Наталля, дзяўчына з Бялынічаў Магілёўскай вобласці.

Зараз у іх трое дзетак: 1999, 2003 і 2008 г.н. Паводле жонкі Наталлі, Саша — вельмі чулы, пяшчотны і адказны сем'янін.

У 1999 годзе паступіў на службу ў Дзяржаўтаінспекцыю ГУУС Мінгарвыканкама ў якасці інспектара ДПС, затым працаваў у асобнай роце ДПС ДАІ Мінскай вобласці і ў аддзеле ДАІ Ленінскага РУУС сталіцы. Неаднаразова затрымліваў угоншчыкаў, у тым ліку з выкарыстаннем табельнай зброі, займаў першыя месцы на розных спаборніцтвах ад РУУС. У 2005 годзе звольнены ў званні лейтэнанта.

Аляксандр быў нетыповым міліцыянтам: часта размаўляў па-беларуску, імкнуўся складаць пратаколы на роднай мове, прыносіў на працу «Народную волю», «Нашу Ніву» і іншую незалежную прэсу. Яго бацькі і сястра — вядомыя ў Беларусі журналісты. Сястра Вольга стала палітычнай уцякачкай з прычыны пераследу за сваю журналісцкую дзейнасць.

Затрыманы ў ноч на 21 снежня 2010 г. у сябе дома. Змешчаны пад варту ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны па трох крымінальных артыкулах: ч. 1 і ч. 2 арт. 293 — «Масавыя беспарадкі», арт. 369 — «Абраза прадстаўніка ўлады» і арт. 382 — «Самавольнае прысваенне звання ці ўлады службовай асобы».

26.05.2011 г. суддзя Ленінскага райсуда Мінска Людміла Грачова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 5 гадоў у калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09. 2011 г.

# Aliaksandr Klaskouski

Born on 26 September 1978. Finished Minsk school #55 in 1995 and entered the faculty of journalism of the Belarusian State University, later received a higher education in law. In July 1997 — December 1998 served in the army. In 1999 he returned from military service and married a girl from the town of Bialynichy, Mahiliou region. At present the family three children, born in 1999, 2003 and 2008. According to his wife Natallia, Aliaksandr is very compassionate, loving and responsible husband and father.

In 1999 he got employed as a road police inspector at the Leninski District Road Police Department of Minsk. During his military service, he arrested armed car thieves and received a state prize for that. Apart from that, he took first places in sports competitions. However, he was fired from his job in 2005, having the rank of lieutenant.

Aliaksandr was not a regular policeman, he usually spoke Belarusian, tried to draw up reports in the native language and brought "Narodnaya Volia", "Nasha Niva" and other independent periodicals to work. His father and sister are well-known Belarusian journalists. The latter even became a political refugee because of her journalistic activity.

Aliaksandr was detained in the night of 20-21 December 2010 at his apartment and put in custody in the KGB pre-trial prison. Was charged under 3 articles of the Criminal Code, parts 1 and 2 of Article 293, "mass riot", Article 369, "insult of state official" and Article 382 "unauthorized conferment of the rank or powers of an official".

On 26 May 2011 Liudmila Hrachova, Judge of the Leninski District Court of Minsk, sentenced Aliaksandr Klaskouski to 5 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.

# Дзмітрый БУЛАНАЎ



Нарадзіўся 25 жніўня 1984 г. у Мінску. Пакутуе на шэраг хранічных захворванняў, сярод іх рэўматызм, небяспечныя алергічныя рэакцыі. Скончыў медыцынскі каледж, два гады працаваў па размеркаванні медбратам у інфекцыйнай бальніцы. Потым быў заняты ў камерцыйных структурах у сферы медыцыны. Паступова вырашыў звязаць жыццё з музыкай, паступіў у Інстытут сучасных ведаў на спецыяльнасць «Прадзюсаванне», заняўся камп'ютарнай аранжыроўкай. Грае на бас-гітары, стварыў свой уласны музычны калектыў. Палітыкай не цікавіўся, ніколі не быў сябрам палітычных партыяў і рухаў.

Быў затрыманы і збіты падчас разгону мірнай акцыі 19 снежня, яму рассеклі галаву. Пасля адбыцця 10 сутак арышту на Акрэсціна, з траўмай галавы ў шпіталі хуткай дапамогі яму накладалі швы.

На плошчы Незалежнасці быў у цэнтры падзей кароткі прамежак часу, але трапіў у поле зроку відэакамер. Паўторна затрыманы 12-га студзеня, уручана пастанова пра статус падазраванага па справе аб масавых беспарадках. Мерай стрымання спачатку абралі затрыманне на 3 дні, два з іх зноўку правёў у турме на Акрэсціна, потым яго перавялі ў СІЗА па вул. Валадарскага. Прад'яўлена абвінавачванне ва ўдзеле ў масавых беспарадках.

26.05.2011 г. суддзя Ленінскага райсуда Мінска Людміла Грачова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 14.09.2011 г.

# Dzmitry Bulanau

Born on 25 August 1984 in Minsk. Suffers from a number of chronic diseases, including rheumatism, dangerous allergic reactions. Graduate of a medical college, he worked as a male nurse in an isolation hospital for two years, and then — in some commercial medical institutions.

Has profound interest in music. Entered the Institute of Contemporary Knowledge to study sound production. He also learned computer arrangement. Plays bass-guitar, created a music band. He has never been engaged in politics.

Detained and beaten up (head injury) during the dispersal of the 19 December peaceful protest. Sentenced to 10 days of arrest. Stitches were put on his head in the ambulance hospital after he served the arrest.

He was on Nezalezhnasts Square for a short period of time, but was registered by video cameras. On 12 January he was detained again for refusing to turn up for interrogation without an official summons. Dzmitry was declared suspect in the mass riot criminal case and put in the delinquents' isolation center on Akrestsin Street for three days. Then he was later transferred to Minsk pre-trial prison #1 in Valadarski Street and was charged under part 2 of Article 293, "participation in mass riot".

On 26 May Liudmila Hrachova, Judge of the Leninski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 14 September 2011.

# Аляксандр КВЯТКЕВІЧ

Нарадзіўся 4 лютага 1987 г. З дзяцінства дапамагаў маці па працы і па гаспадарцы. Скончыў базавую 168-ю мінскую школу, затым прафесійна-тэхнічную вучэльню па спецыяльнасці «Сталяр-станочнік». Працаваў на вытворчасці — вырабляў кампрэсары для машын. Займаўся футболам, цікавіцца тэхнікай.

У дзень прэзідэнцкіх выбараў прагаласаваў і пайшоў на плошчу. «Трэба не толькі галасаваць, але і адстойваць свой выбар», — запомніла ягоныя словы маці. Падчас разгону акцыі быў затрыманы і пакараны адміністрацыйным арыштам на 12 сутак.

4 студзеня затрыманы як падазраваны па крымінальнай справе, прад'яўлена абвінавачванне ва ўдзеле ў масавых беспарадках. Да суда ўтрымліваўся пад вартай у СІЗА КДБ.

26.05.2011 г. суддзя Ленінскага райсуда Мінска Людміла Грачова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 3 гады 6 месяцаў у калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

# Aliaksandr Kviatkevich

Born on 4 February 1987 in a family of workers. He has helped his mother in her work and household since childhood. Kviatkevich finished secondary school #168, and then — a vocational school, where he received the qualification of a joiner and machine operator. He worked at a plant, producing compressors for cars. Is interested in engineering, played football.

He voted on the Election Day and then went to the Square. According to his mother, he said “One needs not just to vote, but also to defend one's vote” before going there. Aliaksandr was detained and served 12-day arrest for participation in the 19 December action.

On 4 January he was detained and placed to the pre-trial prison of the KGB as a suspect. Received charges under Article 293 of the Criminal Code, part 1 and 2, “mass riot”.

On 26 May 2011 Liudmila Hrachova, Judge of the Leninski District Court of Minsk, was sentenced to 3.5 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 11 August 2011.

# Арцём ГРЫБКОЎ

Нарадзіўся 6 студзеня 1989 г. у вёсцы Савашы Карэлічскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў базавую Палужскую школу, добра вучыўся, пісаў гумарыстычныя вершы і сцэнарыі для школьных святаў (цікавіўся іх правядзеннем, нават калі ўжо скончыў навучанне).

Таксама вучыўся ў мінскім каледжы лёгкай прамысловасці, але заўсёды яго цягнула да тэатральных пастановак, літаратуры і мастацтва. Вярнуўся дахаты і скончыў будаўнічае СПТВ у Карэлічах. Паколькі ў райцэнтры было цяжка ўладкавацца на працу, з’ехаў у Мінск. Працаваў грузчыкам і прэсоўшчыкам. Дапамагаў сваім родным, якія засталіся ў родных мясцінах; асабліва імкнуўся дапамагчы гадаваць сваю любімую сястрычку-немаўля.

19 снежня пасля працы аказаўся ў раёне плошчы Незалежнасці і далучыўся да мітынгоўцаў. Быў затрыманы каля чыгуначнага вакзала, адбыў 10 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у паслявыбарчай акцыі пратэсту. 12 студзеня затрыманы паўторна па абвінавачванні ў масавых беспарадках. Знаходзіўся пад вартай у СІЗА № 1 на вул. Валадарскага.

26.05.2011 г. суддзя Ленінскага райсуда Мінска Людміла Грачова вынесла пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін 4 гады ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Памілаваны ўказам Прэзідэнта Беларусі 11.08.2011 г.

# Artsiom Hrybkou

Born on 6 January 1989 in the village of Savashy of the Karelichy district of the Hrodna region. Finished secondary school in the village of Paluzzha. He learned well, wrote funny poems and scenarios for school feasts (he paid interest to them even after finishing the school).

He also studied at the Minsk College of Light Industry. Always paid a great interest to theatric plays, literature and art. He returned home and finished a building vocational school in Karelichy. As far as it was difficult to find a job in Karelichy, he moved to Minsk, where he worked as a loader and pressman. He helped his relatives, especially in upbringing his little sister.

On 19 December, after work, he came to the Nezalezhnasts Square and joined the demonstrators. Was detained near St.Symon and Alena Church and served 10-day arrest for participation in the protest rally. On 12 January he was detained again and charged with participation in mass riot. Was kept in custody in the pre-trial prison in Valadarski Street.

On 26 May 2011 Liudmila Hrachova, Judge of the Leninski District Court of Minsk, sentenced him to 4 years in a high-security colony.

Pardoned by presidential decree on 11 August 2011.

# Андрэй ПАЗНЯК

Нарадзіўся 20 мая 1977 г. у г. Жодзіна. Скончыў Жодзінскі прафесійны ліцэй, на працягу 14 гадоў працаваў у родным горадзе электраманцёрам на БелАЗе. Палітыкай не цікавіўся. Вырас у спартовай сям'і, захапляўся футболам, займаўся ім, быў балельшчыкам БАТЭ.

Затрыманы 19 снежня на плошчы Незалежнасці, пакараны штрафам у памеры 30 базавых велічынь. Калі пасля навагодніх святаў не з'явіўся на працу, аказалася, што ён затрыманы ў межах крымінальнай справы і ўзяты пад варту. Прад'яўлена абвінавачанне па крымінальнай справе аб масавых беспарадках. Змешчаны ў СІЗА № 1 на вул. Валадарскага ў Мінску.

26.05.2011 г. суддзя Ленінскага райсуда Мінска Людміла Грачова вынесла пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін 2 гады без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Вызвалены з-пад варты ў зале суда.

# Andrei Pazniak

Born on 20 May 1977 in Zhodzina. Graduate of local professional lyceum. Employee of the BelAZ carcar plant. Paid no interest to politics. Grew up in a sportive family, plays football and is a fan of the BATE football team.

Detained on 19 December in Nezalezhnasts Sqaure. Fined BYR 1,050,000. Didn't come to work after the New Year holidays. As it became known later, he was arrested and charged under pats 1 and 2 of Article 293. Was kept in custody in the pre-trial prison in Valadarski Street.

On 26 May Luiudmila Hrachova, Judge of the Leninski District Court of Minsk, sentenced him to 2 years of personal restraint without direction to an open penitentiary institution. Released from custody in the court hall.

# Святаслаў БАРАНОВІЧ

Нарадзіўся 16 красавіка 1986 г. у в. Кавалі Вілейскага раёна Мінскай вобласці ў шматдзетнай сям'і. Шосты і самы малодшы з дзяцей. Скончыў Праўдзінскі дзяржаўны будаўнічы прафесійны ліцэй у Пухавіцкім раёне, атрымаў спецыяльнасць сантэхніка. Працуе будаўніком у Мінску. Прафесійна займаецца боксам.

На Плошчу прыйшоў, каб падтрымаць кандыдата, за якога галасаваў, А. Саннікава. Падчас гвалтоўнага разгону мірнай акцыі яго затрымалі і пакаралі адміністрацыйным арыштам на 10 сутак.

Апошні фігурант крымінальнай справы аб масавых беспарадках. Быў затрыманы паўторна ў межах крымінальнай справы толькі праз паўгода — 15 чэрвеня. Ён сам з'явіўся ў міліцыю пасля выкліку па тэлефоне. Змешчаны ў СІЗА на вул. Валадарскага. На відэа зафіксавана, што ён аказаў супраціў спецназаўцам, біў па шчытах, але гэта адбылося пасля таго, як Святаслава ўдарылі дубінкай па галаве.

Судовы працэс пачаўся 29 жніўня, аднак быў перанесены ў сувязі з нез'яўленнем пацярпелых: прыйшлі толькі 12 з 30 супрацоўнікаў палка міліцыі спецыяльнага прызначэння ГУУС Мінгарвыканкама. У гэты ж дзень абвінавачанаму змянілі меру стрымання на падпіску аб нявыездзе.

12 кастрычніка суддзя Маскоўскага райсуда Мінска Алена Рудніцкая вынесла пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін 3 гады без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.

# Sviataslau Baranovich

Born on 16 April 1986 in the village of Kavali in the Vileika district of the Minsk region. He is the sixth, the younges child in the family. Graduated from Praudzina State Building Lyceum in the Pukhavichy district with the qualification of sanitary technician. Works as a builder in Minsk. Is a professional boxer.

He came to the Square to support the candidate for whom he voted, A.Sannikau. Was detained during the violent dispersal of the peaceful rally and sentenced to 10 days of arrest.

Sviataslau is the last figurant of the "mass riot" criminal case. He was detained within the framework of this case only in six moths — on 15 June. He came to the police after being summonsed there by phone. Kept in custody in the pre-trial prison in Valadarski Street. As it can be seen on video recordings, after receiving a blow in the head with a police baton, Sviatlaslau started showing resistance to the police and hitting on their shields.

The trial started on 29 August, but was postponed as only 12 out of 30 victims, riot policemen, came to court. The same day Sviataslau Baranovich was released from custody under a recognizance.

On 12 October Alena Rudnitskaya, Judge of the Maskouski District Court of Minsk, sentenced him to 3 years of personal restraint without direction to an open penitentiary institution.

# Алесь МІХАЛЕВІЧ

Нарадзіўся 15 мая 1975 г. у Мінску ў сям'і навукоўцаў. Скончыў школу № 19 з матэматычным ухілам, Беларускі гуманітарны ліцэй, юрыдычны факультэт БДУ па спецыяльнасці «Палітолаг-юрыст». Узначальваў Задзіночанне беларускіх студэнтаў — грамадскую арганізацыю па абароне правоў студэнтаў беларускіх ВНУ. Праходзіў стажыроўкі ў Варшаўскім і Оксфардскім універсітэтах. Мае сям'ю. З жонкай Міланай, настаўніцай ангельскай мовы, выхоўваюць дзвюх дачок, 2000 і 2009 г.н.

Займаўся моладзевымі абменамі і турызмам, працаваў на кіруючых пасадах у турыстычным СП «Аркадыя» , юрысконсультам Асацыяцыі інвалідаў вайны ў Афганістане (2007-2008), юрыстам Беларускага незалежнага прафсаюза (2008-2010). З 2005 г. мае акрэдытацыю Міністэрства эканомікі РБ у якасці антыкрызіснага кіраўніка. Свабодна валодае чатырма мовамі.

Дэпутат Пухавіцкага раённага савета і каардынатар Асамблеі дэпутатаў мясцовых саветаў (2003-2007). Выдаваў незалежную газету «Рэгіён» у г. Мар'іна Горка Мінскай вобласці. Ініцыяваў шэраг крокаў па пашырэнні паўнамоцтваў органаў мясцовага самакіравання.

Намеснік старшыні партыі БНФ (2004-2008 гг.), балатаваўся на пасаду старшыні партыі ў 2008 г., аднак быў выключаны за публічную крытыку яе кіраўніцтва. У 2010 г. заснаваў новы грамадскі рух — «За мадэрнізацыю».

Кандыдат на пасаду Прэзідэнта на выбарах-2010. Затрыманы ўначы з 19 на 20 снежня ў сябе дома пасля разгону масавай дэманстрацыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Змешчаны ў СІЗА КДБ, абвінавачаны па крымінальнай справе аб масавых беспарадках.

19 лютага выпушчаны пад падпіску аб нявыездзе. 28 лютага зрабіў публічную заяву аб тым, што падпісаў пагадненне аб супрацоўніцтве са спецсужбамі ў замен на волю, а таксама, што ў СІЗА КДБ падвяргаўся катаванням. Ён назваў «амерыканку» канцлагерам у цэнтры Мінска і накіраваў адпаведныя заявы ў Генеральную пракуратуру Беларусі і ў Камітэт па правах чалавека ААН. Таксама падчас прэс-канферэнцыі А.Міхалевіч падкрэсліў, што агалошванне гэтай інфармацыі ён разглядае як спыненне кантактаў са спецслужбамі. Прызнанне і заява экс-кандыдата мелі вялікі рэзананс у грамадстве.

14 сакавіка на 12-00 палітыка зноў выклікалі ў КДБ «для правядзення следчых дзеянняў», аднак раніцай стала вядома, што ён пакінуў Беларусь. 24 сакавіка Міністэрства ўнутраных справаў Чэхіі афіцыйна падцвердзіла, што А. Міхалевіч атрымаў палітычны прытулак у гэтай краіне.

# Aliaksei Mikhalevich

Born on 15 May 1975 in Minsk in the family of scientists. Student of Minsk school #19 and the Belarusian Humanities Lyceum. In 1997 he graduated from the Faculty of Law of the Belarusian State University. During his studies, he was head of the Association of Belarusian Students (an organization that protects the rights of Belarusian students). Attended the internship courses at Warsaw University and Oxford University. Brings up two daughters, born in 2000 and 2009, together with his wife Milana, a teacher of the English language.

Since 1997 he was engaged in youth exchange and tourism projects, since 2000 employed as a manager in the "Arcadia" travel agency. Left his job after seven inspections, following his participation in the 2004 parliamentary elections. Since 2005 he has been accredited by the Ministry of Economics as an anti-recession manager. In 2007—2008 he worked as legal counsel at the Soviet-Afghan War Disabled Veterans Association, in 2008-2010 — as a legal counsel at Belarusian Independent Trade Union. Fluent in four foreign languages.

Between 2003 and 2007 he was deputy of Pukhavichy district council and coordinator of the Local Council Deputies Assembly. Former editor of the "Rehiyon" independent newspaper, issued in the town of Mar'ina Horka, Minsk region. Initiator of a number of decisions for the accretion of power of local self-government bodies. In 2004—2008 — deputy chair of the Belarusian Popular Front Party. In 2008 he was nominated for the post of the Party's chair, but was expelled for public criticism of its leaders. In 2010 he launched a new movement "For Modernization".

A candidate at the presidential election-2010. Detained on 20 December in his apartment for participation in the 19 December protest and put into custody in the KGB pre-trial prison. Charged under Article 293 ("mass riot").

On 19 January Aliaksei was released on recognizance. On 28 February 2011 Aliaksei made a public statement that he had to sign a cooperation agreement with the KGB in order to be released from jail, and that he was tortured at the pre-trial prison of the KGB, which he called a concentration camp in the center of Minsk. He also filed appropriate appeals with the General Procuracy of Belarusian and the UN Human Rights Committee. During the press-conference A.Mikhalevich also emphasized that he considered the disclosure of this information as cessation of the cooperation agreement with the KGB. His confession and statement had a wide public response.

Aliaksei Mikhalevich received a summons to KGB for 12 a.m. on 14 March. However, as it became known that morning, he had secretly left the country. On 24 March the Ministry of Internal Affairs of the Czech Republic confirmed that he had received political asylum in the country.

# Наталля РАДЗІНА

Нарадзілася 3 траўня 1979 г. Родам з Кобрына. Скончыла журфак БДУ. У журналістыцы з 1997 года. Працавала ў газетах «Имя», «Народная воля», «Навіны», «Наша Свабода». Сябра БАЖ з 2000 г. Неаднаразова падвяргалася арыштам і збіццю ў часе асвятлення акцый апазіцыі. У 2010 г. атрымала міжнародную ўзнагароду Камітэта па абароне журналістаў «За свабоду прэсы».

Уначы з 19 на 20 снежня была затрымана ў рэдакцыі і змешчана ў СІЗА КДБ. Прад'яўлена абвінавачанне па крымінальнай справе аб масавых беспарадках.

28 студзеня вызвалена пад падпіску аб нявыездзе і з 30 студзеня да 30 сакавіка жыла ў Кобрыне, па месцы рэгістрацыі. 30 сакавіка журналістка выехала ў Мінск для ўдзелу ў следчых дзеяннях па позве з КДБ, 31 сакавіка з ёй знікла тэлефонная сувязь, а 1 красавіка рэсурс Хартыі'97 паведаміў, што журналістка знаходзіцца за мяжой. 4 жніўня 2011 г. Н. Радзіна папрасіла палітычнага прытулку ў Літве.

23 жніўня крымінальны пераслед супраць журналісткі быў спынены «ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства». Адпаведны дакумент за подпісам старэйшага следчага СУ ПР ГУУС Мінгарвыканкама капітана міліцыі Д.У. Дышчанкі атрымалі бацькі Наталлі.

Між тым сайт «Хартыі» і сама Н. Радзіна фігуравалі яшчэ ў крымінальнай справе нібыта за паклёп у СМІ на былога начальніка УКДБ па Гомельскай вобласці Івана Каржа, у межах расследавання якой у офісе і па месцы жыхарства Наталлі неаднаразова праходзілі вобшукі, канфіскоўвалася абсталяванне. Таксама сведкамі па гэтай справе праходзілі яшчэ тры незалежныя журналісткі — С. Калінкіна, М. Коктыш і І. Халіп.

8 верасня Дэпартамент па справах міграцыі Літоўскай Рэспублікі даў палітычны прытулак Н. Радзінай. Яна працягвае рэдагаваць сайт «Хартыі» (www.charter97.org) адтуль.

# Natallia Radzina

Born on 3 May 1979 in the town of Kobryn in the family of an officer. She worked with various independent periodicals — “Imya”, “Narodnaya Volia”, “Naviny” and “Nasha Svaboda”. Repeatedly arrested and beaten during opposition rallies. On 16 March 2010 she received a blow at her face during a search at the “Charter’97” office, held within the framework of the criminal case concerning the alleged libel against the former head of the Homel Region KGB Department, Ivan Korzh. The office of “Charter’97” and Natallia’s apartment were repeatedly searched within the framework of this case. Three more independent journalists — S.Kalinkina, I.Khalip and M.Koktysh were witnesses in the case, too.

In 2010 Natallia was nominated by the British human rights group Index on Censorship for the Freedom of Speech award for “fighting against repressions and activities aimed at changing political climate.”

She was detained at the Charter-97 office on 20 December 2010 and put into the KGB pre-trial prison. In late December she was charged under Article 293 (“mass riot”).

On 28 January Natallia was released and put under house arrest in her native town of Kobryn. On 30 March she went to Minsk to take part in investigative actions of the KGB. On 31 March her phone stopped answering, and on 1 April the website of “Charter’97” wrote that she was abroad. On 4 August 2011 N.Radzina asked for political asylum in Lithuania.

On 23 August the criminal case against the journalist was dropped because of the absence of corpus delicti. Her parents received an appropriate document, signed by police captain D.Dyshchanka.

# Уладзімір КОБЕЦ

Нарадзіўся 7 лістапада 1971 г. у Слоніме. Пасля школы ў 1989 г. скончыў БДУ па спецыяльнасці «географ-эколаг». Дзеючы сябра Беларускага геаграфічнага таварыства. Мае два дыпломы дыстанцыйных курсаў шведскага ўніверсітэта Уппсала — «Народанасельніцтва Балтыі» і «Навакольнае асяроддзе рэгіёна Балтыйскага мора». Быў накіраваны на працу ў Мінскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. У 1999 годзе пераведзены ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. У 2000 г. з адзнакай скончыў Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці «менеджар-эканаміст». У тым жа годзе пакінуў дзяржаўную службу і стаў адным з заснавальнікаў і каардынатараў руху «Зубр».

Узнагароджаны медалём МЗС Славаччыны «За персанальны ўнёсак у развіццё дэмакратыі і грамадзянскай супольнасці». Удзельнік першага Форума грамадзянскай супольнасці «Усходняга партнёрства» ў Брусэлі ў 2009 г. Жанаты, мае двух дзяцей.

Кіраўнік ініцыятыўнай групы, а потым выбарчага штаба кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Андрэя Саннікава. 21 снежня затрыманы і змешчаны ў СІЗА КДБ , прад’яўлена абвінавачанне па крымінальнай справе аб масавых беспарадках. У ноч на 27 студзеня адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

23 жніўня крымінальная справа супраць У. Кобеца была спынена «ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства». Адпаведны дакумент за подпісам старэйшага следчага СУ ПР ГУУС Мінгарвыканкама капітана міліцыі Д.У. Дышчанкі атрымала жонка абвінавачанага.

19 верасня на сайце Хартыі’97 з’явіўся артыкул У. Кобеца, у якім распавёў аб катаваннях і вярбоўцы ў следчым ізалятары КДБ. Па словах апазіцыянера, ён не мог паведаміць пра гэта раней, бо адчуваў пэўныя псіхалагічныя цяжкасці і не мог іх вырашыць без дапамогі спецыялістаў. «Ужо паўтара месяца я знаходжуся за межамі Беларусі… прыйшоў час даць адказ на пытанне, на якое я не мог адказаць, працягваючы заставацца ў краіне: на якіх жа ўмовах адпускалі з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе? Адкажу наўпрост — на ўмовах, пра якія распавёў Алесь Міхалевіч — распіска аб «добраахвотным» садзейнічанні органам дзяржбяспекі ў рэалізацыі імі канстытуцыйных абавязкаў...»

# Uladzimir Kobets

Born on 7 November, 1971 in the town of Slonim. In 1989 he graduated from the Belarusian State University, department of Geography. Member of the Belarusian Geography Society. Received two diplomas of the Sweden-based Uppsala University distance courses — “The Human Population of the Baltic States” and “The Environment of the Baltic Sea Area”. Former employee of the Minsk Regional Institute of Natural Resources and Environmental Protection and the Ministry of Natural Resources and Environmental Protection (since 1999). In 2000 graduated from the Academy of Public Administration under the aegis of the President of the Republic of Belarus with the qualification of manager. The same year he left civil service and became one of the founders of the “Zubr” opposition movement.

Winner of the Slovakian MFA’s medal “For the Personal Contribution to the Development of Democracy and Civil Society”. Participant of the first Eastern Partnership Civil Society Forum in Brussels in 2009. Married, has two children: a 15-year-old daughter and a 12-year-old son.

Campaign chief of Andrei Sannikau’s team. Detained by the KGB agents on 21 December 2010. Charged under parts 1 and 2 of Article 293 of the Criminal Code (“mass riot”). On 27 January he was released on recognizance.

On 23 August the criminal case against U.Kobets was dropped because of absence of corpus delicti. An appropriate document, signed by police captain D.Dyshchanka was received by his wife.

On 19 September an article by U.Kobets was published on the website of “Charter’97”. There he wrote about the tortures and recruitment at the KGB pre-trial prison. According to the oppositionist, he was unable to write about it earlier, feeling the psychological difficulties he couldn’t overcome without the aid of specialists. “I have been outside Belarus for 1,5 months by known... The time has come to give an answer to the question which I couldn’t answer while staying in the country: what were the condition’s of one’s release from the KGB jail? I will say it openly — these are the conditions Ales Mikhalevich said about — a written undertaking about “voluntary” assistance to the security services in the realization of the “constitutional duties”...”

# Анатоль Лябедзька

Нарадзіўся 27 чэрвеня 1961 г. у вёсцы Трылес Сталбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Мае дзве вышэйшыя адукацыі: Мінскі педагагічны інстытут (факультэт гісторыі і французскай мовы, 1985 г.) і БДУ ( юрыдычны факультэт, 1993 г.) Служыў у войску. Жанаты.

Двойчы дэпутат Вярхоўнага Савета (12-га і 13-га скліканняў). Быў намеснікам старшыні Камісіі ВС па справах моладзі, намеснікам старшыні Камісіі па міжнародных справах. У 1992 г. стварыў Беларускую асацыяцыю маладых палітыкаў і быў абраны яе кіраўніком. Падчас выбараў 1994 г. працаваў у камандзе А. Лукашэнкі, сышоў з-за канфлікту. Уступіў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю, быў абраны намеснікам старшыні гэтай партыі, ад 2000 г. — старшыня АГП.

Шмат разоў трапляў пад рэпрэсіі ўладаў за сваю палітычную дзейнасць, пад канец 1990-х гадоў стаў рэкардсменам па працяглацсі адбытых па палітычных матывах адміністрацыйных арыштах. Некалькі разоў абвінавачваўся ў паклёпе на дзеючага Прэзідэнта.

На выбарах Прэзідэнта ў 2010 г. працаваў у камандзе кандыдата ад АГП — свайго намесніка Яраслава Раманчука. Уначы 20 снежня пасля акцыі пратэсту затрыманы сіламі дзяржбяспекі ў сябе дома. Змешчаны ў СІЗА КДБ. Абвінавачаны ў арганізацыі масавых беспарадкаў.

Позна ўвечары 6 красавіка вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. На наступную раніцу палітык правёў партыйную нараду, якая фактычна стала і прэс-канферэнцыяй. Умоўна знаходжанне за кратамі А. Лябедзька падзяліў на тры перыяды: снежань-студзень, калі ў СІЗА КДБ кіравалі людзі ў чорных масках. Гэта быў самы цяжкі перыяд. Люты, калі пачалася невялікая лібералізацыя. І сакавік, калі сітуацыя нармалізавалася, але не больш, чым уласціва звычайнай савецкай турме. Ніякіх следчых дзеянняў з ім не праводзілася.

23 жніўня крымінальная справа супраць палітыка паводле дасланага яму поштай афіцыйнага дакумента спынена ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства. Абмежаванне на выезд таксама знятае.

# Anatol Liabedzka

Leader of the United Civic Party of Belarus. Born on 27 June 1961 in the village of Tryles, Staubtsy district, Minsk region. Worked as a mechanizer on a collective farm in his district. Then he entered the Faculty of French and History of Minsk Pedagogic University, graduating from it in 1985. Between 1985 and 1987 Anatol served in the Soviet Army. Then he worked as deputy head of Ashmiany boarding school. In 1990 he was elected deputy of the Supreme Soviet of the 12th convocation, working as deputy chair of the Commission for Youth Affairs. In 1992 he founded and headed the Belarusian Association of Young Politicians. In 1993 he graduated from the Law Faculty of Belarusian State University. Married with a son.

During the 1994 presidential election, Anatol worked in Lukashenka's team, later resigning over a row and joining the United Civic Party. In 1995 he was re-elected deputy of the Supreme Soviet of the 13th convocation, working as deputy chair of the Commission for Foreign Affairs. He denounced the 1996 referendum and refused to join the National Assembly after the dissolution of the Supreme Soviet. In 2000 he was elected chairperson of the United Civil Party.

He has been repeatedly repressed by the authorities for his political activities. Anatol has been for a number of times charged with libel of the President. He was beaten up by unknown person in masks.

During the 2010 presidential election he worked in Yaraslau Ramanchuk's team. Anatol was detained on 20 December by the KGB and put in the KGB pre-trial prison. Facing charges for staging mass riots. Late in the evening of 6 March he was released under a written non-leave undertaking.

A. Liabedzka singled out three periods during his imprisonment. The first and the hardest one was January-February when people in black masks ruled in the pre-trial prison of the KGB. In February there started some slight liberalization and in March the situation became normal, but not better that in ordinary soviet prison. No investigative activities were conducted with Anatol Liabedzka.

On 23 August the criminal case against him was dropped because of the absence of corpus delicti. He received an appropriate document by mail. The foreign travel restrictions towards him were removed formally removed. However, the KGB refused to return his passport for a long time, as a result of which he had difficulties while going abroad.

# Алег Корбан

Нарадзіўся 4 лютага 1985 года ў Мінску. Скончыў сярэднюю школу № 22. Вучыўся ў Міжнародным гуманітарным эканамічным інстытуце на юрыдычным факультэце. Выключаны з ВНУ за актыўны ўдзел у дзейнасці ў моладзевым нацыянальным руху «Малады Фронт». Цікавіцца беларускай гісторыяй і культурай. Працаваў на Мінскім заводзе шасцерняў, адкуль быў звольнены з-за ціску КДБ на кіраўніцтва. Актыўны ўдзельнік вулічных акцыяў дэмакратычных сілаў. Неаднаразова затрымліваўся супрацоўнікамі КДБ і міліцыі. Неаднаразова адбываў арышты за ўдзел у масавых акцыях.

У 2007 годзе асуджаны за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі па арт. 193-1 КК РБ.

Сябра Нацыянальнага камітэта Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Намеснік старшыні Мінскай гарадской арганізацыі АГП. Старшыня моладзевага крыла АГП «Маладыя дэмакраты» (абраны 29.01.2011).

На прэзідэнцкіх выбарах-2010 быў актыўным удзельнікам кампаніі Яраслава Раманчука, кіраваў ягоным штабам па г. Мінску.

Затрыманы ўначы пасля акцыі 19 снежня, змешчаны ў СІЗА КДБ, прад'яўлена абвінавачванне па крымінальнай справе аб масавых беспарадках.

7 студзеня вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. Паўторна затрыманы 31 студзеня, аднак пасля 2 гадзінаў допыту ў КДБ зноў вызвалены.

23 жніўня крымінальны пераслед супраць А. Корбана спынены ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства. Адпаведны дакумент за подпісам следчага, капітана міліцыі Д.У. Дышчанкі ён атрымаў па пошце 26 жніўня. Таксама знятае абмежаванне на выезд.

# Aleh Korban

Born on 4 February 1985. Finished secondary school #22. Studied at the juridical faculty of the International Humanities Economic University, but was expelled from it for active participation in the national youth movement “Young Front”. Is interested in Belarusian history and culture. Worked at the Minsk Pinion Plant, but was dismissed because of the pressurization of the KGB on the administration. An active participant of pro-dem street actions, frequently detained by KGB and police officers and sentenced to arrest.

In 2007, being a member of the “Young Front”, was fined withing the framework of a criminal case instigated for “activities on behalf of unregistered organization” (Article 193-1 of the Criminal Code). A member of the National Committee of the United Civil Party. Deputy Chair of the Minsk city organization of the United Civil Party. Chair of the Minsk city organization of the “Young Democrats”, the UCP youth wing (elected on 29 January 2011).

During the presidential election he was an active participant of the electoral campaign of Yaraslau Ramanchuk, headed his electoral headquarters in Minsk.

Detained in the night of 19-20 December 2010, after the protest action in central Mink. Received charges under part 1 and 2 of Article 293, “organizing and participation in mass riot”. Was kept in the pre-trial prison of the KGB till 7 January, then was released under a written recognizance not to leave Minsk. Was repeatedly detained on 31 January in Minsk, interrogated at the KGB for about two hours and then let go.

On 23 August the criminal case against him was dropped because of the absence of corpus delicti. He received an appropriate document, signed by police captain D.Dyshchanka, by mail. The foreign travel restrictions towards him were removed.

# Анатоль Паўлаў

Нарадзіўся 18 чэрвеня 1949 года ў Выбаргу Ленінградскай вобласці ў сям'і ваеннага. Частка дзяцінства прайшла на архіпелагу Новая Зямля. З 1965 г., калі бацька дэмабілізаваўся па стане здароўя, жыве ў Мінску. Скончыў мінскую СШ № 4 (1966 г.), хімічны факультэт БДУ (1971 г.). Працаваў настаўнікам у школе ў Лагойскім раёне. У 1973-2000 гг. — на розных пасадах у БДУ, дайшоў да прарэктара. У пачатку 2000 г. абраны сябрам гаркама прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі (структуру, якая пазней была ліквідаваная). На выбарах 2001 г. кіраваў штабам Міхаіла Чыгіра, разам з якім уступіў у АГП.

Старшыня Мінскай гарадской арганізацыі АГП, сябра Палітсавета і Нацыянальнага камітэта партыі, кіраўнік камісіі па адукацыі і навуцы.

Падчас прэзідэнцкіх выбараў-2010 быў даверанай асобай кандыдата ў прэзідэнты Яраслава Раманчука. Затрыманы 20 снежня ў сябе дома. Абвінавачаны па крымінальнай справе аб масавых беспарадках. Змешчаны ў СІЗА КДБ.

Вызвалены 7 студзеня пад падпіску аб нявыездзе.

23 жніўня крымінальная справа спынена ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства. Адпаведны дакумент за подпісам следчага, капітана міліцыі Д.У. Дышчанкі ён атрымаў па пошце. Абмежаванне на выезд знята.

# Anatol Paulau

Born on 18 June 1949 in the town of Vyborg in the Leningrad region, in the family of a military officer. He spent a part of his childhood at the Novaya Zemlya archipelago. Has lived in Minsk since 1965, when his father retired because the state of his health. Finished secondary school #4 in 1966, and graduated from the chemical faculty of Belarusian State University in 1971. Worked as a teacher in the Lahoisk district. In 1973-2000 – at various official positions in BSU. In the beginning of 2000 he was elected a member of the Minsk city committee of the trade union of educational and scientific workers, which was later dissolved. Headed the electoral headquarters of the presidential candidate Mikhail Chyhir at the election of 2001, and joined the UCP together with him.

Chair of the Minsk city organization of the United Civil Party, member of its Political and National councils.

Was an electioneering agent of the presidential candidate Yaraslau Ramanchuk during the 2010 presidential election. Detained at 7 a.m. on 20 December at home. Received charges under parts 1 and 2 of Article 293 of the Criminal Code, “organizing and participation in mass riot” and was placed in the pre-trial prison of the KGB. On 7 January was released under a written recognizance not to leave Minsk.

On 23 August the criminal case against him was dropped because of the absence of corpus delicti. He received an appropriate document, signed by police captain D.Dyshchanka, by mail. The foreign travel restrictions towards him were removed.

# Аляксандр Арастовіч

Нарадзіўся  9 снежня 1952 года ў Слуцку. У 1975 г. скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут (цяпер БНТУ). Вучыўся ў аспірантуры ў Чэхаславаччыне, абараніў дысертацыю і стаў дацэнтам. На працягу 27 гадоў выкладаў у роднай ВНУ на кафедры будаўнічай механікі.  Быў вымушаны сысці адтуль з-за праблем са здароўем. Адзін час працаваў майстрам у будаўнічым трэсце, потым — у прыватнай фірме.

З 1992 па 2005 гг. — сябра БСДП. У 2010 г. абраны першым намеснікам старшыні аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) пад лідарствам Міколы Статкевіча. Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. быў даверанай асобай кандыдата на пасаду Прэзідэнта М. Статкевіча.

Затрыманы ўвечары 19 снежня разам з Міколам Статкевічам, змешчаны ў СІЗА КДБ, прад'яўлена абвінавачванне па крымінальнай справе аб масавых беспарадках.

15 лютага вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. Па словах А. Арастовіча, усяго падчас знаходжання ў «амерыканцы» ў яго было тры допыты. Вочных ставак ні з кім не было.

23 жніўня крымінальную справу спынілі ў сувязі з адсутнасцю складу злачынства. Адпаведны дакумент за подпісам следчага, капітана міліцыі Д.У. Дышчанкі ён атрымаў па пошце. Абмежаванне на выезд знятае.

# Aliaksandr Arastovich

Born on 9 December 1952 in the town of Slutsk. Graduated from the Belarusian State Polytechnic Institute (at present — the Belarusian National Technical University) in 1975. Studied at post-graduate courses in Czechoslovakia, defended a thesis and became a docent. Worked as a professor at the Belarusian National Technical University for 27 years. Had to retire because of health problems. Worked at a building trust. Now is employee of a private firm.

In 1992—2005 — member of the Belarusian Social Democratic Party. In 2001 elected deputy chair of the BSDP "Narodnaya Hramada" founding committee (chaired by Mikalai Statkevich). During the 2010 presidential election — activist of Statkevich's campaign team.

Detained on 19 December together with Mikalai Statkevich (the taxi they had taken was blocked by the police). Was kept in the KGB pre-trial prison, released on recognizance on 15 February. Officially charged under Article 293 of the Criminal Code. Accoirding to Arastovich, he had three interrogations in the KGB prison, but wasn't confronted to anyone.

On 23 August the criminal case against him was dropped because of the absence of corpus delicti. He received an appropriate document, signed by police captain D.Dyshchanka, by mail. The foreign travel restrictions towards him were removed.

